ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 30 (2609)
ПЯТНІЦА
28
ліпеня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



**УРАДЖАЙ 1972-га.** Саўгас «Рагазнянскі» Жабінкаўскага раёна Брэсцкай вобласці.

Фота В. ГЕРМАНА. (БЕЛТА).

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

# ДАРОГАЙ ДРУЖБЫ І БРАТЭРСТВА

### НА ЗЯМЛІ СВЯШЧЭННАЙ, У ЛЕНІНА

Тут прыняла свой першы бой першая польская дывізія імя Тадэвуша Касцюшкі. Разам са сваімі баявымі таварышамі — савецкімі салдатамі воіны новай Польшчы нанеслі ўдар па гітлераўскіх захопніках. Тут яны адчулі блізкасць ужо недалёкай перамогі, радасць сустрэчы з радзімай.



Хлебам і соллю сустракаюць салігорцы ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці трактарнага завода «Урсус».

Сюды 22 ліпеня прыехалі члены дэлегацыі Таварыства польска-савецкай дружбы, якія знаходзяцца ў гэтыя дні ў Беларусі, прадстаўнікі генеральнага консульства ПНР у Мінску, Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, прыйшлі калгаснікі і рабочыя саўгасаў, ветэраны вайны.

У цэнтры Леніна, недалёка ад гістарычнай вышыні 215,5, дзе ўзвышаецца цяпер будынак музея савецка-польскага брацтва па зброі, адбыўся мітынг.

### ГОСЦІ ПІЯНЕРАЎ

Юныя галасы звонка скандуюць: «Польшча — СССР!», «Дружба — брацтва!». У загарэлых руках хлопчыкаў і дзяўчынак кветкі беларускага лета.

Так уступіла ў свае правы свята Дня адраджэння Польшчы ў піянерскім лагеры «Беларусь», дзе адпачывае, дужэе, загартоўваецца больш за тысячу дзяцей мінскіх трактарабудаўнікоў.

Консула ПНР у Мінску Рамана Вацлаўскага, члена дэлегацыі Таварыства польска-савецкай дружбы Станіслава Вішнеўскага і аташэ генеральнага консульства ПНР у Мінску Дануту Стаховіч, якія прыехалі да піянераў, сустракалі і іх юныя суайчыннікі — 36 польскіх харцэраў, што адпачываюць у «Беларусі».

Гэты дзень быў багаты на радасныя падзеі. Беларускія і польскія школьнікі выступілі ў вялікім канцэрце, удзельнічалі ў масавых гімнастычных практыкаваннях, выходзілі на старты лагернай спартакіяды.

### МОЦНЫМІ БЫЛІ ПОЦІСКІ РУК

Салігорск... Гэты малады шахцёрскі горад уносіць немалы ўклад ва ўмацаванне савецка-польскай дружбы, у развіццё рознабаковых сувязяў беларускага і польскага народаў. Адсюль польскія земляробы атрымліваюць калійныя ўгнаенні. Толькі сёлета за першае паўгоддзе камбінат «Беларуськалій» адправіў іх у Польскую Народную Рэспубліку больш за 893 тысячы тон, перавыканаўшы абавязацельствы.

Салігорцы сардэчна прымалі ў сябе гасцей з Польскай Народнай Рэспублікі.

Першы сакратар гаркома партыі А. Ф. Дзяржыцкі расказаў аб Салігорску, аб працоўных справах шахцёраў, будаўнікоў, трыкатажнікаў. Затым польскія сябры агледзелі горад, пабывалі на камбінаце «Беларуськалій», у яго прафілакторыі.

У Палацы культуры гарнякоў адбыўся вечар савецка-польскай дружбы. Кароткім уступным словам яго адкрыў А. Ф. Дзяржыцкі. З дакладам выступіў старшыня Салігорскага аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы К. К. Гец. Ад імя моладзі гасцей вітала сакратар райкома камсамола Марыя Валынец.

У слове ў адказ член прэзідыума галоўнага праўлення Таварыства польска - савецкай дружбы Станіслаў Вішнеўскі сардэчна падзякаваў салігорцам за гасцінны прыём.

### МУЗЫКА І ПЕСНІ ГАСЦЕЙ

Вечарам канцэртную залу Беларускай дзяржаўнай філармоніі запоўнілі аматары музыкі і песні. Тут гучалі творы польскіх і савецкіх кампазітараў.

Першае месца ў канцэрце заняла музыка Станіслава Манюшкі, якая адыграла значную ролю ў збліжэнні польскага і рускага народаў у галіне музычнай культуры. Напісаная ў мінулым стагоддзі, яна і сёння зразумелая і блізкая чалавеку працы таму, што ўзвышае яго сацыяльную свядомасць.

Прысутныя пачулі ўверцюры і сімфанічныя п'есы ў выкананні Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра Беларускай ССР з удзелам польскіх музыкантаў. Цёпла віталі гледачы польскіх спевакоў, сярод якіх было нямала лаўрэатаў Усяпольскага конкурсу савецкай песні.

### СУПРАЦОЎНІЦТВУ МАЦНЕЦЬ

Адным з яркіх праяўленняў мацнеючага савецка-польскага брацтва стала падзея, якая адбылася ў мінулую нядзелю ў Маладзечна. Тут, на ўрачыстым сходзе грамадскасці горада з выпадку 28-й гадавіны Польскай Народнай Рэспублікі, было створана аддзяленне Таварыства савецка-польскай дружбы.

Прысутныя сардэчна віталі пасланцоў Таварыства польска-савецкай дружбы: намесніка загадчыка аддзела культуры ЦК Польскай аб'яднанай рабочай партыі Януша Насака, пісьменніка, дэпутата сейма Войцеха Жукроўскага, члена прэзідыума галоўнага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы Станіслава Вішнеўскага, а таксама генеральнага консула Польскай Народнай Рэспублікі ў Мінску Алоіза Валяшэка і консула ПНР Рамана Вацлаўскага.

З дакладам аб 28-й гадавіне Польскай Народнай Рэспублікі выступіла сакратар Маладзечанскага гаркома КПБ Л. Ф. Лыкава.

Словы гарачага прывітання і добрыя пажаданні польскаму народу выказалі ветэран Вялікай Айчыннай вайны, удзельнік вызвалення Польшчы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, кавалер ордэна «Сярэбраны крыж заслугі» і медаляў Польскай Народнай Рэспублікі В. Е. Каленчыц, сакратар гаркома камсамола В. Е. Снігірова, рабочы завода металаканструкцый, ударнік камуністычнай працы А. П. Падэра.

Пісьменнік Войцех Жукроўскі выказаў шчырую ўдзячнасць грамадскасці горада Маладзечна за добрыя пачуцці да польскага народа.

### У ГОСЦІ ДА БРАТОЎ

Раніцай 24 ліпеня калона аўтобусаў, расквечаная польскімі і савецкімі флагамі, лозунгамі і транспарантамі, мінуўшы мост цераз Заходні Буг, уехала ў польскі горад Улодава Люблінскага ваяводства. Сюды прыехала больш як 200 гасцей — калгаснікаў, рабочых саўгасаў і прамысловых прадпрыемстваў Брэсцкага раёна.

На гарадскім стадыёне адбыўся мітынг польска-савецкай дружбы. Першы сакратар Улодаўскага павятовага камітэта ПАРП Адам Мразоўскі і ветэран другой сусветнай вайны Тадэвуш Гарбачэк у сваіх прамовах пранікнёна гаварылі аб глыбокім пачуцці ўдзячнасці працоўных Польшчы савецкаму народу за велізарную дапамогу ў барацьбе супраць фашызму, а ў мірныя гады — у будаўніцтве сацыялізма.

Горача сустрэтыя польскімі сябрамі, на мітынгу выступілі таксама першы сакратар Брэсцкага райкома партыі Н. С. Рубан і ветэран Вялікай Айчыннай вайны, Герой Савецкага Саюза Н. Т. Сушанаў. Яны павіншавалі суседзяў са святам Дня адраджэння Польшчы, пажадалі ім далейшых поспехаў у будаўніцтве сацыялізма.

У гэты дзень мітынг польска-савецкай дружбы адбыўся таксама ў Бяла-Падляскім павеце Люблінскага ваяводства, куды прыехалі госці з суседняга Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці.

### «ПОЛЬСКІ ДЗЕНЬ» ТРАКТАРНАГА

24 ліпеня мінскія трактарабудаўнікі па праве могуць назваць «польскім днём».

Раніцай яны сустракалі дарагіх гасцей — дэлегацыю Таварыства польска-савецкай дружбы, якая пазнаёмілася з нараджэннем славутых мінскіх трактараў.

У цэхах завода польскія госці ўбачылі фотавыстаўкі, прысвечаныя жыццю ПНР і іх роднаму «Урсусу». Яны пачулі па заводскім радыё «Польскі агляд» — рэгулярную перадачу на трактарным.

Шмат яркіх фактаў, якія сведчаць аб мацнеючых сувязях польскіх і мінскіх трактарабудаўнікоў, прывяла вечарам гэтага дня ў сваім дакладзе старшыня мясцовага аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы на МТЗ Г. С. Ігнаценка.

Генеральны консул ПНР у Мінску Алоіз Валяшэк і член дэлегацыі Таварыства польска-савецкай дружбы Станіслаў Вішнеўскі выступілі на вечары з прамовамі.

### У ГАСЦЯХ У ПІСЬМЕННІКАЎ

У панядзелак польскія сябры былі гасцямі беларускіх літаратараў. Іх сардэчна прымалі старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў рэспублікі народны паэт БССР Максім Танк, адказны сакратар праўлення Аляксей Кулакоўскі. На сустрэчу з прадстаўнікамі брацкай краіны прыйшлі вядучыя беларускія пісьменнікі і літаратурная моладзь.

Творчыя сувязі нашых літаратараў мацнеюць і развіваюцца. Аб гэтым на сустрэчы расказалі польскі пісьменнік, дэпутат сейма Войцех Жукроўскі, консул ПНР Раман Вацлаўскі, Максім Танк і вядомы беларускі пісьменнік Янка Брыль.

Удзельнікі сустрэчы выказалі пажаданні павялічыць абмен інфармацыяй аб выданні літаратуры ў братніх краінах, а таксама часцей абменьвацца рэцэнзіямі на кнігі польскіх і беларускіх пісьменнікаў.

### ПРЫЁМ У ЦК КПБ

Намеснік загадчыка аддзела культуры ЦК ПАРП Януш Косак, пісьменнік, дэпутат сейма Войцех Жукроўскі і член прэзідыума Таварыства польска-савецкай дружбы Станіслаў Вішнеўскі, якія прыехалі з Польскай Народнай Рэспублікі для ўдзелу ва ўрачыстасцях на беларускай зямлі, а таксама генеральны консул ПНР у Мінску Алоіз Валяшэк і консул ПНР у Мінску Раман Вацлаўскі 25 ліпеня былі прыняты ў Цэнтральным Камітэце Кампартыі Беларусі сакратаром ЦК А. Т. Кузьміным. Адбылася цёплая дружалюбная гутарка.

У той жа дзень польскія сябры наведалі свяшчэнныя месцы зямлі беларускай — мемарыяльны комплекс «Хатынь» і Курган Славы. Аддаючы даніну мужнасці савецкіх воінаў, партызан, падпольшчыкаў і пакланяючыся памяці ахвяр фашызму, яны ўсклалі там кветкі.

**БЕЛТА.**

---

Здзіслаў НЯДЗЕЛЯ

## БЕЛАРУСЬ

**Васьмігадовыя вочы**
**фатаграфаваць умеюць,**
**а болей за ўсё пад вечар**
**дзіцячы альбом наклеіць.**
**...Сосен сярэднявечча,**
**чарот шапоча, —**
**на здымку Нарач святая!**

**Хлопцы глянуць—на сэрцы світае.**
**Ці лён зацвітае,**
**ці вочы!**
**Я возеру вёслы даверыў,**
**гарлачыкі белыя рву памалу.**
**Шурка вуду закідвае ў вір аерны.**
**Лазіна шчупакоў закілзала.**
**А далей на аглухлых кладках**
**Нінуся пранікам сукні кратае.**
**Руку ў ваду апускаю крадкам —**
**звечарэлая, цеплаватая.**
**Цень здаўжэлы човен калыша,**
**кіруе да берагу тата.**

**Над вадою смуга і ціша,**
**ды голас звана глухаваты.**
**От бягу сцяжынкай вясёлай,**
**смяюцца валошкі — дочкі блакіту.**
**Там гасцінец бяжыць за школай.**
**Ім ішло Вызваленне ўчора**
**нібыта...**

**І застаўся тракт легендарны**
**у падарунак для Шуркі й Нінусі.**
**Я непапраўна сентыментальны,**
**калі думаю аб Беларусі!**

Пераклаў з польскай Рыгор БАРАДУЛІН.



Сустрэча ў Саюзе пісьменнікаў БССР.



Спяваюць удзельніцы мастацкай самадзейнасці сёстры Катажына і Марыя Світалы.

Фота Ул. КРУКА.

## Паэтычная паверка

### Пятрусь БРОЎКА



### ДЗЯКУЙ ВАМ...

**1.**

Дзякуй вам, палі і пожні,
Што на хлеб давалі жыта,
Бульбу — на бліны, аладкі
І ячмень на крупы, солад...
Дзякуй вам, палі і пожні,
Што кармілі вы худобу,
Каб мы крупнік свой бялілі,
А часамі мелі скварку
У кашы смачнай бульбяное...

**2.**

Дзякуй вам, бары, дубровы,
За арэхі і чарніцы,
За паземкі і пралескі,
За грыбы сям'і ядомай
На чале з баравікамі,
За ялінавыя шаты,
Што хавалі ад нягоды,
Што нам раілі, як трэба
З лютым ворагам змагацца...

**3.**

Дзякуй вам, азёры, рэкі,
Ручаіны і крыніцы,
Што паілі нас і мылі,
Што нам раны абмывалі
І з вачэй зганялі слёзы,
Што вянкі па вас пускалі
Мы з рамонкаў і купалак,
Што вучылі вашы хвалі
Нас праплыць праз акіяны...

**4.**

Дзякуй вам, шляхі-дарогі,
І сцяжынкі палявыя,
На якіх сяброў віталі,
На якіх у час спаткання
Прызнаваліся ў каханні.
Дзякуй вам, шляхі-дарогі,
Што са светам паядналі,
Што з паходаў грозных, ратных
Нас прыводзілі дадому...

**5.**

Дзякуй небу, сонцу, зорам
Па-над роднаю зямлёю,
Што праменнем сагравалі,
Палівалі нас дажджамі,
Каб раслі мы і мужнелі,
Што шляхі нам асвятлялі,
Калі ж цемра накрывала,
Вы, як быццам, гаманілі,
Як з дарогі нам не збіцца...

**6.**

Дякуй вам, вятры-вятрыскі,
Што нам твары гартавалі,
Біўшы ў грудзі, навучалі,
Каб адольвалі нягоды,
Што ўзымалі нашы крылы
Да зары чырвонаўсходняй,
І прыносілі вясціны
Нам ад родных і ад любых,
Ды і ў горы суцяшалі...

**7.**

Дзякуй вам, хаціны нашы
З пахам смольным,
незабыўным,
Што калыскі прыкрывалі
І ад спёкі і ад золі,
За сталы бяседы шчырай
З найсардэчнымі сябрамі,
Што ў дарогу выпраўлялі,
А, счакаўшы з перамогай,
Сцяг ўздымалі, што агеньчык...

**8.**

Дзякуй жа ўсяму, што зведаў,
Што прывабіла навечна,
Сэрца моцна прывязала
І на свет раскрыла вочы!

Чэрвень, 1972 г.

●

Каб мець прытулак і начлег
І дзень пражыць у спевах —
У кожнай птушкі свой паверх,
Паміж галін на дрэвах.

Я ж, маючы характар свой,
Каб наглядаць далёка,
Сяджу, паэт, як бусел той,
На дрэве адзінокім.

Тады мне бачна навакол,
Што зроблена, што будзе,
І чым жывуць і ўвысь і дол,
І людзі,
людзі,
людзі...

Чэрвень, 1972 г.

●

Паэт паэзіі вянкі
Пляце, душой красуецца...
Пляце ж, часамі, і такі —
Ніяк не лепяцца радкі.
А ён,
А ён вар'юецца.

Ані прыладзіць бор да зор,
Суніцы да бруснічыны,
Сабе і людзям шле дакор,
Цярэбіць з роспачы віхор,
Цярэбіць аж да лысіны...

Нашто пакутваць без патрэб!
Калі радкі нясвежыя,
А славы прагнучы, аслеп...
Кідай пакуты,
Сеяць хлеб —
найбольшая паэзія!

Чэрвень, 1972 г.

### БРАХНЯ

Брахня ўздымаецца паволі,
Пакуль усю не ўзбудзіць шыр,
Яна ад шэпту з-за вугалля,
Як мыльны выплыве пузыр.

Няўцяміўшы, а мо ці варта
Дарма кагосьці абражаць,
Хто кпінамі,
хто смехам,
жартам —
Пачнуць пузыр той
раздзьмухаць.

Ды варта праўдзе дакрануцца
Ледзь-ледзь да пузыра таго —
Ён трэсне.
Бырзгі разлятуцца
На тых, хто выпусціў яго.

Чэрвень, 1972 г.

# НАШ КЛОПАТ, НАШЫ ЗАДАЧЫ

*З ВОПЫТУ РАБОТЫ ВІЦЕБСКАГА САВЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ*

**І. НАВУМЧЫК,**
сакратар Віцебскага гаркома КПБ



ПРЫГАДВАЮ: мастакі, артысты, журналісты, літаратары, музычныя работнікі, архітэктары сабраліся разам у гарадскім камітэце партыі для таго, каб паслухаць спецыяльна для іх падрыхтаваную лекцыю аб міжнародным становішчы...

Сустрэліся не проста выпадковыя наведвальнікі. Сустрэліся сябры, у якіх трывалыя, даўнія сувязі, моцныя дзелавыя кантакты, згода і ў прафесійнай, і ў грамадска-палітычнай рабоце.

Цяпер такія сустрэчы — звычайная з'ява ў Віцебску...

Творчыя справы інтэлігенцыі горада, яе духоўны і прафесійны рост пастаянна ў цэнтры ўвагі Віцебскага гаркома партыі. Гарком імкнецца выкарыстаць яе веды і энергію ў ідэалагічнай рабоце.

Аналізуючы работу творчай інтэлігенцыі, гарком партыі прыйшоў да вываду аб неабходнасці стварэння савета творчай інтэлігенцыі горада пры гаркоме партыі, які б аб'яднаў, у прыватнасці, і маладых літаратараў-пачаткоўцаў. Справа ў тым, што ў нас пакуль няма аддзяленняў Саюза пісьменнікаў, а таксама Саюза кампазітараў, а аддзяленні Саюза мастакоў і Саюза архітэктараў нешматлікія. Такім чынам, мы імкнёмся ўсе нашы творчыя сілы актывізаваць, накіраваць у рэчышча духоўнага, эстэтычнага выхавання працоўных, моладзі горада і вобласці. Савет у складзе 23 чалавек, выбраны на агульным сходзе творчых работнікаў, узначаліў член гаркома партыі, дырэктар студыі тэлебачання Ю. Новікаў.

Галоўным клопатам савета стала арганізацыя пастаяннага семінара творчых работнікаў горада (перыядычнасць заняткаў — раз на два месяцы). Тэматыка гарадскога семінара ўключае розныя тэарэтычныя пытанні, азнаямленне з жыццём буйнейшых прадпрыемстваў, вну горада і г. д. Да работы семінара мы прыцягваем творчых работнікаў, вучоных, мастацтвазнаўцаў рэспублікі. Так, з лекцыяй «Партыйнасць і грамадзянскасць савецкага мастацтва. Барацьба дзвюх ідэалогій і задачы творчай інтэлігенцыі» выступіла ў свой час загадчык кафедры гісторыі літаратуры і мастацтва Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута, дацэнт Н. Федзюкова.

Развіваюцца і іншыя формы палітычнай работы. Маецца на ўвазе ў першую чаргу азнаямленне творчай інтэлігенцыі з найбольш важнымі пытаннямі ўнутранай і знешняй палітыкі КПСС, Савецкай дзяржавы, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, работай вытворчых калектываў па выкананні рашэнняў XXIV з'езда КПСС. Такую інфармацыю мы даём на агульных сходах творчай інтэлігенцыі горада, а таксама ў ходзе выступленняў інфармацыйна-прапагандысцкіх груп гаркома партыі ў саміх калектывах. (У склад інфармацыйна-прапагандысцкіх груп гаркома партыі ўваходзяць сакратары, загадчыкі аддзелаў гаркома партыі, кіраўнікі гарсавета, гарадскіх арганізацый і ведамстваў).

Шчырая размова аб нашых справах і планах дапамагае творчым работнікам правільна ацэньваць абстаноўку, лепш разбірацца ў многіх складаных пытаннях жыцця.

У мінулым годзе ў гаркоме партыі з шырокім удзелам сакратароў партыйных і камсамольскіх арганізацый прадпрыемстваў, вну, загадчыкаў кафедраў грамадскіх навук адбылася карысная размова аб рабоце драматычнага тэатра імя Я. Коласа. Работнікі тэатра былі сведкамі прафесійнага аналізу яго работы, у той жа час яны адчулі вялікую зацікаўленасць грамадскасці ў паляпшэнні работы творчага калектыву коласаўцаў.

Адной з важных форм работы савета сталі сустрэчы-справаздачы акцёраў, мастакоў, архітэктараў у рабочых калектывах. Асабліва часта сустракаюцца з рабочымі нашы кампазітары Я. Касалапаў, Б. Насоўскі, А. Гоман. Нядаўна ў горадзе прайшоў тыдзень выяўленчага мастацтва. З калектывам завода імя Кірава сустрэліся і арганізавалі выстаўку для рабочых мастакі А. Талкач, М. Міхайлаў.

Менавіта для далейшага ўмацавання сувязяў творчых калектываў з вытворчымі — плануем правесці спецыяльны конкурс на атрыманне заводскіх прэмій.

Хацелася б сказаць, што мы таксама пастаянна сустракаемся ў гарадскім камітэце партыі з творчымі калектывамі, якія прыязджаюць да нас, расказваем ім аб нашым горадзе, нашых поспехах і планах, абменьваемся думкамі. У мінулым годзе такія сустрэчы прайшлі з калектывам Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР імя Горкага, ансамблем песні і танца Савецкай Арміі імя Аляксандрава. Гэтай вясной мы прымалі нашых гасцей — калектыў Чарнігаўскага музычна-драматычнага тэатра імя Шаўчэнкі, у чэрвені — Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР.

Адной з задач савета з'яўляецца арганізацыя прынцыповага, таварыскага аналізу і разбору творчасці нашых мастакоў, дзеячоў тэатра, архітэктараў, музычных работнікаў. У практыку работы савета ўвайшло абмеркаванне мастацкіх выставак, спектакляў, твораў кампазітараў і літаратараў. Гэта дапамагае вывесці творчых работнікаў з некаторай прафесійнай адасобленасці. Прыгадваецца, у прыватнасці, прынцыповая і адкрытая размова членаў савета, камуністаў нашага тэатра аб спектаклі па п'есе эстонскага драматурга Р. Каўгвера «Свой востраў». Кіраўніцтва тэатра пагадзілася: спектакль атрымаўся недасканалы, трэба працягваць работу над ім. Як вынік, праз некаторы час з поспехам прайшла прэм'ера пастаўленага нанава спектакля.

Асаблівую ўвагу мы стараемся ўдзяліць маладой творчай інтэлігенцыі. Пры савеце творчай інтэлігенцыі створана секцыя па рабоце з моладдзю.

Як вядома, у працэсе ідэйнай загартоўкі творчых работнікаў важнае месца займае іх удзел у грамадска-палітычным жыцці.

Многія творчыя работнікі горада — актыўныя лектары таварыства «Веды», кансультанты гурткоў мастацкай самадзейнасці, прапагандысты перадавога савецкага мастацтва ў рабочых і маладзёжных аўдыторыях. У гэтым годзе па ініцыятыве савета інтэлігенцыі і калектыву тэатра ўпершыню ў рэспубліцы працаваў народны універсітэт тэатральнага мастацтва, у якім займаецца больш як 3 тысячы чалавек. Кіруе работай універсітэта галоўны рэжысёр тэатра С. Казіміроўскі.

Бадай, няма цяпер ніводнай сферы шматграннага культурнага жыцця горада, якую б не ахопліваў савет творчай інтэлігенцыі: гэта — і гарадскі універсітэт музыкі, які працуе на базе музычнага вучылішча, і літаратурнае аб'яднанне пры абласной газеце, і універсітэт культуры на базе абласной бібліятэкі імя Леніна — ды ці пералічыш усё? Актывісты савета вядуць вялікую работу па прапагандзе культуры сярод насельніцтва.

Асабліва хацелася б адзначыць, што цяпер, дзякуючы дзейнасці савета, узраслі, умацаваліся шэфскія сувязі інтэлігенцыі абласнога цэнтра над сельскімі ачагамі культуры. Многія акцёры Віцебскага абласнога тэатра пачалі аказваць пастаянную дапамогу сельскім драматычным калектывам. Заслужаны артыст рэспублікі Г. Дубаў, напрыклад, дапамагае Багушэўскаму народнаму тэатру ў падборы рэпертуару, дае парады рэжысёрам і акцёрам-аматарам. Такую ж работу праводзяць і народная артыстка рэспублікі З. Канапелька, якая шэфствуе над Пастаўскім народным тэатрам. Многа карыснага робіць у Талачынскім народным тэатры заслужаны артыст БССР Б. Левін.

Гаворачы аб эфектыўным шэфстве, нельга не адзначыць і грамадскай работы Д. Сімановіча — адзінага ў горадзе члена Саюза пісьменнікаў БССР. У апошні час ён пабываў у Чашніках, Шаркаўшчыне, Лепелі і шэрагу іншых месц, дзе правёў заняткі з мясцовымі літаб'яднаннямі.

Такія некаторыя вынікі нашай работы з творчай інтэлігенцыяй.

Мы разумеем, што зроблена яшчэ далёка не ўсё, і шукаем новыя формы работы.

Цяпер у плане работы савета многа цікавых задумаў, мерапрыемстваў, накіраваных на годную падрыхтоўку да 50-годдзя ўтварэння Саюза ССР.

# САМАЯ ЦУДОЎНАЯ СІЛА

*Першы сакратар ЦК КП Беларусі П. М. МАШЭРАЎ адказвае на пытанні галоўнага рэдактара «Литературной газеты»*




**ПЫТАННЕ. Пасля Вялікай Айчыннай вайны Беларусь ляжала ў руінах. Здавалася, спатрэбіцца дзесяткі гадоў, каб аднавіць разбураныя гарады і сёлы, народную гаспадарку рэспублікі. Але ўжо ў 1950 годзе быў пераўзыдзены даваенны ўзровень па выпуску валавой прадукцыі. Што дапамагло беларускаму народу так хутка аднавіць эканоміку сваёй рэспублікі?**

**АДКАЗ.** Ваша пытанне закранае надзвычай важную тэму, дае магчымасць звярнуцца да адной з самых хвалюючых старонак у сапраўды легендарнай гісторыі барацьбы і перамог гераічнага савецкага народа.

Сапраўды, Беларусь, як і іншыя раёны нашай краіны, якія падвергліся фашысцкаму нашэсцю і перажылі жах варожай акупацыі, уяўляла сабой пасля Вялікай Айчыннай вайны карціну неапісальных разбурэнняў і папялішчаў, людскіх нягод і нечувана цяжкіх страт. У віхуры ваеннага ліхалецця ад рук гітлераўскіх захопнікаў загінуў кожны чацвёрты жыхар нашай рэспублікі. Цэлыя вобласці былі ператвораны ворагам у мёртвыя зоны. Засталіся без прытулку каля трох мільёнаў чалавек.

Нядобразычліўцы і ворагі савецкага народа ў свой час суцяшалі сябе надзеяй, што абяскроўленыя і спустошаныя фашыстамі раёны краіны, у тым ліку і наша рэспубліка, доўгія гады не здолеюць акрыяць ад цяжкіх вынікаў вайны, што затармозіцца ўся справа камуністычнага будаўніцтва. Але яны пралічыліся, бо недаацанілі вялікія перавагі савецкага дзяржаўнага і грамадскага ладу, планавай сацыялістычнай сістэмы гаспадаркі, непераўзыдзеныя ідэйныя і маральныя якасці савецкага чалавека, выхаванага ленінскай партыяй і ўсім укладам нашага жыцця.

І, вядома, няма ніякага цуду ў тым, што наша рэспубліка, якая ў снежні 1944 года здолела выпусціць менш як адну дзевятую аб'ёму прамысловай прадукцыі 1940 года, ужо к 1951 году не толькі дасягнула, але і пераўзышла даваенны ўзровень прамысловай вытворчасці. За такі ж кароткі тэрмін была адноўлена тэхнічная база сельскай гаспадаркі. Зрэшты, пра цуд можна весці гаворку ў тым сэнсе, што Камуністычная партыя, якая ўзначаліла барацьбу за хутчэйшую ліквідацыю вынікаў вайны і далейшы ўздым сацыялістычнай эканомікі і культуры, прывяла ў дзеянне, кажучы словамі У. І. Леніна, «самую цудоўную ў свеце сілу» — невычарпальную сілу рабочых і сялян, накіравала ў рэчышча стваральнай працы волатаўскую энергію непарушнай дружбы савецкіх народаў.

Камуністы, усе працоўныя Беларусі ведаюць, што іх самаадданыя намаганні па аднаўленні і далейшым развіцці народнай гаспадаркі завяршыліся поспехам дзякуючы ленінскай нацыянальнай палітыцы КПСС, дзякуючы таму, што на фронце пасляваенных аднаўленчых работ, на мірнай ніве працы зліліся ў адно воля і энергія, талент і веды сыноў і дачок самых розных нацыянальнасцяў нашай вялікай Радзімы.

Радзіма-маці накіроўвала нам усё неабходнае для хутчэйшага аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі і культуры: будаўнічыя матэрыялы і тэхніку, сталь і вугаль, нафту і бавоўну, кнігі і навуковае абсталяванне. ЦК КПСС і Савецкі ўрад у першую пасляваенную пяцігодку толькі на капітальнае будаўніцтва выдзелілі нашай рэспубліцы сродкі, якія перавышалі асігнаванні на тыя ж мэты за ўсе перадваенныя пяцігодкі, разам узятыя.

Важна падкрэсліць, што аднаўленне і развіццё народнай гаспадаркі рэспублікі праводзіліся на пашыранай, новай аснове. Да вайны ў Беларусі не было, напрыклад, такіх галін, як аўтамабіле- і трактарабудаванне, буйная хімічная індустрыя, электроніка, нафтаздабыча. Не было і адпаведных кадраў спецыялістаў, рабочых раду новых прафесій. Цяпер яны ёсць. І ва ўсім гэтым велізарную неацэнную дапамогу аказалі нам вучоныя, спецыялісты і рабочыя Масквы і Горкага, Ленінграда і Свярдлоўска, Волгаграда і Харкава, нафтавікі Башкірыі і Татарыі, гарнякі Урала і Запалар'я, працаўнікі многіх іншых раёнаў краіны.

Народная гаспадарка рэспублікі ў колькасных і якасных адносінах узрасла надзвычайна. Так, прадукцыя прамысловасці ў параўнанні з 1940 годам павялічылася к 1972 году ў 14 разоў. І мы з гордасцю гаварылі і гаворым, што хуткае пасляваеннае аднаўленне і бурны ўзлёт прадукцыйных сіл Беларусі, як і іншых раёнаў краіны, гэта жывое ўвасабленне сукупнай працы і ўзаемаўзбагачальнага супрацоўніцтва мільёнаў і мільёнаў людзей, што складаюць дружную сям'ю, імя якой — савецкі народ.

**ПЫТАННЕ. У Пастанове ЦК КПСС «Аб падрыхтоўцы да 50-годдзя ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік» гаворыцца, што ў «братнім яднанні з незвычайнай паўнатой раскрыліся стваральная энергія, творчыя здольнасці, таленты ўсіх нацый і народнасцяў Савецкай дзяржавы». Як раскрыўся мастацкі талент беларускага народа, якія найбольш яркія яго праявы ў апошні час і якую ролю ў развіцці беларускай культуры адыгрывае яе духоўная роднасць з іншымі нацыянальнымі культурамі народаў нашай краіны?**

**АДКАЗ.** Як вядома, мастацкі талент любога народа невычарпальны. Уся справа ў магчымасцях яго выяўлення, у тых сацыяльна-эканамічных умовах і духоўным асяроддзі, якія вызначаюць як сам уклад народнага жыцця, так і ступень раскрыцця разнастайных здольнасцяў працоўных — сапраўдных творцаў усіх матэрыяльных і духоўных багаццяў грамадства. Да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі беларускі народ, як і іншыя народы нашай краіны, гібеў у галечы, цемры і невуцтве, бо, як пісаў У. І. Ленін, раней увесь чалавечы розум, увесь яго геній тварыў толькі для таго, каб даць адным усе даброты тэхнікі і культуры, а іншых пазбавіць самага неабходнага — асветы і развіцця.

І толькі дзякуючы перамозе Вялікага Кастрычніка ў дружнай сям'і разняволеных рэвалюцыяй народаў, у братнім яднанні з імі мы за рэкордна кароткі тэрмін прайшлі шлях ад амаль пагалоўнай непісьменнасці насельніцтва да ажыццяўлення ўсеагульнай сярэдняй адукацыі; ад адзінкавых навуковых устаноў выключна прыкладнога характару — да магутных навукова-даследчых комплексаў, якія аб'ядноўваюць тысячы вучоных і спецыялістаў; ад цемры і невуцтва — да высокапрафесійных літаратуры і мастацтва, масавай мастацкай творчасці, сапраўднага росквіту ўсіх галін духоўнага жыцця працоўных; ад мастацтва для нямногіх «выбраных» — да мастацтва народа і для народа; ад некалькіх паўсаматужных друкарняў — да сучасных паліграфкамбінатаў; ад вострага «кніжнага голаду» — да мільённых тыражоў кніг, газет і часопісаў.

Інакш кажучы, у Беларусі, як і ва ўсёй краіне, створаны спрыяльныя сацыяльна-палітычныя ўмовы, магутная матэрыяльная база для поўнага выяўлення талентаў і здольнасцяў чалавека працы, адкрыты самыя шырокія магчымасці для ўсё ўзрастаючай адукаванасці і культуры народных мас. Характэрна, што зараз у рэспубліцы звыш 80 працэнтаў тых, хто закончыў васьмігадовую школу, не задавальняецца дасягнутым і імкнецца атрымаць сярэднюю, а потым і вышэйшую адукацыю. У Беларусі студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў на кожныя 10 тысяч чалавек насельніцтва даводзіцца больш, чым у Англіі, ФРГ, Францыі, Італіі, Швецыі. Расце колькасць высокакваліфікаваных рабочых, якія атрымліваюць прафесійную падрыхтоўку на базе сярэдняй адукацыі. На кожную тысячу жыхароў штогод выпускаецца 2.785 кніг і 2.844 экземпляра часопісаў і іншых перыядычных выданняў. Працуе 20.785 бібліятэк усіх відаў. Да вышынь прыгожага далучаюць працаўнікоў гарадоў і сёл рэспублікі 14 прафесійных тэатраў, 2 філармоніі, Акадэмічная харавая капэла, Дзяржаўны народны хор, ансамбль танца і рад іншых буйных творчых калектываў.

Шматграннасць мастацкага таленту беларускага народа ўвасабляе і плённая дзейнасць амаль двухтысячнага атрада пісьменнікаў, мастакоў, скульптараў, кампазітараў, дзеячоў тэатра і кіно. Верныя ленінскім прынцыпам партыйнасці і народнасці, яны бачаць сэнс і вышэйшае прызначэнне сваёй працы ў тым, каб сваімі творамі дапамагаць людзям і жыць лепш, і быць лепшымі, выконваць з гонарам і годнасцю высокую місію пачынальнікаў і творцаў камуністычнай цывілізацыі. Нельга не адзначыць, што за апошнія гады — гады небывалага палітычнага і працоўнага ўздыму, які ахапіў усю краіну, у рэспубліцы створаны рад па-сапраўднаму значных, таленавітых твораў, у якіх атрымалі належнае ўвасабленне многія незабыўныя старонкі гісторыі, тэмы вялікага грамадзянскага, патрыятычнага і інтэрнацыянальнага гучання.

Іх месца і значэнне ў мастацкай скарбніцы народа вызначаюцца не толькі і нават не столькі той роляй, якую яны адыгрываюць у духоўным жыцці таго або іншага нацыянальнага рэгіёна, колькі сілай уплыву на розумы і сэрцы ўсіх народаў краіны. Вось чаму мы радуемся ўсенароднаму прызнанню творчасці відных майстроў літаратуры — народнага паэта Беларусі Петруся Броўкі і празаіка Івана Мележа, творы якіх атрымалі высокую ацэнку савецкай грамадскасці і ўдастоены Ленінскай прэміі. Ленінскай прэміяй адзначана і выдатная работа трупы нашых архітэктараў і скульптараў, што стварылі цяпер сусветна вядомы мемарыяльны комплекс «Хатынь», які ўвекавечыў беспрыкладную мужнасць савецкага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны і выклікае ў сэрцах мільёнаў людзей пачуццё класавай нянавісці да фашызму — гэтаму жахліваму спараджэнню імперыялізму.

Нямала творчых здзяйсненняў і на рахунку беларускіх кампазітараў, мастакоў, дзеячоў тэатра і кіно, музыкантаў. Іх лепшыя работы сталі здабыткам усяго савецкага народа, увайшлі ў залаты фонд сацыялістычнага шматнацыянальнага мастацтва.

Сацыялізм, як казаў Л. І. Брэжнеў на XXIV з'ездзе КПСС, не толькі адкрыў працоўным масам шырокі доступ да духоўных каштоўнасцяў, але і зрабіў іх непасрэднымі творцамі культуры. Мастацкая творчасць беларускага народа, як і іншых народаў нашай Радзімы, як вясновая паводка, разліваецца ўшырыню і ўглыбіню, радуе багатым суквеццем талентаў і здольнасцяў. У рэспубліцы звыш паўмільёна працаўнікоў прысвячаюць ёй свой адпачынак у шматлікіх гуртках і самадзейных калектывах. Хацелася б падкрэсліць, што ў апошнія гады ў масавым народным мастацтве адбываюцца важныя зрухі, якія характарызуюцца не толькі ростам колькасці яго ўдзельнікаў, а і разнастайнасцю жанраў, павышэннем эстэтычнага ўзроўню мастацкай творчасці. За высокую культуру і выканаўчае майстэрства 149 самадзейным калектывам рэспублікі прысвоена ганаровае званне народных.

Калі ж гаварыць пра тую ролю, якую адыгрывае ў развіцці беларускай культуры яе духоўная роднасць, я б нават сказаў больш — яе арганічнае адзінства з іншымі нацыянальнымі культурамі нашай краіны, і перш за ўсё з культурай рускага народа, то адказ на гэтую частку пытання можа быць толькі адзін — велізарную, сапраўды самую галоўную.

Зразумела, сувязі паміж рознымі нацыянальнымі культурамі — з'ява сама па сабе не новая. Яе карэнні ідуць у глыбіню стагоддзяў. Але класавая, ідэйная роднасць, а потым і поўнае адзінства нацыянальных культур па сацыялістычным

# ДЛЯ ПРАЦАЎНІКОЎ ПАЛЁЎ

На працягу чэрвеня і ліпеня Акадэмічны тэатр оперы і балета БССР наладзіў 38 канцэртаў для працаўнікоў палёў Мінскай вобласці.

Сталічныя артысты выступілі ў саўгасе «Світанне» Мінскага раёна, у калгасе «Запаветы Ільіча» Валожынскага раёна, сустрэліся з калгаснікамі сельгасарцеляў «Чырвоная зорка», «Радзіма», «Перамога», імя Фалько Дзяржынскага раёна. У Пухавіцкім раёне яны далі канцэрты ў калгасах імя Жданава, імя Куйбышава, ЦК КПБ, сустрэліся з рабочымі саўгасаў «Заазер'е» і «Наваполацкі», некалькі канцэртаў адбылося ў Лагойскім раёне.

Калгаснікі і рабочыя саўгасаў горача віталі майстроў опернага і балетнага мастацтва — народнага артыста БССР Л. Бражніка, заслужаных артыстаў рэспублікі І. Дзідзічэнку, М. Пятрову, Б. Нікольскага, лаўрэата Усесаюзнага конкурсу вакалістаў І. Адзінцову, артыстаў З. Сазонаву, Ул. Іваноўскага, канцэртмайстраў В. Багатырскую, В. Крыштопенка, Л. Талкачову.

Разам з опернымі артыстамі ў канцэртах прынялі ўдзел майстры беларускай эстрады — заслужаны артыст БССР І. Лакштанаў, выканаўцы жартоўных скетчаў, фельетонаў і пародый В. Міхеда і М. Гільзінец.

На канцэртах пабывала звыш 18 тысяч гледачоў.

# ПАЛЕПШЫЦЬ ПРАПАГАНДУ МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

25 ліпеня адбыўся адкрыты сход партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў БССР. На парадку дня — абмеркаванне работы бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР.

З дакладам па гэтым пытанні выступіў дырэктар бюро прапаганды мастацкай літаратуры М. Татур, з садакладам — Я. Кучар.

У спрэчках прынялі ўдзел М. Танк, А. Асіпенка, А. Бачыла, З. Бірала, В. Хомчанка, Ул. Карпаў, М. Кругавых, А. Русецкі, М. Ягораў. У адрас бюро прапаганды мастацкай літаратуры былі зроблены слушныя заўвагі і выказаны пажаданні, як палепшыць прапаганду беларускай літаратуры ў рэспубліцы.

змесце — гэта заканамернасць, уласцівая новаму грамадству, ачышчанаму ад усіх форм эксплуатацыі і прыгнёту. Яна адыграла і адыгрывае велізарную ролю ў гістарычным лёсе, у росквіце жыцця беларускага народа, яго самабытнай культуры. Велізарную ў тым сэнсе, што менавіта ў братняй адзінай сям'і народаў Краіны Саветаў раскрыліся ва ўсёй сваёй паўнаце творчыя сілы беларускага народа, адкрылася сапраўды неаглядная перспектыва ўзрастання духоўнага патэнцыялу рэспублікі і павелічэння яе ўкладу ў агульную скарбніцу матэрыяльных і культурных каштоўнасцяў савецкага грамадства.

Па-за гэтым сацыяльна-палітычным, ідэйна-эстэтычным адзінствам беларускай савецкай культуры з нацыянальнымі культурамі народаў СССР наогул немагчыма было б развіццё і ўсебаковае ўзбагачэнне духоўнага здабытку беларускага народа, як і любога іншага народа нашай шматнацыянальнай сацыялістычнай Айчыны. Слаўныя 50 гадоў, якія мінулі з дня ўтварэння Саюза, — гэта натхнёны летапіс нараджэння і станаўлення, росквіту і збліжэння сацыялістычных нацый, кожная старонка якога красамоўна сведчыць аб жыватворнай, стваральнай сіле братэрства людзей працы ўсіх народаў Краіны Саветаў.

На сучасным этапе камуністычнага будаўніцтва працэс усебаковага ўзаемадачынення і супрацоўніцтва народаў СССР робіцца ўсё больш інтэнсіўным, усё больш узаемаўзбагачальным, усё больш эфектыўным па сваіх выніках. Цудоўным плёнам узаемаўплыву, узаемаўзбагачэння сацыялістычных нацый і іх культур шчодра карыстаюцца ўсе савецкія людзі.

У Беларусі, як і ў іншых рэспубліках краіны, у культурным, духоўным жыцці працоўных у роўнай ступені займаюць дастойнае месца таленавітыя творы майстроў мастацкай творчасці народаў-братоў Савецкага Саюза. Неразлучнымі спадарожнікамі і добрымі сябрамі нашых людзей сталі кнігі М. Горкага і У. Маякоўскага, М. Шолахава, А. Фадзеева і К. Федзіна, Э. Межэлайціса і В. Лацыса, М. Стэльмаха і Ч. Айтматава, Г. Леанідзе і Р. Гамзатава, светлыя вобразы, народжаныя музыкай Д. Шастаковіча і А. Хачатурана, пэндзлем А. Пластава і М. Сар'яна. Вызначальным робіцца, такім чынам, не нацыянальная прыналежнасць таго або іншага дзеяча літаратуры і мастацтва, а адданасць яго высокай ідэі, вялікай справе будаўніцтва камунізма, талент і майстэрства, аддадзеныя служэнню народу. І прыемна, што формы абмену духоўнымі каштоўнасцямі, патрэба ў якіх усё ўзрастае, робяцца ўсё больш разнастайнымі і змястоўнымі, пашыраюцца і паглыбляюцца год ад году.

**ПЫТАННЕ. У летапіс Вялікай Айчыннай вайны навечна ўпісаны патрыятычны подзвіг мільёнаў беларусаў, якія ў часцях Савецкай Арміі, у партызанскіх атрадах беззапаветна выканалі свой абавязак перад Радзімай. У сваю чаргу мільёны прадстаўнікоў іншых народаў нашай краіны ўдзельнічалі ў вызваленні Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў. Ці не маглі б вы ў сувязі з гэтым расказаць аб тым, якое адлюстраванне ў беларускай літаратуры атрымала ратная тэма, як у творах беларускіх пісьменнікаў паказана яднанне ўсіх савецкіх людзей, што ў братнім саюзе адстаялі сваю свабоду і незалежнасць, свае рэвалюцыйныя заваёвы?**

АДКАЗ. Пачну з галоўнага, з таго, што вызначае асобае месца ратнай тэмы ў мастацкім арсенале савецкага народа і абумоўлівае глыбокую грамадзянскасць, страсную партыйнасць, эмацыянальны пафас многіх твораў, напісаных на гэтую тэму. Гэта галоўнае — камуністычная ідэйнасць, савецкі патрыятызм і сацыялістычны інтэрнацыяналізм, якія складаюць характэрную рысу маральнага аблічча, духоўнага быцця грамадзяніна нашай сацыялістычнай Айчыны.

Менавіта гэтыя цудоўныя якасці савецкага чалавека ярка выявіліся ў гады суровых ваенных выпрабаванняў і менавіта яны з'явіліся прадметам пільнай увагі нашай літаратуры пры распрацоўцы ратнай тэмы.

Імкненне паказаць прыгажосць, веліч і мужнасць будаўнікоў новага грамадства, маральна рыхтаваць іх да актыўнай барацьбы за сцвярджэнне камуністычных ідэалаў, да любых выпрабаванняў — вось што вызначала і вызначае галоўную ідэйна-мастацкую сутнасць і накіраванасць савецкай літаратуры, прасякнутай пафасам сацыялістычнага гуманізму, патрыятызму і інтэрнацыяналізму. Яе рэвалюцыйныя традыцыі бяруць пачатак яшчэ ў тыя часы, калі ў жорсткай бітве з унутранай контррэвалюцыяй і замежнай інтэрвенцыяй вырашаўся лёс першай у свеце дзяржавы рабочых і сялян. Ужо тады нарадзілася пакаленне пісьменнікаў, якія, як вобразна сказаў У. У. Маякоўскі, «к штыку приравняли перо». І мы з задавальненнем адзначаем, што на фарміраванне камуністычнай перакананасці, ідэйна-маральнай стойкасці савецкіх людзей, побач з такімі выдатнымі творамі, як «Ціхі Дон» М. Шолахава, «Чапаеў» Д. Фурманава, «Як гартавалася сталь» М. Астроўскага, «Разгром» А. Фадзеева, свой дабратворны ўплыў аказала і героіка-патрыятычнае мастацкае слова многіх беларускіх празаікаў і паэтаў. Аповесць «Дрыгва» Я. Коласа, якая даўно стала хрэстаматыйнай, паэзія Я. Купалы, П. Броўкі, творы М. Лынькова, К. Чорнага паклалі ў беларускай савецкай літаратуры пачатак услаўленню воінскага подзвігу чалавека, які стаў гаспадаром сваёй зямлі, упершыню паспытаў плён сапраўднай свабоды, чалавека, для якога яго жыццё і справа сацыялізма сталі адзінымі і непадзельнымі. Словам, ратная тэма замацавалася і заняла віднае месца ў творчасці многіх беларускіх пісьменнікаў яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны.

Чатырохгадовая бітва савецкага народа з нямецка-фашысцкімі захопнікамі была вялікім і суровым выпрабаваннем сілы і непахіснасці сацыялізма, ідэйнай стойкасці савецкага чалавека. Агнём і крывёю правяралася трываласць дружбы і братэрства народаў нашай краіны, іх адданасць справе камунізма.

Беларускі народ разам з усімі народамі Савецкага Саюза мужна і стойка, з першага да апошняга дня вайны, змагаўся супраць фашысцкіх акупантаў. Звыш мільёна патрыётаў рэспублікі па закліку Радзімы, па закліку ўласнага сэрца ўступілі ў рады дзеючай арміі і з баямі прайшлі пляч ў пляч з сынамі і дочкамі ўсіх нацый і народнасцяў нашай краіны цяжкі шлях да Перамогі.

На часова акупіраванай тэрыторыі рэспублікі разгарнулася ўсенародная партызанская вайна. Звыш 440 тысяч партызан і падпольшчыкаў гераічна змагаліся ў тыле ворага, адстойваючы сваю сацыялістычную Айчыну. У ліку першых на фронт, у партызанскія атрады пайшлі і беларускія пісьменнікі. Дваццаць два з іх загінулі ў суровай барацьбе з фашызмам.

Гісторыя яшчэ не ведала такой згуртаванасці і маналітнасці народа ў хвіліну грознай небяспекі, такога размаху масавага гераізму, праяўлення выключнага пачуцця самаахвяравання, якімі быў адзначаны кожны дзень вайны. У тую грозную пару палымянае пісьменніцкае слова, як і пераможная зброя савецкага воіна, трывала ўвайшло ў баявы арсенал партыі і народа. Літаратура «ратнай тэмы» стала ў час вайны літаратурай вышэйшага ўсенароднага подзвігу савецкіх людзей, страснага патрыятычнага закліку зрабіць усё для таго, каб вызваліць нашу зямлю і знішчыць ненавіснага ворага. Здзіўляючая маральная і мастацкая глыбіня адчуваецца ў гэтыя гады ў паэзіі Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі, М. Танка, А. Куляшова, П. Панчанкі, у творах М. Лынькова, К. Крапівы, К. Чорнага і іншых.

Ужо ў той час у творах беларускіх, як і многіх іншых савецкіх пісьменнікаў, напісаных па «гарачых слядах» вайны, акрэслілася, абазначылася многае з таго, што з'яўляецца зараз асноватворным у распрацоўцы ратнай тэмы. Гэта перш за ўсё імкненне зразумець і паказаць у характары і маральным абліччы нашых людзей, новыя якасці, якія так ярка выявіліся ў барацьбе з фашызмам, адказаць на пытанне: хто ж ён, савецкі чалавек, які здолеў выстаяць і перамагчы, выратаваць чалавецтва ад пагрозы фашысцкага заняволення.

У гады вайны праз многія творы беларускай літаратуры чырвонай ніццю прайшла ідэя яднання шматнацыянальнага савецкага народа перад агульным ворагам — гітлераўскім фашызмам. Матывы інтэрнацыянальнага адзінства савецкіх людзей вызначылі трактоўку цэлага шэрагу літаратурных вобразаў. Успамінаецца ў гэтай сувязі верш Пімена Панчанкі, напісаны ў 1942 годзе, — «Байцу, які першы ступіў на беларускую зямлю». Паэт звяртаецца ў ім, па сутнасці, да ўсіх вызваліцеляў роднай Беларусі, зямлі Савецкай:

Ты першы кроплі горкіх слёз
сірочых
Сваёй рукой з дзіцячых твараў сцёр.
Ты першы паглядзеў прыветна ў
вочы
Бацькоў маіх любімых і сясцёр.

Ты ў бой ішоў з пагардаю да смерці,
Каб ратаваць мой край. Ты парадніў
Сябе навекі з беларускім сэрцам,
З дубровамі, з красою нашых ніў.

Падзеі тых незабыўных дзён, якія знайшлі адлюстраванне ў беларускай літаратуры, дапамагаюць лепш зразумець прыроду савецкага ладу, вялікую мудрасць палітыкі ленінскай партыі, якая аб'яднала і згуртавала ўсе народы, ператварыла нашу краіну ў цвярдыню, адолець якую не ўдалося і не ўдасца ніякаму ворагу. На франтах, у партызанскіх атрадах, як баявыя саратнікі і браты, змагаліся людзі ўсіх нацыянальнасцяў. Яны пралівалі кроў на палях Падмаскоўя, Беларусі, Украіны, добра ведаючы, што абараняюць свой дом, свой ачаг, сваю адзіную Радзіму — Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Выкарыстоўваючы вопыт ваенных гадоў, той выдатны пачатак, які быў пакладзены тады, беларуская літаратура зрабіла ў пасляваенны час новы якасны скачок. Яна выбрала сваім галоўным напрамкам філасофскае асэнсаванне эпохі, стварэнне, гаворачы словамі Аляксея Талстога, вобраза «чалавека ідэі і дзеяння, які раскрыўся праз гістарычную справу свайго народа».

Адзін за адным з'яўляюцца адзначаныя духам высокай патрабавальнасці новыя творы, у якіх суровая праўда аб вайне спалучаецца з глыбокім пранікненнем у сутнасць вастрэйшага сутыкнення двух светаў, дзвюх ідэалогій, з удумлівым мастацкім аналізам палітычных, сацыяльна-эканамічных, маральных асноў савецкага грамадства, глыбінных вытокаў нашай вялікай Перамогі над ударнымі сіламі імперыялізму.

Ваенна-патрыятычная літаратура нібыта не хоча лічыцца з часам і абыходзіцца з гераічным летапісам вайны, як з гарачым сучасным матэрыялам. Бывала, што іншыя пісьменнікі проста бралі тыя або іншыя ваенныя сітуацыі, як правіла, вельмі прывабныя сваёй незвычайнасцю, абвостранасцю і складанасцю, выяўляючы і паказваючы на іх маральную стойкасць і характар героя, яго сапраўдную цану. Але пры гэтым яны не заўсёды дабіваліся поспеху, таму што чалавек у такіх творах выступаў нярэдка па-за цеснай шырокай сувяззю з канкрэтнымі сацыяльна-гістарычнымі акалічнасцямі. Такія пісьменнікі часам аказваліся ў палоне «тэорыі» так званай «акопнай праўды», падмянялі канкрэтна-гістарычныя даследаванні прыроды нашага гуманізму абстрактнымі разважаннямі аб палярнасці дабра і зла наогул.

Падобныя з'явы былі хуткаплынныя і часовыя. Пісьменнікі, якія працуюць сёння над творамі на ратную тэму, бачаць і разумеюць як галоўную сваю задачу — у эстэтычным плане, зразумела, — паэтычна ўзвышана, гістарычна верагодна і па-мастацку праўдзіва адлюстраваць прыроду народнага гераізму, узнавіць духоўнае, ідэйнае, псіхалагічнае аблічча нашага воіна, партызана, падпольшчыка, узнавіць у такім мастацкім абагульненні, каб актыўна ўздзейнічаць на розумы і сэрцы сучаснікаў. Можна назваць дзесяткі твораў, такіх, як, скажам, «Глыбокая плынь» І. Шамякіна, «Трэцяя ракета» і «Абеліск» В. Быкава, паэмы А. Куляшова «Сцяг брыгады» і Р. Барадуліна «Блакада», і цэлы рад іншых, у якіх таленавіта паказаны наш чалавек на вайне, яго мужнасць і вернасць камуністычным ідэалам.

Ратная тэма па сваіх маштабах і значнасці сапраўды невычарпальная. Тут адкрываецца найшырэйшая па сваіх магчымасцях сфера прыкладання творчых сіл, таленту і майстэрства ў рэчышчы самых розных жанраў і прыёмаў. Возьмем, скажам, дакументальную аповесць С. Грахоўскага «Рудабельская рэспубліка». Гэты па-мастацку сталы твор праўдзіва і пераканаўча ўзнаўляе адну з яскравых старонак жыцця і барацьбы першых беларускіх камунараў, якія сцвярджалі Савецкую ўладу, новы ўклад жыцця на Палессі.

Чытачы з вялікай цікавасцю і давер'ем паставіліся да кніг Герояў Савецкага Саюза В. Казлова «Людзі асобага складу», Р. Мачульскага «Вечны агонь», У. Лабанка «У лясах Віцебшчыны», В. Ліўенцава «Партызанскі край», а таксама да мемуараў П. Калініна «Партызанская рэспубліка», А. Дзенісевіча «Арлінае племя», М. Джагарава «Кастры партызанскія», Д. Цябута «Праз агонь» і многіх іншых.

Тэма вялікай Айчыннай вайны вельмі часта арганічна ўпісваецца ў многія творы аб сучаснасці. У атмасферы ваеннага часу героі такіх аповесцяў і раманаў чэрпаюць сілы для сённяшняй барацьбы з буржуазнай ідэалогіяй, з замаскіраваным мяшчанствам і духоўным утрыманствам, з усім, што перашкаджае нашаму руху наперад.

У ваенна-патрыятычнай літаратуры нашай рэспублікі ёсць, зразумела, свае вялікія і складаныя праблемы і клопаты. Далёка не ўсё, што з'яўляецца пад рубрыкай «ратная тэма», атрымлівае станоўчую ацэнку грамадскасці, задавальняе высокія патрабаванні. Многія незабыўныя старонкі гераічнай гісторыі барацьбы і подзвігаў савецкага народа яшчэ чакаюць таленавітага, высокамастацкага ўзнаўлення ў кнігах, на экранах кіно, у музыцы, скульптуры, жывапісе. І мы глыбока перакананы, што, абапіраючыся на вопыт і багацейшыя традыцыі шматнацыянальнай сацыялістычнай літаратуры і мастацтва, беларуская творчая інтэлігенцыя, акрыленая гістарычнымі рашэннямі XXIV з'езда КПСС, парадуе савецкіх людзей новымі глыбокімі і значнымі творамі аб мужнасці і велічы чалавечага духу, аб неўміручых справах будаўнікоў і абаронцаў новага свету.

**«Литературная газета» ад 26 ліпеня 1972 г.**

# ТАКАЯ СУСТРЭЧА — НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ

**По даўняй добрай традыцыі ў час летніх канікул прыязджаюць у Мінск на стажыроўку выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры з Беластоцкага ваяводства Польскай Народнай Рэспублікі.**

**Гаспадары — супрацоўнікі Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага — пазнаёмілі беластоцкіх выкладчыкаў з методыкай выкладання беларускай мовы і літаратуры ў савецкіх школах. Госці таксама пабылі на трактарным заводзе, паліграфкамбінаце, ездзілі ў Хатынь, на Курган Славы, на радзіму Я. Купалы і Я. Коласа. Яны былі сведкамі ўрачыстага адкрыцця помніка Я. Купалу.**

**Цікавай была сустрэча ў Саюзе пісьменнікаў БССР. На сустрэчу прыйшлі народны паэт Беларусі, старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Максім Танк, народныя пісьменнікі Беларусі лаўрэат Ленінскай прэміі Іван Мележ і Іван Шамякін і іншыя.**

**Пра ўклад пісьменнікаў нашай рэспублікі ў справу камуністычнага выхавання савецкіх людзей, пра вырашэнне праблематыкі сучаснасці ў творах беларускіх аўтараў расказалі Іван Мележ, Максім Танк, Іван Шамякін. Генадзь Бураўкін падзяліўся ўражаннямі ад святкавання купалаўскіх дзён у Ленінградзе, прачытаў вершы з новай кнігі «Жніво». Янка Брыль паведаміў пра інтэрнацыянальныя сувязі беларускай літаратуры.**

**Работнікі народнай асветы Беластоцкага ваяводства Міхал Грыгарчук і Юзаф Навіцкі расказалі, як яны і іх калегі выкладаюць беларускую мову на польскай зямлі.**

**— Такія сустрэчы, як сёння, — заявілі яны, — запамінаюцца на ўсё жыццё.**

**М. ЯГОРАЎ.**

# СЕЛЬСКАМУ ХОРУ — ЗВАННЕ НАРОДНАГА

**За вялікія поспехі ў развіцці харавога самадзейнага мастацтва і актыўны ўдзел у абслугоўванні працоўных калегія Міністэрства культуры БССР прысвоіла званне народнага самадзейнаму хору Падгорнаўскага сельскага дома культуры Баранавіцкага раёна.**

**Чвэрць стагоддзя назад на першую рэпетыцыю прыйшлі самыя лепшыя спявачкі вёскі Падгорнае. З таго часу не затухае ў самадзейным хоры работа. Зараз калектыў аб'ядноўвае звыш 100 спевакоў — калгаснікаў, настаўнікаў, спецыялістаў сельскай гаспадаркі.**

**Сур'ёзны творчы экзамен калектыў упершыню трымаў у 1965 г. у час трэцяй дэкады самадзейнага мастацтва Беларусі. Тады хор заваяваў дыплом трэцяй ступені. А пачынаючы з 1969 года, ён сістэматычна атрымлівае ўзнагароды на раённых, абласных і рэспубліканскіх аглядах мастацкай самадзейнасці.**

**Калектыў — жаданы госць у калгасах свайго і суседніх раёнаў. Яго выступленні карыстаюцца нязменным поспехам. Праўленне калгаса «Зара» клапоціцца пра сваіх спевакоў, стварае ім умовы для творчай работы.**

**З 1953 года калектывам кіруе настаўнік Павел Антонавіч Самсонік.**



КАЛЯ дваццаці гадоў існуе студыя выяўленчага мастацтва пры Слуцкім Доме піянераў. Адтуль, з гэтай студыі, выйшлі, напрыклад, такія вядомыя сёння мастакі, як Уладзімір і Міхась Басалыгі. Многія выхаванцы студыі пасля сканчэння мастацкіх навучальных устаноў Мінска, Масквы, Ленінграда працуюць у розных кутках краіны. Кіруе студыяй мастак Уладзімір Садзін.

Фота Ул. КРУКА.

# ЖЫВОЕ ДРЭВА

НЕВЯЛІКІ, на адно акенца, пакойчык. Пахне сырым дрэвам і яшчэ нечым, ці то клеем, ці то фарбай, ніяк не магу разабрацца. У гэтай маленькай майстэрні адразу кідаецца ў вочы шафка ў куце. Пярэдняя сценка яе глухая, з дрэва, толькі ўгары — шкло. Там, на паліцах, стаяць рэчы, дзеля якіх я і завітаў сюды, у старажытны Полацк.

Гаспадар майстэрні адкладае ўбок разец, недаконачаную фігурку...

— Міхеенка... Анатоль... — ён далікатна паціскае маю далонь, усміхаецца і, каб нечым заняць рукі, абівае з фартуха на падлогу тонкія пакручастыя стружкі.

□

ПАСЛЯ таго, што здарылася ў той памятны для яе дзень, Ніна баялася пакідаць кароў на брата. За Даўгінавым Логам, у ялінах, высыпалі чарніцы; той год іх урадзіла, як ніколі: на кожнай лапіцы — неруш. Ніна не вытрывала, папрасіла малога Толіка, каб ён прыгледзеў за статкам, а сама адлучылася з дзяўчатамі ў лес.

— І куды твае вочы глядзелі, — крычала вечарам на дачку маці. — Буйніцкі зноў кароў заняў на сваіх сотках. І што, скажыце, за дзеці: ні ў чым нельга на іх абаперціся. А я ж адна ці дам усяму рады?..

Толік вінавата маўчаў.

А назаўтра, ранкам, як бы апраўдваючыся, ён паказаў маці корань аеру, які знайшоў у хмызах, каля абалянкі.

— Гэта, мама, алень... — сказаў Толік, і Амілія Адамаўна, пакруціўшы корань у вузлаватых пальцах, здзівілася: «Гм, і праўда, як наша цяля, худое, доўгае і, глянь, з рожкамі...»

Анатолю ішоў сёмы год, калі сям'я пераехала з хутара ў Полацк. Спачатку ён сумаваў без звыклага кола дарагіх рэчаў і з'яў, якія акружалі яго з першых гадоў жыцця, — рэчкі, лесу, выгана за хатай. Ды прыходзілі новыя клопаты, трывогі; Анатоль падрастаў, і паступова забывалася старое захапленне: бачыць у дрэве і каранях падабенства людзей, жывёл і птушак. Здавалася, само жыццё было зацікаўлена ў тым, каб ён забыў свой дзіцячы занятак.

— Глядзі дзяцей, Міша... Не крыўдзі іх, чуеш... — прасіла бацьку маці; голас яе асядаў, збіваўся на шэпт, калі яна ўпотайкі, каб не пачулі дзеці, гаварыла: — Я, відаць, ужо нядоўга працягну на гэтым свеце...

І ў скорым часе на гарадскіх могілках стала больш яшчэ адной вузкай градой жаўтапёсу...

А потым у Полацк прыйшлі фашысты. Начамі Анатоль крычаў у сне, прахопліваўся, нацягваў на калені коўдру і доўга сядзеў у пасцелі, глядзеў у цемру. У горадзе, на рынчанай плошчы, немцы вешалі людзей, і ўражлівы хлапчук бачыў у сне ўсё: і шыбеніцу, і гітлераўцаў.

Неяк аднойчы дзверы адчыніліся, і на парозе паказалася двое незнаёмых — на руках яны трымалі бацьку.

— Не стойце, пакажыце, дзе палажыць чалавека, — кінуў адзін з мужчынаў, бачачы, што ў дзяцей ад нечаканасці і спалоху адняло мову.

— Тата... — прагаварыў Анатоль, пракаўтнуў у горле даўкі камяк і ўткнуўся тварам у запалыя бацькавы грудзі.

— Не трэба, дзеці... Не плачце, — гарачая рука бацькі легла на плячук сына, слаба сціснула яго.

Тыдні два назад гітлераўцы паднялі хворага чалавека з ложка, пагналі за горад — на земляныя работы. І вось смерць, якая дагэтуль стаяла ў двары, каля парога, зайшла ў дом.

Калі ў горад прыйшлі нашы, Анатоля ўсынавіла вайсковая часць. У свой час бацька вучыў хлопца рамантаваць абутак, і цяпер гэтае ўмельства спатрэбілася — юны шавец днямі прападаў у майстэрні, рамантаваў салдатам боты.

Так, за працай і вучобай, прайшлі пасляваенныя гады, прабіў час самому надзець вайсковую форму, узяць у рукі зброю. І там, у арміі, зноў успыхнула ў душы Анатоля іскрынка творчасці — мусіць, яна і не гасла ўсе гэтыя гады, а толькі чакала свежага павеву ветру.

— Зайшоў я раз у Ленінградзе на выстаўку работ народных умельцаў, — успамінае Анатоль Міхайлавіч, — убачыў там рэчы, выразаныя з дрэва. Цяпер ужо і забыўся — якія. Адно добра запомніў: вярнуўся тады назад, у казарму, і ноч усю вачэй не звёў. А назаўтра ўзяў ножык і пачаў выразаць. Першымі маімі работамі былі герб Савецкага Саюза і выразаная на бярозавай дошцы карціна «Зімні ўзяты».

Калі тое было!

Дзесяткі работ разбяра па дрэве пайшлі ў свет, экспануюцца на выстаўках, упрыгожваюць кватэры людзей.

Здаецца, не далей, як учора, Міхеенка сам з душэўным трапятаннем не зводзіў вачэй з рук майстра, якія тварылі цуд. А зараз стаіць перад ім хлопчык і пільна глядзіць на яго рукі, на яго разец. «Здольны хлопчык», — як за сына, радуецца Анатоль Міхайлавіч за свайго вучня Колю Абраменку...

На хвілінку твар разбяра хмурнее і думкі яго скіроўваюцца на сына. Шкада, няма ў хлопца цярпення, уседлівасці — ні адной рэчы не давёў да канца. Як па ім, то ўсё павінна выходзіць адразу, з першай спробы. Ды вось аблачынка ценю сплывае з твару бацькі. «Ёсць чаго непакоіцца, — разважае ён. — Проста, відаць, не ляжыць у Валеры душа да гэтай справы. Тэхнікай захапляецца»...

— Міхеенка, дровы прывезлі... — крычаць з двара.

Анатоль Міхайлавіч паднімаецца з-за стала, атрэпвае з фартуха стружкі, пыл і выходзіць на ганак.

— Бачыш, якое дрэва — гладкае, без трэшчынкі... — хваліцца качагар, нібы ён сам выбіраў у лесе асіну, і не спяшаецца складаць дровы ў клетку, ведае, не раз было: крычы не крычы, а ўсё адно Міхеенка разверне дровы, агледзіць, абмацае кожнае палена.

— Ты, браце, яшчэ пастукай па ім ды да вуха прыкладзі, паслухай, ці не трупціць, — з усмешкай гаворыць качагар, глядзячы, як разбяр выбірае дрэва. А той і не чуе быццам, спакойна робіць сваю справу: адны паленцы адкідае ўбок, другія коле, складае ў клеткі — няхай выпетраюць на сонцы.

Адно палена, сухое, ён нясе ў пакой, кладзе на лаву, піліць на кароткія аскабалкі, выбірае лепшы, як здаецца яму, абчэсвае сякерай. Дрэва пакуль што не жыве, не дыхае — яно мёртвае. Ды варта ўзяць майстру ў рукі разец, дакрануцца ім да дрэва, і яно на вачах, як у казцы,ператворыцца ў жывую істоту — засмяецца, заплача, пойдзе ў скокі...

«Лявоніха, душа ласкавая, чаравічкамі палясквае...» Анатоль Міхайлавіч схіліўся над сталом, здзьмухвае з-пад разца парушынкі, а ў галаве звініць і звініць зухаватая мелодыя. А вось, нарэшце, і яна сама — Лявоніха. Вольна адкінула назад галаву, адной рукой прытрымлівае край узвіхранай спадніцы і радасна кружыцца ў танцы са сваім Лявонам.

— Перад тым, як пачаць выразаць што-небудзь, — гаворыць Анатоль Міхайлавіч, — мне патрэбен нейкі штуршок, ці што, знутры. Ну, от узяць хоць бы маю работу «Ціт». Вось ён, бачыце, тоўсты, вочы заспаныя, валасы — капою, скіданай абы-як, наспех, нядбалым гаспадаром...

— Ціт, Ціт, хадзем малаціць.

— Галава баліць.

— Ціт, Ціт, хадзем гарэлку піць.

— Пачакай, дай шапку ўхапіць...

Зусім іншы Несцерка, вясёлы, і мудры. У ім смяецца ўсё: і вочы, і вусны, і вусы...

На абласную выстаўку работ народных умельцаў журы рэкамендавала цікавую шматфігурную кампазіцыю Анатоля Міхайлавіча «Хадакі да Леніна», яго работы «У партызаны», «Дзед Талаш», «Несцерка», «Лявоніха», «Рыбак з вудай»....

Якраз там, на выстаўцы, упершыню ўбачыў некалі дзевяцікласнік Коля Абраменка работы разбяра па дрэве, захапіўся імі, знайшоў іх аўтара на Полацкай фабрыцы мастацкіх вырабаў. І прынёс паказаць яму корань аеру з Заходняй Дзвіны, які нагадваў жанчыну з граблямі.

І ці не ён, гэты хлапчук з каранем аеру ў руках, падказаў разбяру задуму новай работы, праца над якой яшчэ наперадзе. А будзе называцца яна «Шчаслівае дзяцінства»...

Мікола МАЛЯЎКА.

ТУРЫСЦКІ аўтобус паволі коціцца па залітых сонцам вуліцах сталіцы Польскай Народнай Рэспублікі. Ля шафёра з мікрафонам у руцэ стаіць маладая варшавянка і, адчуваючы сімпатыю і ўвагу слухачоў (амаль усе мужчыны), усхвалявана расказвае пра свой любы горад.

Усе, хто сядзіць у аўтобусе, — савецкія журналісты з розных рэспублік. Мы — хто горш, хто лепш — ведаем польскую мову. Большасць ваявалі на польскай зямлі ў час Вялікай Айчыннай вайны, бачылі руіны Варшавы і іншых гарадоў і вёсак.

І вось мы едзем па Варшаве. Пасля вызвалення Варшавы на працягу амаль дзесяці год я назіраў за яе адбудовай. На маіх вачах узняўся з руін Новы Свят, Старэ Място і Мар'еншат, пралягла траса Усход—Захад, Варшаву і Прагу зноў злучылі мост Панятоўскага, і на месцы недарэчнага, але любімага варшавянамі моста Кэрбедзя стаў новы мост Шлёнска-Дамброўскі, вырас Палац культуры і навукі — дар Савецкай краіны зруйнаванай Варшаве...

Усё, што расказвае гід, мне вядома, і, мабыць, больш, чым ёй, маладзенькай. Мне даводзілася бываць амаль на кожнай вялікай будоўлі сталіцы, гутарыць з інжынерамі, рабочымі, пісаць аб будаўніках у штодзённай газеце Савецкай Арміі на польскай мове «Вольнасць». (Выходзіла пры Палітычным упраўленні Паўночнай групы войск).

Гляджу ў акно аўтобуса, слухаю прыемны голас гіда, а ў памяці ўваскрасаюць гэтыя ж будынкі ў рыштаваннях і людзі... Людзі, з якімі знаёміўся, гутарыў, хадзіў па гэтых вуліцах. Думаю, успамінаю.

Мост Панятоўскага... Некалі чатырнаццацігадовым хлопчыкам на будаўніцтве яго працаваў Кастусь Ракасоўскі. Адзін эпізод з тагачасных падзей я пачуў з вуснаў маршала Ракасоўскага, калі ён быў камандуючым Паўночнай групы войск. У штаб войск да маршала часта прыязджалі дэлегацыі працоўных Польшчы. У час гэтых цёплых сустрэч мне даводзілася прысутнічаць у якасці карэспандэнта газеты «Вольнасць», а потым прыносіць на прагляд свой артыкул маршалу. Кожнае слова маршала я стараўся запомніць.

Вось гэты эпізод. Юнак-рабочы Кастусь упершыню трапіў на першамайскую маёўку рабочых. Слухае рэвалюцыйныя прамовы, песні, любуецца чырвоным сцягам. І раптам трывожныя галасы: жандары...

Стары рабочы зрывае з дрэўка чырвонае палатно.

— Хавай, хлопча, і хутчэй ўцякай адгэтуль, — загадвае ён Кастусю.

Кастусь бяжыць, ратуе чырвоны сцяг. Вось ён ужо ўскочыў у браму і... убачыў жандара. Той у першую хвіліну, здаецца, не звярнуў увагі на хлопца, а праз хвіліну — «Стой!», — хапіў за руку.

Задыханы, юнак спыніўся:

— Гэта што такое? — пытае жандар, тыкаючы пальцам у грудзі.

Кастусь апускае вочы. З-за пазу-

# МАЙСТЭРСТВА, ФАНТАЗІЯ, ГУСТ

*З ВЫСТАВАК ПОЛЬСКІХ СЯБРОЎ*

**На прадпрыемствах, у канцэртных залах, піянерскіх лагерах працоўныя рэспублікі і іх дзеці гасцінна сустракаюць даўніх і шчырых польскіх сяброў. Гучаць польскія песні і музыка, дэманструюцца дакументальныя фільмы ПНР. Поспехам карыстаюцца выстаўкі, прывезеныя ў беларускую сталіцу з братняй Польшчы.**

**У Палацы прафсаюзаў — экспазіцыя дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Першае ўражанне — багацце фарбаў—яркіх, сакавітых, сонечных.**

**У экспазіцыі многа ткацкіх работ: вялікія і маленькія кілімы, прыгожыя, шыкоўныя жаночыя спадніцы і звычайныя сялянскія дарожкі, якія сёння ткуць і ў нашых вёсках. Кожная рэч зроблена польскімі майстрыхамі з любоўю і майстэрствам. Якія прыгожыя кілімы ў палоску! Здаецца, што тут асаблівага: тчы сабе палоску за палоскай — гэта ж не якое там складанае ўзорыстае палатно. Тым не менш трэба мець густ, фан-**

Леанід ПРОКША

# АЎТОБУС ІДЗЕ ПА ВАРШАВЕ...

хі вылез кончык чырвонага палатна.

Хлопца забралі і пасадзілі ў Павяк.

— Там, — сказаў маршал, успамінаючы гэты эпізод, — я ўпершыню адведаў «смак» жандарскай нагайкі...

У Павяку цяпер музей. Колькі слаўных рэвалюцыянераў уваходзілі ў яго браму, але змрочныя казематы не зламалі барацьбітоў за лепшую будучыню, што цяпер стала явай.

— Вуліца Уладзіслава Бранеўскага, — чую голас гіда.

А здаецца зусім нядаўна я прысутнічаў пры адкрыцці адбудаванага помніка Адаму Міцкевічу. На ўзвышэнні стаяў Уладзіслаў Бранеўскі і з глыбокім унутраным хваляваннем, звяртаючыся да вялікага паэта на «ты», гаварыў:

— Адаме... Паглядзі, як радуецца Варшава...

А сёння Уладзіслаў Бранеўскі ўжо сам помнік...

Мы едзем па вуліцы яго імя. Я гляджу на будынкі, а перад вачыма — жывы Бранеўскі. Вось мы сядзім на прыёме ў Таварыстве польска-савецкай дружбы: Леон Кручкоўскі — вельмі абаяльны чалавек (кнігі яго, як і творы Стандэ, Вандурскага, Бранеўскага, Жэромскага, Ясінскага я чытаў у арыгінале яшчэ ў перадваенныя гады). Уладзіслаў Бранеўскі, сакратар галоўнага ўпраўлення Таварыства польска-савецкай дружбы Станіслаў Вроньскі, галоўны рэдактар газеты «Вольнасць» падпалкоўнік Эдуард Радзецкі...

Да гэтага я не раз сустракаўся з Бранеўскім, замаўляў яго артыкулы для газеты. Неяк расказаў яму, як яго верш аб Варшаве, у якім ён просіць братнія рэспублікі Украіну і Беларусь даць свой серп і молат, духоўна натхніць на барацьбу за свабодную Варшаву, мы на фронце выпусцілі лістоўкай і перакінулі за лінію фронту.

З Бранеўскім я заўсёды гаварыў па-польску. А тут, на прыёме, нечакана ён пачаў гаварыць са мной на рускай мове. Жонка Леона Кручкоўскага не ведала рускай мовы, і Бранеўскі аднachасова гаварыў са мной і перакладаў на польскую мову нашу гутарку.

Зноў тост. Усе ўстаюць. Бранеўскі, не паспеўшы закусіць, бярэ кілішак, падымаецца з-за стала. Чую яго іранічную рэпліку:

— Цо то за палітыка — з гімнастыкай...

Бранеўскі быў чалавекам дасціпным і шчырым. Можа праз гэтую нястрымную шчырасць на некаторы час, незразуметы некім, у ліхую гадзіну трапіў у Бутырку. Можа таму потым, выйшаўшы на волю, незаслужана пакрыўджаны, разам з арміяй Андэрса выехаў на Бліжні Усход. Але ў вершах, напісаных у той час, як і потым, заставаўся пралетарскім паэтам.

Пра Бутырку ў той вечар расказваў без крыўды:

— Затое там я прачытаў усіх рускіх класікаў. Вельмі захапляўся Успенскім...

А вось яшчэ адна сустрэча. Ідзе з'езд польскіх літаратараў. З Янінай Бранеўскай (першай жонкай Бранеўскага) мы сядзім у вестыбюлі, успамінаем Мінск, рэдакцыю газеты «Піянер» (для польскіх дзяцей Заходніх абласцей Беларусі), у якой перад нападам гітлераўцаў на Савецкі Саюз працавалі разам: яна — адказны сакратар, я — рэдактар. Мяне тады крыху бянтэжыла маё становішча, бо Бранеўская была вядомай пісьменніцай і польскім грамадскім дзеячом...

Працавалася, аднак, хоць і нядоўга, але прыемна і добра. Апошні нумар «Піянера», што павінен быў выйсці ў нядзелю 22 чэрвеня 1941 года і ў якім мы расказвалі пра вырваных з кіпцюроў фашызму грэчаскіх і іншых дзяцей, загінуў ад гітлераўскіх бомб у друкарні «Звязда». А яшчэ ў суботу, вычытваючы старонкі, мы ламалі сабе галаву, як расказаць аб ахвярах фашызму ва ўмовах існуючага тады дагавору з Германіяй аб ненападзе...

У вестыбюль, нечым заклапочаны, заходзіць Бранеўскі. Зірнуўшы ў наш бок, ён крута змяніў кірунак і падышоў да нас.

— Ты ласуешся піро́жным, — сказаў ён да былой жонкі, — я галодны, як сабака...

Ён пацалаваў руку Яніне, узяў з яе пальцаў кавалак піро́жнага і сунуў сабе ў рот. Потым, жуючы яго, пачаў глядзець на вітрыну кніжак, якія прадаваліся ў час з'езду. Знайшоў адну, зрабіў на ёй надпіс і падараваў мне...

Аўтобус ідзе па Варшаве. Мільгаюць гмахі, вуліцы, плошчы. Узнікаюць у памяці падзеі, людзі.

— Вуліца Марцэля Навоткі, — раптам чую голас гіда.

Марцэлі Навотка — першы сакратар і арганізатар Польскай рабочай партыі, якая нарадзілася ў акупіраванай гітлераўцамі Варшаве. «Вуліца Марцэля Навоткі», — паўтараю я і — бачу яго жывога, чую яго голас.

Увосень 1940 года па камандзіроўцы газеты «Штандар вольнасці» (памяшканне рэдакцыі знаходзілася на вуліцы Карла Маркса ў будынку, дзе зараз Вышэйшая партыйная школа) я прыехаў у невялічкі польскі горад у той час Беластоцкай вобласці — Лапы. Зайшоў да старшыні райвыканкома. З-за стала ўзняўся высокі, стройны мужчына з інтэлігентным прыемным тварам.

— З польскай газеты? — сказаў Марцэлі Навотка. (Ён якраз і быў старшынёй райвыканкома). — Вельмі прыемна. Сядайце.

Я сеў у мяккае скураное крэсла, якое стаяла ля стала старшыні, і мы прагаварылі з ім да паўночы.

Вядомы дзеяч камуністычнага руху расказваў пра барацьбу камуністычнай партыі Польшчы, пра нелегальныя паездкі ў дваццатыя гады ў Маскву, пра сустрэчы і размовы з віднымі кіраўнікамі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза...

Я выцягнуў блакнот і ручку. Навотка ўсміхнуўся.

— Шаноўны рэдактар, маё імя нельга называць у друку. У Варшаве ў мяне жонка і дзеці...

А падзяліцца сваімі думкамі і ўспамінамі яму, адарванаму на нейкі час ад вырашэння маштабных спраў, відаць, хацелася.

Я схаваў блакнот, але некалькі разоў у час размовы мімаволі рука цягнулася да яго.

На другі дзень утрох: Марцэлі Навотка, незнаёмы тады яшчэ мне работнік мясцовай газеты (потым, ужо на фронце я даведаўся, што гэта быў Мікола Ражкоў) і я, паехалі на брычцы ў вёску на мітынг, на якім павінен быў выступаць старшыня райвыканкома.

Калі сядалі ў брычку, лейцы ў рукі ўзяў Навотка...

— Я вырас у фарнальскіх чвараках (батрацкіх бараках), ведаю лепш, як гэта рабіць, — усміхнуўся.

Па дарозе ён дасціпна расказваў пра жыццё польскіх батракоў, рабочых, быт і жыццё якіх добра ведаў, пра працу ў нелегальных умовах. Для нас з Міколам тады, перад вайной, ён быў чалавекам з легенды.

У вёсцы Навотку сустрэлі прадстаўнікі мясцовай улады і павялі ў школу, дзе сабралася ўжо шмат людзей. Мы з Міколам пайшлі за імі.

Пачаўся мітынг. Неўзабаве было прадстаўлена слова старшыні райвыканкому. Не ведаю, што б зараз даў за блакнот з запісам яго прамовы (ён загінуў у час вайны). Я слухаў Навотку, глядзеў на твары сялян. На іх было відаць, як моцна западае ў сэрцы кожнае важкае слова прамоўцы. А якім цудоўным на трыбуне быў Марцэлі Навотка. Чорныя валасы з сівізной на скронях, прадаўгаваты твар, густыя бровы і голас, голас, які напаўняў верай, упэўненасцю.

У той час у паветры пахла вайной. Навотка гаварыў аб непераможнай сіле Краіны Саветаў, аб лёсе зняволеных народаў Еўропы. Запомніліся словы: «Што б ні здарылася, мы пераможам, і з гэтай перспектывы трэба глядзець на будучыню».

Дзеля перамогі над фашызмам, за лепшую будучыню свайго народа напярэдадні Новага 1941 года Марцэлі Навотка з невялікай групай сяброў па партыі паляцеў праз лінію фронту ў родны край. Вёў самалёт, у якім яны ляцелі, савецкі лётчык-грузін. Не ведаючы гэтых мясцін, ён дакладна, як было адзначана на карце, у дваццаці кіламетрах ад Варшавы, даў каманду польскім сябрам скакаць з самалёта.

І вось яны на роднай зямлі. Дзесяць мужчын і адна жанчына — радыстка. На лясной палянцы, пры асвятленні месяца яны кідаюцца абдымацца — прызямліліся шчасліва. Цяпер у дарогу...

Толькі ў дарозе выявілася, што Марцэлі Навотка пры прызямленні зламаў нагу. Пераадольваючы страшэнны боль, ён колькі кіламетраў ішоў на зламанай назе, упарта маўчаў, каб не збянтэжыць сяброў у гэтых небяспечных умовах.

Навотка не ўбачыў перамогі партыі, членам якой быў, якую ствараў. Ён быў забіты ў 1942 годзе ў браме аднаго з дамоў у Варшаве — Варшаве, аб якой так марыў, калі мы з ім, гутарылі ў райвыканкоме ў Лапах...

— Дом польскага слова...

Гід расказвае пра гэты дом, а я ўспамінаю Варшаўскі кангрэс прыхільнікаў міру, які адбываўся ў вялікай яго зале. На трыбуну падымаюцца і сходзяць прамоўца за прамоўцам: Жоліо Кюры, Аляксандр Фадзееў, Джон Бернал, Ілья Эрэнбург, Эжэні Катон, Хюльет Джонсан, Пабла Неруда... А за сталом савецкай дэлегацыі — Аляксей Марэсьеў, Мікалай Чаркасаў, Ларыса Александроўская, Дзмітрый Шастаковіч...

Перапынак.

Да Марэсьева падыходзіць фотакарэспандэнтка з Аргенціны. Яна дорыць яму здымак, зроблены на кангрэсе, з подпісам: «Вялікаму лётчыку і вялікаму пісьменніку». Марэсьева яна прымае за аўтара «Аповесці аб сапраўдным чалавеку».

А ўвечары сядзім у ложы тэатра. На сцэне — опера Манюшкі «Страшны двор». Ларыса Пампееўна слухае і ў захапленні гаворыць:

— Партытуру гэтай оперы я павінна абавязкова мець...

Праз некаторы час опера «Страшны двор» гучала на сцэне Беларускага дзяржаўнага Вялікага акадэмічнага тэатра ў Мінску...

...Аўтобус ідзе па Варшаве. Мільгаюць вуліцы — хутка, як гады. Толькі дарагое, незабыўнае застаецца ў сэрцы. Назаўсёды...








Плакат з выстаўкі польскага плаката і кнігі, «Танец» (народная творчасць) і «Партрэт героя» Веслава Гарбалінскага з выстаўкі жывапісу і графікі.

тазію, каб так па-майстэрску перадаць усю гаму спектра. Глядзіш на гэтыя кілімы і ўяўляеш той цуд, які здараецца, калі такая вось вясёлка трапляе ў кватэру!..

Ёсць кілімы, вытканыя інакш. На суцэльным палатне раскіданы стылізаваныя арнаментальныя медальёны. Прыгожа глядзіцца дыван, вытрыманы ў каларыце сонечнага захаду. Адчуваеш цені, што падаюць на зямлю. Добра ўпісваюцца ў агульную прыглушаную пастэльную чырвоную гаму стылізаваныя птушкі. А пухкія, мяккія дарожкі і кілім для падлогі! Якія яны прыгожыя і, відаць, зручныя ў побыце.

На гэтай выстаўцы многа каляровых выцінанак. Прадэманстравана і ўмельства каруначніц. Іх сурвэткі сапраўды ажурныя. Многа вырабаў з саломкі.

У калекцыі створаных закапанскімі майстрамі жаночых паясоў і сумак са скуры кожная рэч — мастацкі твор.

Выстаўка польскага плаката і кніг выдавецтва Міністэрства нацыянальнай абароны ПНР, прысвечаных Савецкай Арміі і Народнаму Войску Польскаму, экспануецца ў акруговым Доме афіцэраў. За дваццаць пяць гадоў выдавецтва выпусціла ў свет пяць тысяч назваў кніг тыражом 120 мільёнаў экземпляраў.

Кнігі прыгожа аформлены польскімі мастакамі-графікамі. Паліграфісты таксама паказалі высокую культуру творчасці. Каляровыя ўклейкі, малюнкі, вокладкі, друк — усё выканана бездакорна. Прыемна ўбачыць на выстаўцы перакладзеныя на польскую мову шасцітомную «Гісторыю Вялікай Айчыннай вайны савецкага народа. 1941—45», мемуары і ўспаміны савецкіх военачальнікаў А. Грэчкі, М. Воранава, М. Тухачэўскага, С. Штэменкі і інш. Увагу наведвальнікаў прыцягваюць унікальныя выданні «Малой ваеннай энцыклапедыі» ў трох тамах, ваенна-тэхнічнага слоўніка на пяці мовах, шматтомная ілюстраваная гісторыя «Польскі салдат», якая расказвае пра ўзбраенне і амуніцыю польскай арміі на працягу ўсёй яе шматвяковай гісторыі.

Багаты раздзел мастацкай літаратуры.

А пра польскі плакат хочацца сказаць усхвалянымі словамі аднаго з наведвальнікаў выстаўкі:

«Надзвычай цікавая і добрая выстаўка плаката. Польскія мастакі ўмела выкарыстоўваюць магчымасць гэтага баявога жанру, смела выкарыстоўваюць яны колер і кампазіцыю. Польскі плакат уражвае, не пакідае абыякавым».

Экспануюцца плакаты на палітычныя, культурныя, спартыўныя і іншыя тэмы. Запамінаюцца, уражваюць плакаты, у якіх адлюстраваны ленінскія ідэі, барацьба за мір.

Шмат прыхільнікаў знайшла сярод мінчан выстаўка мастацкага здымка, разгорнутая ў Доме мастацтваў. Паглядзеўшы гэтую цікавую і змястоўную выстаўку, адчуваеш, нібы зрабіў падарожжа ў Польшчу, пабываў у славутых Татрах, Кракаве, Гданьску, прыгажуні-Варшаве, пазнаёміўся з яе выдатнымі помнікамі, сучаснымі прыгожымі вуліцамі, слухаў шапэнаўскі канцэрт у Лазенках, пабываў у Вялікім тэатры польскай сталіцы, сустракаўся з маладымі фізікамі, гутарыў з прафесарам Іво Біруля-Бялыніцкім, удзельнічаў 22 ліпеня на вуліцах Варшавы ў нацыянальным свяце ПНР — Дні вызвалення.

Аўтары здымкаў — майстры польскай фатаграфіі Анджэй Вярніцкі, Багуслаў Беганьскі, Тэадор Германьчык, Эдвард Граховіч, Марэк Гольцман, Веслаў Пражух, Ян Морэк, Казімеж Чапіньскі, Канстанты Ярахоўскі і інш.

Цікавая выстаўка медальернага мастацтва Эдварда Гароля — лаўрэата прэмій міністра культуры і мастацтваў у 1967 г. і міністра нацыянальнай абароны ў галіне выяўленчага мастацтва ў 1971 г. Яго работы знаходзяцца больш чым у трыццаці польскіх і замежных музеях. Ім выканана вялікая колькасць барэльефаў, мемарыяльных дошак, бітых і літых медаляў. У Мінску экспануецца 250 медальерных работ Эдварда Гароля. Сярод іх — калекцыя, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна, медалі і плакеткі, прысвечаныя Ф. Дзяржынскаму, А. Міцкевічу, Ф. Шапэну, М. Каперніку, Б. Прусу, М. Канапніцкай, Дантэ...

Поспехам карыстаецца і выстаўка «Савецкі Саюз вачыма польскіх мастакоў», пра якую «Літаратура і мастацтва» паведамляла ў мінулым нумары. У кнізе водгукаў многа цёплых, прыязных запісаў.

Д. КУДЗЕЛЬКА.

# У АДГОР'ЯХ КАРПАТ

**ЛЕГЕНДЫ І БЫЛІ ● СПЕКТАКЛЬ АБМЯРКОЎВАЮЦЬ СТУДЭНТЫ ● РУЖЫ, КАВА І ТРАДЫЦЫІ ● У АЎТОБУСЕ — «ДАХОДНАЕ МЕСЦА» ● «ЖЫЦЦЁ ДАЕЦЦА АДНОЙЧЫ...».**

...АДНОЙЧЫ ў часе асады замка дачка яго ўладара ўбачыла свайго каханага сярод ворагаў. Усхваляваная, разгневаная, яна вырашыла сустрэцца з ім, каб дазнацца праўду. Так яна выдала тайны ход ворагу. За сваю памылку яна была жорстка пакарана — замуравана жывой у сцяне...

Гэтую легенду ціха расказвае мне адзін з акцёраў Бабруйскага тэатра, пакуль аўтобус праязджае паўз Ужгарадскі замак, які ўжо тысячу гадоў таму быў рэзідэнцыяй рускага князя і лічыцца каштоўнейшым гістарычным і архітэктурным помнікам Закарпацця.

Гавораць, працягвае мой сусед, што калі набрацца смеласці і прабыць у гэтым старажытным паўразбураным замку ўсю ноч, можна пабачыць і дзяўчыну ў лёгкай белай сукенцы, з распушчанымі валасамі, якая блукае па ірвах, па двары, карабкаецца на бастыёны. І толькі на золку, калі закрычаць пеўні, вяртаецца ў сваю страшную магілу...

Пабываць там ноччу так і не давялося: спектаклі, спектаклі, спектаклі... На асноўнай пляцоўцы, выязныя. Вось і сёння мы імчым з Ужгарада ў Мукачава. У аўтобусе — «Даходнае месца».

*Ужгарад — асноўная база гастроляў Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі з Бабруйска. Маршруты ж яго — па ўсім Закарпацці.*

*Тэатр зусім малады. Праблем тысяча. На гастролях — яшчэ больш. Да пытанняў чыста творчых, — як не страціць тое, што здабыта потам і крывёю ў інстытуце, як прыходзяць майстэрства і высокі прафесіяналізм, як пазбегнуць штампаў, якім усё ж такі стане тэатр, па якім шляху пойдзе, — на гастролях далучаюцца пытанні бытавыя: дзе жыць, харчавацца, як лепш скарыстаць вольныя мінуты?.. Тут узнікаюць нечаканыя «адкрыцці» людзей, усялякія — радасныя і горкія.*

*І ў гэтым сэнсе гастролі маладога калектыву далёка ад дома цікавыя і карысныя. Я ўжо не гавару пра тое, як многа даюць сустрэчы з новым незнаёмым гледачом.*

**ІНТЭРВ'Ю ПЕРШАЕ. На мае пытанні адказвае студэнт універсітэта Міша Тар.**

**— Мне спадабалася рэжысура Віктара Каралько ў спектаклі «Даходнае месца». П'еса прачытана з вялікай павагай да аўтара і ў той жа час рэжысёр памятае, што ў зале сядзіць зусім іншы глядач, чым той, для якога п'еса Астроўскага ігралася ўпершыню. Таму тое, што адбываецца на сцэне, не пакідае нас раўнадушнымі.**

**Гэты спектакль — маё першае знаёмства з тэатрам. Потым я з вялікай цікавасцю глядзеў «Трыбунал». Збіраюся на «Драматычную песню». Гавораць, Паўку Карчагіна будзе іграць той самы акцёр, які іграў Вышнеўскага ў «Даходным месцы». Гэта праўда?..**

Міша Тар — будучы філолаг, і мы доўга гаварылі з ім пра спектакль бабруйчан «Даходнае месца». Ён заняў трывалае месца ў гастрольным рэпертуары тэатра. Яго глядзяць. Стала модным пры пастаноўцы класікі абавязкова шукаць усякага роду асацыяцыі. Тэатр не пайшоў па гэтым шляху. «Даходнае месца» ставілася шмат, рознымі калектывамі і абрасло тоўстым слоем традыцыйнасці і штампаў. Прабіцца скрозь гэтыя пласты і ўбачыць п'есу такой, якой яе напісаў А. Астроўскі, ужо немалая заслуга. Нельга сказаць, што тэатр поўнасцю справіўся з гэтай задачай. Але многае і адбылося.

На ролю Жадава, напрыклад, прызначаны акцёр «фактурны», з добрымі знешнімі дадзенымі, абаяльны. Ён адразу павінен выклікаць нашы сімпатыі. І гэта, бадай, даніна традыцыі. Але калі Жадаў—Траццякоў прымушае нас задумацца над рэплікай, якая часта здавалася не галоўнай, прахадной: «Я не герой, я звычайны слабы чалавек» — гэта ўжо цікава. Мы ўжо сочым за чалавекам, якога жыццё вымушае стаць героем. Так, застацца сумленным, верным сабе, абараняць свае погляды ў тыя змрочныя гады мог толькі мужны чалавек. Менавіта пра гэта з болем пісаў Астроўскі.

Найбольш удаюцца артысту сцэны, калі ён «забываецца» пра «абавязковую» для ролі знешнасць і паглыбляецца ў псіхалогію чалавека, якому нялёгка. Напрыклад, першая сустрэча Жадава з Вышнеўскай, калі ён напружана чакае ад яе адказаў на пытанні, якія так яго хвалююць, падтрымкі і парады.

Гордая і ўнутрана моцная Вышнеўская—Палухіна. Артыстка імпульсіўная, з адкрытым тэмпераментам, стварае вобраз жанчыны, якая шмат у жыцці перажыла і зразумела і, па ўсім адчуваецца, не зломіцца, як Жадаў.

У спектаклі сутыкаюцца дзве філасофіі, два светаадчуванні: духоўная высакароднасць і маральнае ўбоства, бескарыслівасць і прагнае імкненне да ўзбагачэння, вера ў дабро і цынізм. Маладыя акцёры В. Шушкевіч і В. Філатаў, якія выконваюць ролі старых Вышнеўскага і Юсава, адыходзяць ад прасталінейнасці, на якую лёгка збіцца, ствараюць шматпланавыя характары страшных па сваёй жорсткасці і маральным убостве людзей.

*Ужгарадцы, якія часта прымаюць у сябе артыстычныя калектывы Венгрыі, Польшчы, Чэхаславакіі, глядзяць праграмы тэлебачання гэтых краін, —суддзі строгія: Ды і норавы тут, у Закарпацці, у нечым іншыя, нязвыклыя.*

*Можна прывесці такія, на першы погляд, непершаступеннай важнасці лічбы. Ва Ужгарадзе 69 тысяч жыхароў і 29 буйных рэстаранаў і кафэ, не ўлічваючы маленькіх. Вечарамі (а часта і днём) у рэстаранах іграе аркестр — не адзін, а два або тры. Аркестры складаюцца ў асноўным са студэнтаў музычных вучылішчаў, а летам — і кансерваторыі. Выступае вялікі калектыў спевакоў — студэнтаў, рабочых і інжынераў з розных прадпрыемстваў. Спяваюць яны, можна сказаць, прафесійна, па самым строгім рахунку. Рэпертуар разнастайны, адабраны з добрым густам. Тут не пачуеш пошлага шлягера — слухачы не прымаюць такога. І адзеты людзі па апошняй модзе, але не вычварна. А вось танцуюць бурна, тэмпераментна — сумесь народных танцаў з сучаснымі. Танцуюць дапазна, з асалодай аддаючыся танцу і атрымліваючы ад яго ўсё.*

*У аркестрах многа выдатных скрыпачоў. Не ведаю, чаму яны іграюць у рэстаранах, але там, у Закарпацці, гэта гучыць не так зняважліва, як іншы раз у нас. І сапраўды, у рэстаранах іх штодзённа слухаюць сотні людзей. Многія прыходзяць спецыяльна. Тут за шклянкай кавы (пра тое, як вараць ва Ужгарадзе каву, можна пісаць асобна) сядзяць цэлы вечар. Размаўляюць, спрачаюцца, чытаюць.*

*Але, адмаўляючыся ад сваіх звычаяў, ужгарадцы кожны дзень запаўняюць і тэатральную залу.*

**ІНТЭРВ'Ю ДРУГОЕ. На мае пытанні адказвае студэнтка Аксана Сацір.**

**— Паглядзела два спектаклі — «Прачніся і спявай» і «А зоры тут ціхія...» Меркаваць па двух спектаклях пра тэатр у цэлым наўрад ці можна.**

**У «Зорах...» мне спадабаўся артыст Б. Баеў. Ведаеце, ёсць у яго герої, Васкове, гэткая руская шырыня... І пакутаваць ён умее па-сапраўднаму, і верным быць умее. Потым, мне здаецца, што артыст усё разумее. А я, ведаеце, люблю, калі выканаўца ролі разумее, што ён робіць. Сама марыла стаць актрысай. Дай, думаю, дома для сябе сыграю Соф'ю з «Гора ад розуму». Выбрала рольку!.. Прачытала п'есу раз, прачытала яшчэ раз. Ноч думала, дзве думала: якая яна, Соф'я? «Рашыць» яе для сябе не змагла. У тэатральны не пайшла, але артыстаў, якія разумеюць, што робяць, люблю. Пра які тэатр мару? Мне падабаецца тэатральны тэатр. Можна так сказаць? Тэмперамент — каб дух займала, каб страсці бушавалі, і праз усё гэта— думка прачытвалася. Вялікая, не банальная. Напрыклад, «Што рабіць?» у Юрыя Любімава на Таганцы...**

Я ўспаміна сваю размову з Аксанай, а наш аўтобус тым часам ужо выехаў на ўскраіну Ужгарада. Ззаду засталіся унікальны будынак універсітэцкай бібліятэкі — былога манастыра, пабудаванага ў першай палове XVI стагоддзя, Замкавая гара, на якой размясціліся цікавейшыя музеі — краязнаўчы, мастацкі, народнай архітэктуры і побыту, батанічны сад, масты і набярэжныя імклівага Ужа.

Ужгарадцы ўлюбёныя ў свой горад. Яму яны прысвячаюць нямала свайго часу. Па вузенькіх вулачках старажытнага горада машыны ходзяць вельмі рэдка. Дарогі тут аддадзены людзям. Яны запаўняюць вуліцы суцэльным патокам, быццам на дэманстрацыі. Мовы ўкраінская і руская, венгерская, польская, чэшская змешваецца ў нейкую адзіную. Прагульваюцца з дзецьмі. Іх возяць на вельмі маленькіх двухколавых калясачках з палкай замест звыклай для нас ручкі.

На невялічкіх гарадскіх плошчах — разарыі. Гэта дзіва дзівоснае, сатканае з водару і ўсіх колераў свету — бледна-ружовага, чайнага, залацiста-бежавага, матава-белага, крэмавага, барвовага... Падоўгу прастойваючы каля разарыя (не я адна), не маючы сіл адарвацца ад гэтага цуду, я ўспаміна японскі «Сад каменняў», пра які так дзівосна напісаў Д. Гранін. І хоць разарый— зусім іншае, але колькі думак абуджаецца ў табе, колькі асацыяцый нараджаецца, колькі надзей! Раніцой ад руж, пакрытых бліскучымі расінкамі, што прытаіліся ў ледзь сагнутых тоненькіх і пяшчотных пялёстках, патыхае гаючай свежасцю, а ўвечары, падгарэўшы на сонцы, ружы прываблiваюць пястрымнаяркімі спалучэннямі колераў, дзёрзкай прыгажосцю.

Побач са знаёмымі для нас таполямі, соснамі, ліпамі ў горадзе растуць так званыя «экзоты»: кусты тамарыска, японская айва і вішня-сакура, райскія яблыні, балотныя кіпарысы, магноліі, ціс ягадны (гавораць, жыве да трох тысяч год), самшыт...

*Я нездарма расказваю пра горад, у якім знаходзяцца на гастролях беларускія артысты. Густ, эстэтычнае ўспрыняцце, характар у многім залежыць ад таго, дзе ты жывеш, што і хто цябе акружае. Ну, напрыклад, па тым, як часта мне расказвалі ў гэтым горадзе легенды, я зразумела, які тэатр павінен зацікавіць яго жыхароў.*

*Не выпадкова карыстаецца тут поспехам спектакль бабруйчан «А зоры тут ціхія...». Узвышаны, гераіка-паэтычны лад яго (спектакль па інсцэніроўцы Ю. Любімава і Б. Глаголіна паставіў рэжысёр Ул. Шыманскі) хвалюе гледачоў. Подзвіг старшыны Васкова і пяцёх дзяўчат— такіх зямных, сціплых, здавалася б, такіх звычайных, — пачынае гучаць як цудоўная легенда аб чалавечай мужнасці і адданасці сваёй зямлі.*

**Аксана Сацір гаварыла пра артыста Б. Баева, выканаўцу ролі Васкова. Работа акцёра сапраўды заслугоўвае ўвагі. Ён жыве ў вобразе з поўнай эмацыянальнай самааддачай. Праўда, у асобных сцэнах яму яшчэ нестае ўнутранага**



Звыш шасці мільёнаў маленькіх і дарослых гледачоў пазнаёмілася са спектаклямі Дзяржаўнага тэатра лялек БССР за 20 гадоў яго існавання. Артысты аб'ездзілі амаль усе куткі Беларусі, а таксама пабывалі ў гарадах Расіі, Украіны, Літвы.

На здымку—група артыстаў тэатра: Н. Пахомава, А. Шкілянок, А. Іванова, Я. Рагачоў, Т. Апенка, У. Уласаў і А. Рамановіч.

Фота У. ЛУПЕЙКІ. (БЕЛТА).

# МАСКОЎСКІ ТЭАТР З МАЛОЙ БРОННАЙ—У МІНСКУ

У гэтыя дні ідуць апошнія спектаклі Маскоўскага драматычнага тэатра на Малой Броннай, які вельмі спадабаўся мінчанам змястоўным рэпертуарам, арыгінальнасцю рэжысуры, высокім майстэрствам акцёраў.

Пры выразным творчым абліччы і мэтанакіраванасці ідэйна-мастацкіх задач, якія рашае калектыў, тут ставяць спектаклі рэжысёры адметных індывідуальнасцяў — А. Ганчароў, А. Дунаеў, А. Эфрас, В. Броўкін. У адзіным ансамблі з'яднаны акцёры розных пакаленняў — Л. Сухарэўская і А. Грачоў, Б. Ценін і В. Якаўлева, Л. Бранявы і Н. Нiканава, Н. Волкаў, Л. Дураў, Г. Сайфулін...

Праслязаўтра ў апошні раз выйдуць на мінскую сцэну героі «Залатой карэты», пастаноўку якой ажыццявіў А. Дунаеў. Аўтар п'есы Л. Ляонаў лічыць, што гэта адна з лепшых пастановак яго любімага твора. Пра вартасці спектакля гаворыць таксама той поспех, з якім яго прымаюць мінчане, добра знаёмыя з «Залатой карэтай» у купалаўцаў.

У той жа вечар на другой сцэнічнай пляцоўцы эфрасаўскія Рамэо і Джульета яшчэ раз раскажуць не так пра рамантычнае каханне, як пра любоў—пачуццё, процілеглае нянавісці. Рэжысёр глыбока, расставіўшы нечаканыя акцэнты, прачытаў знаёмы шэкспіраўскі твор.

Наогул, многія работы тэатра на Малой Броннай даюць спажыву для роздуму, дзякуючы высокай інтэлектуальнай і эмацыянальнай насычанасці. Тэатр, які жыхары беларускай сталіцы бачаць упершыню, пашырыў іх далягляды, узбагаціў іх уяўленні аб сучасных тэатральных шуканнях. І мінскі глядач прыняў манеру і эстэтычныя прынцыпы гэтага калектыву, а тэатр зразумеў і «адчуў» гледача. Можна смела сцвярджаць, што любоў стала ўзаемнай. Пра гэта гаворыць галоўны рэжысёр тэатра заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР Аляксандр Дунаеў.

— Мы адразу трапілі ў атмасферу дружалюбнасці і непрадузятасці, а гэта вельмі спрыяе хуткаму ўзаемаразуменню. Нават у час такога складанага спектакля, як «Брат Алёша», публіка вельмі тонка рэагуе на ўсе душэўныя ваганні герояў, а ў асобных сцэнах, здаецца, проста не дыхае. Такая рэакцыя дае акцёрам сілы яшчэ глыбей пранікаць у працэсы, што адбываюцца ў душах герояў Дастаеўскага.

Дае сілы... Колькі іх трэба! Іншы раз акцёрам даводзіцца, ледзь дайграўшы сцэну ў памяшканні Рускага тэатра, бегчы на другі акт у Дом афіцэраў. Дзякуй богу, недалёка! У апошнія дні наша жыццё яшчэ больш ускладнілася, бо пачаўся паказ спек-

**драматызму, які ён спрабуе кампенсаваць знешнімі праявамі характару — Васкоў нечакана становіцца не ў меру мітуслівым, нават нервозным. Але адчуваецца, што яму ёсць што сказаць і ён расце ад спектакля да спектакля.**

**Побач з ім дзяўчаты — артысткі А. Палухіна, Г. Ілюшова, В. Вялічка, А. Бендава, Н Варанецкая... І гэты маленькі воінскі атрад становіцца непрыступнай крэпасцю, якую не можа перамагчы вораг. Дзякуючы дзяўчатам Васкоў раскрываецца як чалавек душэўны, чуллівы, з востра выяўленым пачуццём абавязку. А дзяўчаты вучацца ў Васкова мужнасці і бясстрашнасці...**

За вокнамі нашага аўтобуса мільгаюць вінаграднікі... Я гляджу на сваіх суседзяў. Яны не трацяць марна часу. Паўтараюць асобныя сцэны, рашаюць свае тэатральныя праблемы.

Чым бліжэй Мукачава, тым цішэй у аўтобусе. Здаецца, што кожны прайграе сваю ролю ў думках. Мне ўспомнілася, як адна артыстка Бабруйскага тэатра неяк сказала: «Мы самыя шчаслівыя людзі на свеце. Так, так. Ну, канечне, працаваць цяжка. Умовы ў нас самі ведаеце якія, але колькі пражываеш, кім толькі ні даводзіцца бываць. Я люблю ўсё гэта: і пах тэатральных дэкарацый, і аўтобус, у якога глухне матор, і сваіх гераінь, якіх цікава пазнаваць усё больш і больш, адкрываць за звычайнымі словамі незвычайнае. Гэта шчасце — быць артысткай!».

Але шчасце лёгкім не бывае...

Аўтобус адлічвае кіламетры, а я думаю, якая гэта цяжкая пасада — акцёр. Акрамя таленту (без чаго гэтую прафесію наогул немагчыма ўявіць), неабходна мець мужнасць, умець ад многага адмаўляцца, многім ахвяраваць. Заўтра многія з тых, хто зараз у аўтобусе, зноў з'явяцца ў адзінаццаць на рэпетыцыю, выйдуць на сцэну Мікалаем Астроўскім, Паўкам Карчагіным, Тоняй Туманавай, быццам не было цяжкай паездкі і быццам ноч дастаткова доўгая, каб паспець адпачыць і набрацца сіл.

У спектаклі па п'есе Б. Равенскіх і М. Анчарава «Драматычная песня» артысты іграюць амаль сваіх равеснікаў, якія прыйшлі да нас з далёкіх дваццатых і якім ёсць што сказаць сёння. Спектакль паставіў рэжысёр Віктар Каралько. На сцэне зажыў новым жыццём знаёмы Паўка Карчагін, якога шчодра, шырока, на поўным дыханні іграе артыст В. Шушкевіч.

Мы вяртаемся з Мукачава зусім позна. Фары аўтобуса, як нажы, ўразаюцца ў сцюдзёністую чарнату ночы. Узбуджэнне артыстаў, такое натуральнае пасля спектакля, перадаецца і мне. Мы гаворым пра ўсё на свеце, жартуем, расказваем анекдоты, дзелімся ўражаннямі аб тым, што давялося пабачыць у гэтым горным краі (амаль усе ў Закарпацці ўпершыню), шкадуем, што гастролі бабруйчан супадаюць з гастролямі ў Мінску такіх двух цікавых калектываў — Малога тэатра і тэатра на Броннай, на спектаклях якіх так хацелася б пабываць... Але не менш, відаць, важныя тыя сустрэчы, знаёмствы, назіранні, уражанні, якія маладыя артысты набудуць тут і якія потым знойдуць сваё вобразнае выражэнне ў новых ролях і спектаклях.

**І. ПІСЬМЕННАЯ,**
**спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».**

---

такляў па тэлебачанні — не з тэатральнай залы, не ў запісе на плёнцы, а непасрэдна са студыі.

А яшчэ ідуць рэпетыцыі. А яшчэ творчыя сустрэчы з працоўнымі горада. Не, мы не скардзімся, бо ваш горад нам па душы, а калі любіш, нішто не цяжка і нічога не шкада.

Відаць, вы ўжо вельмі многа чулі ўсхваляваных водгукаў пра Хатынскі мемарыял, бо ўсе, хто прыязджае ў Мінск, наведваюць яго. Але і мы не можам не сказаць пра нашы ўражанні, такія трапяткія, такія пранізлівыя, такія ўсепаглынальныя. Эмацыянальнае ўспрыняццё акцёраў вельмі глыбокае — гэта ўласцівасць прафесіі. Пабываўшы ў Хатыні, мы не толькі аддалі даніну пашаны мёртвым, мы глыбей зразумелі, які подзвіг здзейсніў беларускі народ у Вялікую Айчынную...

Хоць да гэтага часу мы не бывалі ў Беларусі, яна ўжо стала блізкай нам у час работы калектыву над п'есай Андрэя Макаёнка «Трыбунал». Асабіста я з Макаёнкам сябрую даўно — з 1961 года, калі ў Цэнтральным тэатры Савецкай Арміі ставіў яго «Лявоніху на арбіце». Мне ён здаецца вельмі таленавітым драматургам, супрацоўніцтва з якім заўсёды прыносіць радасць. Сустрэча з Макаёнкам — таксама адзін з маіх лепшых успамінаў аб Мінску. Драматург абяцаў напісаць п'есу спецыяльна для «Малой Броннай»...

Карыстаюся выпадкам, каб пажадаць нашым чулым цудоўным гледачам здароўя, шчасця і частых сустрэч з добрымі тэатральнымі калектывамі і спектаклямі.

---

НАШЫ *майстры* МАСТАЦТВА

# З ДНЯ Ў ДЗЕНЬ

## НАРОДНАЯ АРТЫСТКА БССР Я. ГЛЕБАЎСКАЯ

Бадай, немагчыма знайсці двух чалавек, кропля ў кроплю падобных адзін на аднаго. Нават сярод блізнят мы не знойдзем абсалютнага падабенства. Гэтаму закону прыроды яшчэ ў большай меры падпарадкуецца сцэна, дзе таленавітасць трупы вымяраецца наяўнай колькасцю ў ёй розных па сваёй індывідуальнасці, характары і здольнасцях акцёраў.

Толькі благія акцёры творча падобны адзін на аднаго. Таленавітыя ж розняцца паміж сабою непаўторнасцю індывідуальнасці і творчай своеасаблівасцю. І што вельмі цікава — нават пры аднолькавай школе выхавання, адзіным творчым метадзе работы кожная акцёрская індывідуальнасць развіваецца па-свойму. Адны, нібы тыя раннія гатункі яблык, хутка спеюць і адразу заваёўваюць прызнанне гледача, а часам і рана сыходзяць са сцэны, другія ж з вялікімі цяжкасцямі, паступова раскрываюць сваё творчае «я», доўгі час застаючыся ў ценю; затое, аднойчы знайшоўшы сябе, не здаюць творчых пазіцый.

Да такіх няскораспелых акцёраў належыць і Яніна Казіміраўна Глебаўская.

...У 1919 годзе Яніна Казіміраўна паступае ў Першы Беларускі драматычны тэатр у якасці артысткі балета.

Праз два гады яе, разам з іншымі таварышамі, накіроўваюць у Маскву на вучобу, дзе ў 1921 годзе была толькі што арганізавана Беларуская дзяржаўная студыя тэатральнага мастацтва, пасля пераўтвораная ў Беларускі дзяржаўны тэатральны інстытут.

Пяць гадоў пад кіраўніцтвам артыстаў другога МХАТа В. Смышляева, А. Гейрата, Б. Афоніна, С. Гіацынтавай і іншых студыйцы вывучаюць сцэнічнае майстэрства.

Вялікі ўплыў на фарміраванне будучых беларускіх артыстаў рабілі спектаклі маскоўскіх тэатраў. Непасрэднае ўспрыманне ігры вялікіх карыфеяў рускай сцэны Станіслаўскага, Давыдава, Садоўскага, Южына, Яблачкінай, Кніпер-Чэхавай, Масквіна, Качалава, Леанідава, Тарханава, М. Чэхава, Дзікага і іншых давала магчымасць студыйцам выхоўвацца на лепшых рэалістычных традыцыях цудоўнага рускага тэатра.

Яніна Казіміраўна, як і ўсе студыйцы, не прапускала ніводнай лекцыі, ніводнага спектакля. Яна з вялікім захапленнем наведвае практычныя заняткі па сістэме К. С. Станіслаўскага. З асаблівай прагнасцю займаецца мастацкім словам, пастаноўкай голасу і дыхання. Ходзіць у тэатры, музеі, карцінныя галерэі, прымае ўдзел у гарачых спрэчках студыйцаў у часе абмеркавання прагледжаных спектакляў. Усё гэта спрые духоўнаму і прафесійнаму развіццю маладой студыйкі.

Надышоў 1926 год.

Скончыўшы вучобу, усе студыйцы пераязджаюць у горад Віцебск, дзе па рашэнні Беларускага ўрада быў арганізаваны Другі Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр (цяпер тэатр імя Я. Коласа). З гэтага часу пачынаецца акцёрская біяграфія Яніны Казіміраўны Глебаўскай.

Першыя два гады маладая актрыса ўдзельнічае ва ўсіх яго спектаклях, амаль нічым не вызначаючыся сярод таварышаў. Ды і роляў значных не было ў яе. Апрача таго, што чамусьці баялася іграць ролі пажылых і характарных жанчын... Бывае і такое!

У 1928 годзе тэатр паставіў п'есу Б. Лаўранёва «Разлом»... Яніна Казіміраўна выконвала ролю жонкі капітана Бярсенева. І тут актрыса паказала свае незвычайныя творчыя задаткі. Вобраз у Глебаўскай атрымаўся своеасаблівы, неяк па-свойму жыццёва пераканаўчы.

Мінае час. Глебаўская, як кажуць, старанна іграе ўсё, што трапляе, — значныя і малазначныя ролі, вялікія і малыя, ухіляючыся толькі, як і раней, ад роляў старых і характарных жанчын.

У п'есе А. Карнейчука «Гібель эскадры» Глебаўская ўводзіцца на ролю Аксаны, гераічнага камісара-жанчыны часоў грамадзянскай вайны. Роля захапляе яе. Актрыса працуе настойліва, напружана. Яна паказала ў гэтай ролі свае багатыя сцэнічныя дадзеныя — гучны, добра пастаўлены голас, палымяны тэмперамент, волю, адчуванне нюансаў у стане гераіні. Вобраз быў створаны, як кажуць, на добрым прафесійным узроўні, але... Не заблішчэў! Штосьці перашкаджала актрысе адчуваць сябе вольна на сцэне, нешта стрымлівала яе. Хоць усе бачылі: гэта — яе роля.

Нешта падобнае, толькі ў меншай меры, адбылося і з выкананнем галоўнай жаночай ролі ў п'есе К. Транёва «Любоў Яравая». Абедзве гэтыя ролі былі не зусім у плане прыродных дадзеных актрысы. Праўда, і яны прынеслі ёй многа карысці ў набыцці майстэрства.

Калі добра, калі горш быў сыграны не адзін дзесятак розных роляў. Актрыса не падае духам. Верыць у свае творчыя сілы. Набывае акцёрскі і жыццёвы вопыт, удасканальвае майстэрства, нібы чакаючы сваёй шчаслівай ролі, загадзя, спакваля рыхтуючыся да яе.

Такой шчаслівай роляй, на маю думку, якая дала магчымасць Яніне Казіміраўне поўнасцю раскрыць сваю індывідуальнасць і па праве заняць належнае месца ў тэатры, была роля ганчарыхі Мальвіны ў п'есе В. Вольскага «Несцерка».

У ёй Глебаўскую нібы падмянілі. Яна адразу ўзнялася на недасягальную дагэтуль творчую вышыню і заваявала шырокае прызнанне гледача. Знікла кудысьці былая сухасць і некаторая наўмыснасць выканання. Раскрыўся, дакладней кажучы, вырваўся на волю жывы сцэнічны тэмперамент. Яна жыла, дзейнічала думкай, справай і словам. Літаральна купалася ў ролі, забыўшы пра сваю боязь характарных роляў.

Яніна Казіміраўна стварыла сакавіты вобраз самаўладнай гаспадыні, бой-бабы, апантанай жаданнем выдаць замуж дачку Насцю за «вучонага» шкаляра і самой стаць паняй. Вобраз жыццёва праўдзівы і востра камедыйны.

Неўзабаве таленавітая актрыса сапраўды бліскуча— жыццёва і па-тэатральнаму кідка — сыграла другую ролю: апантаную фанатычку, лютую ігуменню Меланню ў п'есе М. Горкага «Ягор Булычоў і іншыя».

З гэтага часу поспех стаў яе верным спадарожнікам.

Дзве ролі зусім розныя, далёкія і не падобныя адна на адну. І актрыса знаходзіць для кожнай з іх яскрава-выразныя сродкі выяўлення. Калі дадаць да гэтых роляў яшчэ горкаўскую Васу Жалязнову і Уліту з «Лесу» Астроўскага, якія Глебаўская сыграла з няменшым поспехам, будзе зразумела, што актрыса мае сваю ярка выяўленую індывідуальнасць і шырокі творчы дыяпазон. Ёй падуладны і камедыя, і драма.

За 46 гадоў работы ў тэатры Яніна Казіміраўна Глебаўская сыграла каля дзвюхсот вялікіх і малых роляў. Сярод іх такія значныя, як Гурмыжская («Лес» Астроўскага), унтэр-афіцэрская ўдава («Рэвізор» Гогаля), Атуева («Вяселле Крачынскага» Сухаво-Кабыліна), Філіцата («Праўда добра, а шчасце лепш» Астроўскага), Ганна Васільева Стахава («Напярэдадні» Тургенева), Паліна («Ворагі» Горкага), Орта («Ветрык, вей!» Райніса), Матруна («Улада цемры» Талстога) і шмат іншых. Як партнёр па многіх з гэтых спектакляў, сведчу: яна ў кожнай ролі бывала хай сабе зусім «крышачку», але арыгінальнай, не паўтарала завучаных інтанацый і паглыблялася ў «нетры» новых характараў.

Гэта далёка не поўны пералік роляў толькі з класічнага рэпертуару, а колькі актрыса ўвасобіла яшчэ на сцэне вобразаў з сучаснага савецкага рэпертуару і беларускай драматургіі. Возьмем наўздагад толькі некалькі з іх. Гарпіна ў «Алазанскай даліне», мадам Буткевіч у «Незабыўным 1919», Антаніна Цімафееўна ў «Выбачайце, калі ласка!», старая Жыгоцкая ў «Вайне пад стрэхамі»... І ў кожнай ролі — часцінка яе душы, яе талент і ўмельства. Будучы актрысай глыбока самабытнага даравання, творчасці якой уласцівы народнасць, вострая характарнасць, дакладнасць задумы, філігранная адшліфоўка малюнку ролі, яна высокім майстэрствам заваявала папулярнасць сярод гледачоў. Дзе б ні выступалі коласаўцы, на долю Глебаўскай часта выпадалі самыя гарачыя апладысменты.

Заўважым, што Яніне Глебаўскай даводзілася выступаць у ансамблі вельмі самабытных мастакоў, сярод якіх быў, скажам, такі унікальны талент, як Аляксандр Ільінскі або яркі Мікалай Звездачотаў. Тут або трапіш у «цень», або станеш нароўні з выканаўцамі галоўнай ролі. Яна ўмее адмаўляцца ад «ценявога» значэння, а, узняўшыся на ўзровень высокага мастацтва, не «перашкаджаць» агульнай задуме спектакля, рабіць тое, чаго вымагае ад яе тэкст драмы або камедыі, рэжысёрскае «прачытанне» п'есы. Робіць усё гэта Глебаўская не пакорліва, а свядома, шукаючы псіхалагічнага і артыстычнага абгрунтавання сваіх паводзін на сцэне.

Зусім нядаўна, як бы «пад заслону» сваёй службы на сцэне (актрыса пераходзіць на пенсію), гэты майстар-коласавец паказаў цудоўную работу. Роля Матруны ў спектаклі «Улада цемры» распрацавана было Янінай Казіміраўнай надзвычай тонка. Актрыса ішла за Талстым у раскрыцці трагедыйнай сутнасці гэтай жанчыны, якая і не можа ўсвядоміць сабе, якія жудасныя бываюць яе самыя шчырыя парыванні душы, яе «дабрыня». «Шчырасць» перадаецца актрысай натуральна, і споведзь сэрца, якое памыляецца і застаецца часта «сляпым», гучыць у яе вуснах своеасаблівай песняй, поўнай драматызму і гарачага напалу. Мабыць, не адзін з нашых цяперашніх маладых артыстаў з сапраўдным захапленнем прыняў гэты вобраз як узор акцёрскага пранікнення ў самыя глыбокія псіхалагічныя таямніцы непаўторнага сцэнічнага характару.

Так, калі мы гаворым пра традыцыі нашага тэатра, калі называем тых, у каго варта і трэба вучыцца акцёрскаму майстэрству, адной з першых называем і народную артыстку Беларусі Яніну Глебаўскую. Яна заслужыла такую высокую і адказную рэпутацыю.

**Цімох СЯРГЕЙЧЫК,**
народны артыст БССР.



Я. Глебаўская — Матруна ва «Уладзе цемры».
Фота С. КОХАНА.



Павел
МІСЬКО

# «ТЫГР» + «КАЦЯНЯ» = ПАЛКАН

**Жанр гумарыстычнай аповесці нялёгкі. Яшчэ цяжэй пісаць такую рэч пра малодшых школьнікаў і дашкольнікаў і адрасаваць яе такому ж чытачу. Аднак твор напісаны, неўзабаве аповесць выходзіць ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пад загалоўкам «Навасёлы, або праўдзівая, часам вясёлая, часам страшнаватая кніга пра незвычайны месяц у жыцці Жэні Мурашкі». Зразумела, з якім хваляваннем я чакаю сустрэчы кнігі з самымі юнымі чытачамі, а таксама з іх татамі і мамамі, бабулямі і дзядулямі, якім аповесць адрасавана таксама. Ніжэй—урывак...**

**АЎТАР.**

Як я зайздрошчу таму, у каго мама не медык! А ў мяне не проста медык, а медыцынская сястра.

Толькі зайшлі ў кватэру, толькі адсмяяліся, як зноў пачалі ўсе вохкаць ды ахкаць.

— А я плакала па табе! — пахвалілася Марынка, мая сястрычка, і выцерла слёзы — каб і я бачыў.

Тата ўкруціў ў калідоры самую большую лямпачку. Бабуля вынесла з агульнага пакоя таршэр. Марына збегала ў спальню, якая была адначасова і татавым кабінетам, і прывалакла настольную лямпу. Але ўключаць іх у калідоры не было куды.

— Марш у ванну! — загадала мама, перастаўшы вохкаць.

І ўсе ўціснуліся за мною ў ванны пакой, сарвалі з мяне адзенне. Боўтнулі ледзь не ў кіпень.

Пасталі канвеерам: за бабуляй тата з вялікім калматым ручніком, за татам — мама з ёдам, зялёнкаю, перакісам вадароду і клеем БФ-6, за мамаю Марынка прыстроілася — з піражком у руцэ.

Баба паварыла мяне трохі ў кіпені, ледзь скура не палезла, і пачала скрэбці самаю кусачаю мачалкаю. Па драпінах і ваўках!

— Ы-ы-ы! О-о-о! — роў я немым голасам.

Спаласнуць баба не паспела — кончылася гарачая вада. Мыла пачало раз'ядаць мне вочы. Я закрычаў яшчэ мацней.

Тата выскачыў з канвеера і пабег на кухню. Вярнуўся з чайнікам вады і стаў паліваць з носіка на макаўку, на віхор. Потым цёр мяне ручніком і камандаваў, як дзядзька, што па радыё гімнастыку перадае:

— Рукі ўгору, нахіліцеся ўлева — раз-а-аз... Выпрастацца!

Мяне і нахілялі, і круцілі на табурэтцы, а мама тыцкала, пэцкала, квэцала рознакаляровымі квачыкамі — у рудое, зялёнае і такое, што як вада, — перакіс.

Я выў і прасіўся:

— Усё мажце перакісам! — Перакісам не балела.

Клеем мама змазала мне драпіны на лбе, і скура паморшчылася на складкі, як у старога дзеда.

— Цябе клеяць, каб не рассыпаўся? — спытала Марына.

Агледзела мяне, як карціну, і сказала:

— Здаровы насі!

А тата сказаў:

— Пакуль жаніцца — загаіцца!

— А за ім і піражок — ну-тка, з'еш мяне, дружок! — сунула мне ў рот піражок Марына.

Я куснуў раз і заматаў галавою: «Не хачу!» Я ўсё яшчэ прытанцоўваў ад болю.

— А чаму ты не хочаш піражка? Табе не млосна? — устрывожылася мама.

— Млосна... — схлусіў я.

Мама пабялела і захісталася.

— Ой, у яго, мабыць, мазгі зрушыліся! Зараз жа пасцельны рэжым!

— Мо яму кампрэс халодны на лоб трэба? — прапанавала баба. — З лёдам?

Во не хапала... То ў кіпні вараць, то лёдам абкладваюць...

Тата схапіў мяне на рукі і панёс у ложак.

— Ваня, звані хутчэй у «хуткую дапамогу»!— патрабавала мама.

— Не хачу «хуткай дапамогі»! Есці хачу! — задрыгаў я нагамі.

Тата надзеў быў шапку, потым зноў скінуў:

— Ну, калі есці хоча, то ніякага зрушэння няма.

— Ага! Вельмі ты разумееш у медыцыне! Ты не хочаш здароўя свайму дзіцяці! — пачала мама папракаць тату. Яна схапіла мяне за руку, каб палічыць пульс. І тут убачыла пракол на далоні.

— Ах, божа мой! Мо навылёт... Не хапала яшчэ заражэння крыві.

І тут жа пабегла па шпрыц для ўколу.

---

НАДРУКАВАНА У «ПОЛЫМІ»

# БАЦЬКАВІЧЫ — БАЦЬКАЎШЧЫНА...

Сцяпана Кухарава мы ведалі да гэтага часу як журналіста, аўтара кніг, нарысаў і замалёвак. Галоўным аб'ектам яго журналісцкай увагі была і ёсць сучасная калгасная вёска, яе надзённыя клопаты і праблемы.

Пра сябе як пра пісьменніка С. Кухараў заявіў у аповесці «Бацькавічы», надрукаванай у студзеньскай кніжцы «Полымя» (шкада, што мне давялося прачытаць яе пазнавата — толькі зараз). Тут пісьменнік нібы «здраджвае» сабе, журналісту, і звяртаецца да мінуўшчыны, да жыцця беларускай вёскі 20—30 гадоў.

С. Кухараў ужывае такі ўмоўны мастацкі прыём: дае слова настаўніку Аляксею Іванавічу Баянку, а сам як бы стушоўваецца, «самаліквідоўваецца». Баянок расказвае нам пра родную вёску Бацькавічы, пра яе найбольш вядомыя «вяхі жыцця і лёс асобных жыхароў, якія пакінулі па сабе нейкі след». Аднавяскоўцы здаюцца Аляксею Іванавічу людзьмі асаблівымі, «вартымі таго, каб пра іх ведалі».

Такім чынам, перад намі вясковая аповесць-хроніка. Перад чытачом стракатай, густой талакой праходзяць героі, з якіх, дарэчы, ніводзін не з'яўляецца фігурай галоўнай, хіба апрача самога апавядальніка; спакойна разгортваюцца падзеі, вялікія і малыя, аднак жа ў большасці пераломныя як для жыцця Бацькавіч, так і для ўсяе краіны.

І ўсё ж адзін вобраз, своеасаблівы вобраз-персанаж, што радніць усіх герояў, жывіць іх душы пачуццём бацькоўскай зямлі, любоўю да яе, у творы на пярэднім плане. Гэта, несумненна, сама вёска Бацькавічы. Што ж гэта за вёска?

Пра Бацькавічы яшчэ і сёння кажуць: «Глухамань, мядзведжы кут». Да райцэнтра — пятнаццаць вёрст з гакам, да бліжэйшай станцыі Камунары — пяцьдзесят з такім жа гакам. Словам, звычайная вёска, якіх на Беларусі шмат. Калі яна чым і славілася, дык гэта «таўшчэзнымі, як абхапіць пры камлі двум чалавекам, бярозамі» ўсцяж бацькавіцкай дарогі, частымі пажарамі і духавітымі лазенькамі, што будаваліся ў садках ля сажалак. Цяперашні час, вядома, змяніў Бацькавічы: хаты спрэс на штандарах, падмурках, стрэхі пад шыферам, а над дахамі рагулькі тэлеантэн: аўтобусы звязалі вёску з райцэнтрам і з усім шырокім светам. Сёння бацькавіцкіх людзей можна сустрэць і на Курылах, і ў Талды-Кургане, і ў Данбасе, і на Кубані...

Толькі аўтара, паўтараем, цікавяць не так сягонняшнія Бацькавічы, як тыя, з часоў яго дзяцінства і юнацтва, з дакалгасных і калгасных гадоў. Тыя яго Бацькавічы запомніліся яму слаўнымі і чуйнымі да ўсяго новага людзьмі, такімі, як прадстаўнік раёна Архіпцоў, камуніст-дваццаціпяцітысячнік Грыцько Гопка, першы бацькаўскі старшыня, смуглявы, амаль двухметровага росту мужчына вясёлы і пацешны рахункавод Сямён-Марцін, стрыманы, далікатны брыгадзір Якаў Кавалік і інш.

Праз іх паводзіны і ўчынкі Аляксей Іванавіч, дакладней, сам пісьменнік, паказвае крутыя зрухі тагачаснага вясковага жыцця. Усе яны: Архіпцоў, старшыня Гопка, Сямён-Марцін, Якаў Кавалік,—стараюцца перайначыць сялянскае жыццё, зрабіць усіх бацькаўцаў шчаслівымі і заможнымі.

А беднякоў у вёсцы нямала. Вось Іван Панасавіч Баянок, бацька нашага летапісца. Неўгамаваны бадзяжнік, чалавек гарачлівы і горды, ахвотнік да розных выдумак. Ужо ён як ні мудруе, ні б'ецца: узімку працуе на далёкіх шахтах, увесну на полі, набывае, каб разбагацець на заказах, ваўначоску,—а ўсё не можа выбіцца з галечы. Вось шчуплы, аброслы шчацінем Трахім Мікіцёнак, у якога таксама «не склалася жыццё — зямлі было ўсяго паўнадзела, а сям'я вялікая, дзеткі дробныя, а там яшчэ надарылася бяда — згарэла хата і ўсе будынкі»... А вось Андрэй Кавалік, ціхманы і дзівакаваты мужычок, у якога і было з багацця, што саламяная хатка з адзіным сляпым вакном, якую ўзімку па вільчык заносіла снегам...

Логікай іх жыццёвага лёсу аўтар даводзіць, што адзінае для іх выйсце з беднасці — гэта калгас, новы лад жыцця.

Калгас у Бацькавічах нараджаецца неяк ненатужна, хоць людзям і нялёгка рваць пупавіну, якая звязвае іх са сваім конікам, сваёй зямліцай. З якім светлым узрушэннем упершыню выходзяць бацькаўцы на арцельную касьбу! Малюнак касавіцы выпісаны аўтарам дакладна, любоўна і паэтычна. Эмацыянальна-псіхалагічная атмасфера, непаўторны працоўны воблік і дух таго часу, тых першых калгасных гадоў узноўлены тут аўтарам непасрэдна і свежа.

Тым жа пачуццём незвычайнай радасці, свежасці і навізны калгаснай працы прасякнута і сцэна жніва.

Думаецца, што грамадскі і эмацыянальны воблік тых гадоў быў бы няпоўны, калі б пісьменнік не расказаў пра культурныя зрухі ў жыцці Бацькавічаў: з'яўленне, як цуда, радыё, арганізацыя драмгуртка і пастаноўка першай п'есы. А з'яўленне ў сяле першых камсамольцаў, селькораў, камсамольскай ячэйкі? Гэта ж было цэлай падзеяй для колішняй вёскі. Старонкі, прысвечаныя гэтым падзеям, напісаны хвалююча, з дакладным адчуваннем тагачасных навін-перамен.

Аповесць прачытана. І радасна, што прылучыўся душой, што пазнаёміўся з цікавымі людзьмі Бацькавіч, што ў нечым духоўна пабагацеў. Гэтая радасць была б яшчэ паўнейшай, глыбейшай, каб не...

Вось тут і хочацца выказаць пэўныя крытычныя меркаванні. Як ужо гаварылася напачатку, жыццё ў аповесці падаецца ў своеасаблівым патоку, што цячэ сабе свабодна, нават супакоена. Твор не мае ні строга акрэсленага сюжэта, у рамках якога б пульсавала гэтае жыццё, ні галоўных персанажаў, вакол якіх групаваліся б астатнія і якія рухалі б падзеі, развівалі сюжэт. Аднак не гэта важна. Важна тое, што ў «Бацькавічах» няма добра прадуманай стрыжнёвай ідэі, ці, як кажуць, дамінанты, пэўнай эстэтычнай мэты, якая б дыктавала пісьменніку строгі адбор жыццёвага матэрыялу. Таму і не дзіўна, што ў аповесці нямала выпадковых персанажаў і эпізодаў. Самі па сабе, па-за тканінай твора, гэтыя героі і эпізоды даволі цікавыя, але яны не апраўданы мастацкай неабходнасцю. Адсутнасць эстэтычнай дамінанты зніжае якасць твора, робіць яго месцамі вялым, аморфным, а часам наводзіць на думку, што рэч гэтую можна было б пісаць бясконца доўга.

У «Бацькавічах» дужа аслаблены драматычны пачатак. Канфліктныя сітуацыі, у якіх сутыкаюцца характары, у творы, вядома, ёсць, але яны па-мастацку альбо не рэалізаваны, альбо рэалізаваны бегла, павярхоўна, часам нібы знарок аблегчана.

Апісальнасць і скорагаворка — сур'ёзныя недахопы аповесці, і яны ідуць, думаецца, ад таго, што ў «Бацькавічах» часта «перамагае» Кухарава-пісьменніка Кухараў-журналіст.

І апошняе: мова. Слова ў аповесці па-народнаму метафарычнае, багатае, свежае. Але пісьменніку варта было б стрымліваць сябе, стражэй карыстацца народнай лексікай. Бо перанасычанасць твора дыялектызмамі зніжае яго даходлівасць, мастацкую вартасць. «Падгерысты», «абмантачыць», «гламызда», «маталыга» — нават у кантэксце цяжка зразумець такія слоўцы.

**М. ВЫШЫНСКІ.**

---

Сёння мы з павышанай патрабавальнасцю ставімся да нашага выяўленчага мастацтва, да яго творцаў усіх пакаленняў, усіх відаў і напрамкаў іх творчасці. Пры гэтым мы заўсёды абавязаны ўлічваць канкрэтныя ўмовы кожнага з перыядаў развіцця нашага мастацтва, у тым ліку і сучаснага.

Калі гаварыць пра беларускую савецкую скульптуру сёння, дык істотным момантам для яе з'яўляецца значны прыток маладых сіл. Яны патрабуюць да сябе ўвагі як з боку старэйшых калег, так і нашай крытыкі. Тым больш, што працуюць яны пераважна над тэмамі нашай сучаснасці. І—дасягаюць немалога поспеху. У гэтай сувязі нельга не прыгадаць, як некалі Аляксандр Фадзееў зусім слушна заўважыў, што не ўсё, што твораць маладыя, у аднолькавай меры ўдалае, але яно цікавае ўжо тым, што адлюстроўвае небывалыя дагэтуль у гісторыі падзеі і факты. Да таго ж гэтае небывалае дагэтуль у гісторыі адлюстроўваюць людзі, якія ўсвядомілі веліч гістарычнай задачы, што выпала на іх долю. Мабыць, адсюль зусім слушна выцякае меркаванне, што нават подступы маладых творцаў да надзённай тэмы вартыя самай пільнай нашай увагі.

Мы разумеем: паняцце сучаснасці—няпростае і ў поўнай меры раскрыць яго ўдаецца ў сваіх работах, бадай, толькі вопытным майстрам. Тым не меней, каштоўныя драбніцы новага, неаддзельнага ад паняцця сучаснасці, не так ужо рэдка з радасцю знаходзім у творах моладзі. Шчырыя, непасрэдныя назіранні маладых нашмат пашыраюць агульны расказ нашага мастацтва аб сучаснасці.

Пры ўсёй разнастайнасці творчых манер беларускіх скульптараў старэйшага і малодшага пакаленняў мы выразна бачым накіраванасць іх творчасці да агульнай мэты. Іх пошукі збліжае, аб'ядноўвае сам падыход да выбару жыццёвых з'яў, глыбокае разуменне маральна-этычных і эстэтычных каштоўнасцяў нашага часу. Так, напрыклад, істотнай рысай сучаснага перыяду ў нашым мастацтве скульптуры з'яўляецца павышаная цікавасць да гераічнага. Гераічнае часцей за ўсё праяўляецца ў канкрэтных работах нашых скульптараў як сплаў рэальнага і ідэальнага. Як сплаў, які існуе ў нашым жыцці. Бо ён—абавязковая прыкмета перамогі новых, камуністычных адносін паміж людзьмі. Гэтыя новыя адносіны па-рознаму (у тым ліку і ў залежнасці ад узроўню таленту таго або іншага мастака) выяўляюцца ў мастацтве.

Істотна падкрэсліць у сувязі з усім сказаным вышэй, што калі сталым майстрам бліжэй паказ праяў гераічнага ў канкрэтных справах і подзвігах людзей, дык маладым, рамантычна настроеным мастакам героіка ўяўляецца ў ней-



— Хаця б слупняк не прыкінуўся!

— Не хачу ўколу! Не хачу ўколу, есці хачу!— Я падхапіўся з пасцелі і нырнуў пад ложак.

Тут і тата, і мама, і бабуля пабралі крэслы, паселі каля ложка і пачалі:

— Сын, так мужчыны не робяць, — сказаў тата.

— Ты што — памерці хочаш?—спытала мама.

— У нас на фабрыцы аднаму рабочаму руку ўрачы аднялі, — прывяла бабуля прыклад. — Было заражэнне, а ён не лячыўся.

— Жэня, я раскажу ўсім дзецям, і цябе будуць дражніць баязліўцам! — прыгразіў тата.

— Эх ты, баяха! — прысароміла Марына.

— Дурненькі, вылазь... — перайшла на ласку бабуля.

— Во, глядзі, мама мне зробіць укол — і хоць бы што...

Гэта ўжо цікава!

Я выглянуў з-пад ложка. Бацька закасаў рукаў і падставіў руку — блізка-блізка да шпрыца.

— Э-э, вы знарок... Вы мяне ашукаць хочаце, — раскусіў я іх хітрыкі.

— Давай, Валя, калі... — уздыхнуў тата.

— Усе павар'яцелі! Усе павар'яцелі ў гэтым доме! — усхапілася бабуля, пляснула рукамі.— Я не ўмешваюся, але вазьмі, Іван, папружку добрую — мігам выскачыць...

— Рабі ўкол, кажу! — паўтарыў тата.

— Пад лапатку трэба... — сказала мама зняморжаным голасам.

— Хэ, якая важнасць. Калі пад лапатку! — Тата храбра выцягнуў са штаноў кашулю і задраў сабе на галаву.

Мама мазнула спіртам і... укалола! Пад лапатку! Супраць слупняка!

А тата стаіць, як слуп, і кашулі не спускае.

— Скора ты там? — пытае ў мамы.

— Ды я ўжо ўкалола!

— Гэ, а я і не пачуў... Ніякага болю не пачуў... — прыкідваецца тата. — У запас будзе ўкольчык. А ты давай, браце, каліся. Ёд у параўнанні з уколам — як тыгр супраць кацяняці.

— Я хачу кацяня! Не, я хачу такога сабачку, як Сняжок у Галкі — запатрабаваў я.

— Ты што — думаеш, што такія сабачкі на дарозе валяюцца? — сказала мама і зноў набрала ў шпрыц лякарства.

— Добра, будзе табе сабачка, — суха сказаў тата. — У першы ж выхадны паездзем на базар і нешта купім. Мо не такога, як у Галкі, але купім.

— А дайце ўкол яшчэ і бабе, тады вылезу!

Бабуля падскочыла ад гневу мо на паўметра.

— Я не ўмешваюся!.. Выхоўвайце дзяцей пасвойму... Але такую распусту цярпець!

Усе закрычалі на мяне, а тата шморг са штаноў папругу.

Трэба канчаць камедыю, вылазіць.

Ну і праўда: камар і то горш кусаецца, чым той укол. Хай бы два разы мама ўкалола, нават тры... Не — пяць разоў! Абы ў мяне быў сабачка. Ні ў кога з такіх, як я, не будзе сабачкі: ні ў Жоры, ні ў Сярожы, ні ў Паўлушы, ні ў рыжага Васі.

Я вячэраў з усімі і думаў пра сабаку. Марына аддала мне рэшткі свайго пірага, села да мяне на калені і не злазіла да канца вячэры.

Я думаў пра сабаку. Калі ён будзе не белы, як Сняжок, то жоўта-белы, пярэсценькі. І не абавязкова, каб маленькі. Вялікі нават лепш. Ого— вялікі! Адно слова—вя-лі-кі! Станеш на лыжы— пацягне, сядзеш на санкі — павязе. Ён і з пажару можа каго хочаш выратаваць, і з вады. А заблудзіць які малы, дадуць мне панюхаць... Ой, не мне, а майму сабаку! Дадуць панюхаць які чаравік — ураз па следу гаспадара знойдзе... А можа якога бандыта ці злодзея зловіць мой сабака? От было б здорова! Усе мяне хвалілі б, у газету фатаграфавалі... Ідзеш па калідоры ў школе, а кругом шэпчуцца: «Жэня Мурашка ідзе... З другога «Б» класа... Ну, той, у якога Палкан...».

Раптам я перастаў думаць пра сабаку. За сталом было ціха-ціха...

Усе глядзелі на мяне, як ненармальныя.

— Не есць... Усміхаецца сам сабе! — гучна шэпча мама. — Ваня, ты бачыш, якая ў яго дзіўная ўсмешка? Пашкодзіў-такі галаву... — Яна ўсхліпнула, нахілілася да мяне, стала мацаць мой лоб, цалаваць. — Дальбог, у яго, мабыць, тэмпература... У пасцель, зараз жа ў пасцель! Звані ў «хуткую дапамогу»!

Мяне павялі пад рукі ў пасцель, не даўшы нават добра пад'есці. Я ішоў і ўсміхаўся, як дурань: хай звоняць, хай выклікаюць хоць тысячу ўрачоў. Я іх не баюся. І ўколаў не баюся...

У мя-не бу-дзе са-ба-ка!!!

ВЫЯЎЛЕНЧАЕ МАСТАЦТВА

# НА ПОДСТУПАХ ДА ВЫШЫНЬ

*НАТАТКІ ПРА БЕЛАРУСКУЮ СТАНКОВУЮ СКУЛЬПТУРУ*

I. ЯЛАТАМЦАВА

кай меры ідэальнай якасцю. У залежнасці ад гэтых пасылак у тых ці іншых канкрэтных творах атрымліваецца розны сплаў ідэальнага і рэальнага. Ці ж не істотная гэта рыса сённяшняга творчага працэсу ў мастацтве скульптуры рэспублікі?..

Вось, напрыклад, «Лянок» А. Вяліксонава—твор, прысвечаны працаўнікам сяла. Твор гэты каштоўны праўдзівым адлюстраваннем духоўнага свету працаўнікоў вёскі. Велічная ўрачыстасць рухаў калгасніц гаворыць аб высокім прызначэнні іх працы. Лаканічная мова пластыкі быццам падкрэслівае ўнутраную сабранасць персанажаў скульптуры. Такая паэтычная форма не менш дакладна перадае героіку працы, чым самы дэталёвы «нарыс». У той жа час і скульптурны «нарыс» не траціць свайго значэння. Пастаянна параўноўваючы абодва віды работ, мы ўсё больш пераконваемся ў падабенстве іх канчатковых мэт.

РОЗДУМ нашых скульптараў пра час і пра людзей —шырокі, разнастайны, праўдзівы. Ці глядзім мы на партрэты сучаснікаў або жанравыя сцэны з іх жыцця—бачым у іх жаданне аўтараў пранікнуць у логіку падзей і характараў, абагульніць характэрныя працэсы, паўней адлюстраваць жыццё. Фарміраванне ў нашай рэчаіснасці новага характару чалавека паказваецца без націску, проста і даходліва.

Новае ў характары сённяшняга сельскага працаўніка—і ў прыгаданай вышэй рабоце А. Вяліксонава «Лянок», і ў «Даярцы» Т. Матвеенкі. І няхай сабе другая з названых скульптур зусім не паказальная для беларускай пластыкі, няхай сабе яна не ва ўсім дасканалая. Але нават у ёй звяртае на сябе ўвагу навізна ў трактоўцы сялянкі. Справа, зразумела ж, не ў тым, што сялянка нашага часу падобная на гараджанку. Скульптару ўдалося зразумець не тое, што на паверхні — ён трактуе вартасць падмечанага ў жыцці характару. Перш за ўсё ён акрэслівае ў сваёй гераіні галоўнае—яе адданасць справе. Прыкладаў такой трактоўкі сучаснага героя можна прывесці досыць багата.

У сённяшняй беларускай станковай скульптуры няспынна працягваецца працэс узбагачэння сродкаў вобразнага ўвасаблення задумы. У станковых творах героіка-рамантычнага плана захапляе эмацыянальнасць вобразнага ладу, усхваляванасць. Аўтары не хаваюць сваёй зацікаўленасці ў лёсе герояў, у тых падзеях, якім прысвячаюць творы. Гэта ж сапраўды істотная рыса савецкага мастацтва—зліганасць ідэй, пачуццяў, думак, поглядаў мастака з ідэямі, думкамі, пачуццямі свайго героя—сучасніка.

Вобразы моладзі, працаўнікоў горада і сяла ў лепшых работах нашых скульптараў уражваюць імкненнем перадаць багацце іх унутранага свету. Маладыя скульптары з асаблівай ахвотай ствараюць вобразы школьнікаў, студэнтаў, падлеткаў з іх крыштальнаю чысцінёю маральных уяўленняў, з іх рамантычнымі марамі, шырокім кругаглядам. Адсюль— такая частая лірычная форма апавядання, здольная перадаваць істотныя адценні паэзіі нашага жыцця.

Як на прыклады, спашлюся на работы «Енька» В. Байцуна, «Юнацтва» Н. Якавенкі, «Песня юнацтва» Г. Шумскага. Можна было б назваць і яшчэ некаторыя.

Наўрад ці не разумее хто-небудзь сёння, што матэрыял скульптуры не безадносны да тэмы, не нейтральны. Нават сам матэрыял здольны сказаць істотнае пра прыгажосць прыроды і побыту, аб тых ці іншых традыцыях у апрацоўцы, скажам, каменя, дрэва, металу, якія самі па сабе актыўна ўводзяць гледача ў атмасферу народнага жыцця.

Пра гэта сведчаць нядаўнія ўсесаюзныя выстаўкі, дзе мы сапраўды адчулі непаўторнасць шляхоў у скарыстанні грузінамі і армянамі, напрыклад, металу, украінцамі—шчодрага, напоенага сонцам букавага дрэва, літоўцамі— спецыяльнай апрацоўкі дрэва «пад старадаўняе».

Для беларусаў дрэва—таксама натуральны матэрыял. Адна з цікавых спроб па-новаму асэнсаваць уласцівасці дрэва—у кампазіцыі М. Бельскага «Адпачынак». Паказваючы салдат, якія збіраюцца купацца, аўтар умела прымяніў капо-карань.

Максімальнае скарыстанне вобразатворчых уласцівасцяў матэрыялу—і ў коннай групе В. Андрушчанкі «1919 год». Тут рэвалюцыйная тэма ўдала падкрэсліваецца колерам чырвонага дрэва, якое асацыіруецца з полымем сцягаў, імклівасцю чырвонай конніцы. На жаль, няўвага аўтара да сушкі дрэва адпомсціла—скульптура катастрафічна хутка рассохлася, пакрылася сеткаю трэшчын.

Прыватныя, здавалася б, пытанні рамяства становяцца ўсё меней прыватнымі. Нават такі традыцыйны матэрыял, як гіпс, пры ўмелым скарыстанні здольны прагучаць свежа. Тут прыгадваецца прыклад майстроў, якія замест звычайнай грубай апрацоўкі гіпса пад бронзу ці алюміній вельмі цікава скарысталі апрацоўку гіпса пад шамот, пад пясчанік.

Найбольш буйным паказам беларускай станковай скульптуры апошняга часу стала сёлетняя занальная выстаўка ў Маскве. Апрача «Юнацтва» А. Глебава была паказана новая кампазіцыя Г. Мурамцава «Квітней, Беларусь!» Многіх прывабіла шчодрасцю фантазіі, дабротнасцю выканання ў дрэве, аптымістычнасцю вобраза, аўтарскай думкаю пра росквіт роднай зямлі. Прыемны і ласкавы сонечны колер дрэва, адпаведны вобразу. Аднак пры несумненным прафесіяналізме рашэння задачы аўтару не ўдалося пазбегнуць некаторай супярэчлівасці ў трактоўцы вобраза. У той час, як па ідэі фігура з вянком на ўзнятых руках павінна ствараць адчуванне ўпэўненага руху ўверх, залішне масіўныя статычныя формы цела гэтаму замінаюць. Калі паміж статычным і дынамічным момантамі твора ўзнік канфлікт, фігура у пэўнай ступені страціла цэльнасць. Зроблена ж яна, несумненна, з любоўю, шчыра, і каштоўная не толькі гэтым, але і ўдалым вырашэннем пытання стылю. Займаючы пагранічнае месца паміж станковай і дэкаратыўнай кампазіцыяй, яна арганічна ўпісвалася ў інтэр'ер Манежа.

НЕКАЛЬКІ слоў аб праблеме стылю. Аб сучаснай мастакоўскай мове. Як перадаць пульс часу, як знайсці сродкі, здольныя вобразна ўвасобіць лад думак і пачуццяў сучасніка — гэтыя пытанні стаяць перад кожным скульптарам, незалежна ад таго, над гістарычнай ці сучаснай тэмай ён працуе.

Многія лічаць, што сучаснікам бліжэй скупая лаканічная форма. У лаканічнай манеры У. Папсуеў выконвае серыю твораў пра Леніна. «1905 год» — гэта паказаная сёлета частка трыпціха, у які ўваходзяць зробленыя раней «1919 год» і «Ленін у Кастрычніку».

У падкрэслена ўмоўнай, грубаватай манеры выканаў кампазіцыю «Сям'я бацькі Міная» А. Вяліксонаў, лічачы, што рэзкасць абрысаў фігур людзей, якіх бачым у перадсмяротны час, памагае адцяніць трагізм сітуацыі. Л. Гумілеўскі ў «Партызанскай сям'і» звяртаецца да своеасаблівай тэхнікі апрацоўкі дрэва буйнымі зрэзамі, характэрнымі для народнай разьбы па дрэве. Падпарадкоўваючы манеру выканання вобразным задачам, ён уносіць у работу элемент грубаватага народнага гумару. Сувязь з народным мастацтвам як бы падкрэслівае народны характар самога партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай.

Наведвальнікам Манежа падабаліся кампазіцыі Л. Зільбера «Рабфак» і У. Шатэрніка «Мацярынства». Аддаючы належнае выканаўцам за пошукі фармальных сродкаў, усё ж мусім адзначыць, што пакуль яшчэ абедзве гэтыя работы неглыбокія па думцы. Апрача пошукаў сродкаў выяўлення прыгажосці скульптурных форм, гарманічнай звязанасці ўсіх частак, трэба глыбей пранікаць у сутнасць таго, што адлюстроўваеш.

ПРАЦЯГВАЕ папаўняцца ў нашай скульптуры галерэя твораў аб Вялікай Айчыннай вайне. Творы на гэтую тэму, створаныя ў апошнія гады, блізкія нам трактоўкай станоўчага героя, паэтызацыяй яго маральнай чысціні. Моцныя характары раскрываюцца ў складаных жыццёвых сітуацыях.

«Салдаты. 1941 год» П. Белавусава, трыпціх «Партызаны» Л. Гумілеўскага, «Дружба» А. Заспіцкага, «Выйшлі з акружэння» В. Слінчанкі і шэраг іншых твораў разнастайна асвятляюць розныя моманты вялікай эпапеі. Пераважаюць тут невялікія па памеры шматфігурныя кампазіцыі з разгорнутым сюжэтам. Скульптары шукаюць новыя тэмы і сродкі для паказу ўсенароднага гераізму. Калі «Партызанская сям'я» Л. Гумілеўскага расказвала пра адпачынак партызан, дык яго «Клятва»—пра трагічныя старонкі народнай эпапеі, пра пахаванне баявога сябра. Людзі прыгнечаныя, маўклівыя. На высока ўскінутых руках—знявечанае цела загінуўшага. Паціраваная бронза аб'ядноўвае групу змрочным колерам асенняй імглы. Гэта работа, выканана, як і папярэдняя, у стылі народнай разьбы з груба сцясанымі плоскасцямі. Тэма народнай мужнасці раскрываецца таксама ў кампазіцыі С. Селіханава «Валодзя Шчарбацэвіч — піянер-падпольшчык», М. Кандрацьева «Без вестак» і ў іншых.

Нават беглы пералік кампазіцый беларускіх скульптараў апошніх гадоў паказвае, што яны сапраўды разнастайныя як па тэматыцы, так і па мастацкіх задачах. Усё гэта сведчыць пра няспыннае абнаўленне скульптуры.

# ПРЫЕХАЎ НА ГАСТРОЛІ ОПЕРНЫ...

**Не ўпершыню гастраляваў у Смаленску Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета БССР. (У гэтыя дні ён выступае ў Днепрапятроўску).**

**Абласная газета «Рабочий путь» шырока асвятляла на сваіх старонках гастролі Дзяржаўнага ордэна Леніна акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР. «Першы спектакль — опера А. Барадзіна «Князь Ігар» — прайшоў з вялікім поспехам», — пісала газета.**

**А вось што гавораць гледачы. Інтэрв'ю з імі таксама былі змешчаны ў «Рабочем пути».**

**— У папярэдні прыезд тэатра ў наш горад, — дзеліцца ўражаннямі інжынер аўтаагрэгатнага завода В. Ганчароў, — я слухаў «Русалку», «Трубадура», «Кармэн», глядзеў балеты «Лебядзінае возера» і «Пер Гюнт»... А сёння сустрэча з «Князем Ігарам».**

**Спектакль добры ва ўсіх сваіх кампанентах: зладжанасць, бездакорны густ, добра гучаць хор і аркестр, выразныя дэкарацыі і касцюмы... І да ўсяго гэтага — выдатныя галасы салістаў, многія з якіх выяўляюць і вялікі драматычны талент. Высокае майстэрства балетнай трупы, на маю думку, знайшло яркае ўвасабленне ў «Палавецкіх танцах»... Адным словам, я ў захапленні.**

**Тэатр прывёз у Смаленск цікавы рэпертуар. Аднак на будучае (упэўнены, што смаляне яшчэ не аднойчы будуць слухаць мінскіх артыстаў, якіх яны палюбілі) хацелася б, каб у праграму выступленняў былі ўключаны оперы беларускіх кампазітараў, напісаныя на сучасныя тэмы...**

**Уражаннямі, поўнымі захаплення пра оперу «Князь Ігар», дзеляцца на старонках газеты слесар-зборшчык завода малагабарытных вылічальных машын А. Іванкоў, навучэнцы аркестравага аддзялення Смаленскага музычнага вучылішча сёстры Людміла і Таццяна Сіманавы, вучаніца сярэдняй школы — харыстка студыі пры Доме культуры прафсаюзаў М. Чарапахіна.**

**14 чэрвеня газета надрукавала рэцэнзію кіраўніка народнай балетнай студыі, заслужанага работніка культуры РСФСР І. Джаўровай і старшага выкладчыка медыцынскага інстытута Е. Паповай на балет Г. Вагнера «Пасля балю».**

**Рэцэнзенты пішуць, як маладыя акцёры балета выконваюць даручаныя ім ролі Юнака (Ю. Траян) і Дзяўчыны (Л. Бржазоўская).**

**«Цудоўныя вонкавыя дадзеныя танцоўшчыка ў спалучэнні з акцёрскім майстэрствам, свабоднае валоданне найцяжэйшымі тэхнічнымі прыёмамі, выдатны, поўны мужнасці і экспрэсіі скачок, лёгкасць, прыгожыя лініі дапамагаюць стварыць пераканаўчы вобраз.**

**Дзяўчына ў выкананні Л. Бржазоўскай — годная партнёрша Ю. Траяна. Яна лёгкая, пластычная, з беззаганным крокам, выразнымі рукамі. Разам з Ю. Траянам яны складаюць выдатны танцавальны дуэт. Іх паставы выразныя, фіксіраваныя, цяжкія падтрымкі выконваюцца лёгка і грацыёзна.**

**Прыемнае ўражанне пакідае кардэбалет, прычым больш моцны — мужчынскі склад балетнай трупы».**

**У заключэнне гаворыцца:**

**«Цэласнаму ўяўленню ад спектакля спрыяюць выкананыя з вялікім густам і дэкарацыі, і касцюмы (асабліва цікава зроблены мастаком Я. Жданам дэкарацыі начнога Пецярбурга). Пад кіраўніцтвам дырыжора У. Машэнскага маляўніча гучала музыка Г. Вагнера. Балет пакідае добрае ўражанне. Ён парадаваў смалян—аматараў харэаграфіі».**

**Пазней газета «Рабочий путь» змясціла паведамленне аб сустрэчы беларускіх артыстаў з рабочымі галоўнага прадпрыемства швейнага аб'яднання «Узыход». Гасцей цёпла вітаў сакратар партыйнай арганізацыі прадпрыемства Н. Байноў. Галоўны рэжысёр тэатра А. Дадзішкіліяні пазнаёміў рабочых з артыстамі, расказаў пра творчыя планы калектыву. Затым выступілі народныя артысты Л. Галушкіна і І. Сарокін, салісты балета С. Цітовіч і Я. Бацвіннік. Пасля канцэрта госці гутарылі з рабочымі, пазнаёміліся з новымі мадэлямі адзення, над якімі зараз працуе швейнае аб'яднанне. З захапленнем сустракалі майстроў беларускага мастацтва і рабочыя абутковай і трыкатажнай фабрык.**

**На Смаленшчыне адбыўся XV музычны фестываль імя М. І. Глінкі ў гонар 168-й гадавіны з дня нараджэння вялікага рускага кампазітара. Друкуючы справаздачу пра ўрачыстасці, газета паведамляе, што і беларускія артысты прынялі ўдзел у гэтым музычным свяце. Аркестр тэатра выступіў ля помніка Глінкі.**

КІНО

# ХОЦЬ СТУЖКА І КАЛЯРОВАЯ...

НОВАЯ РАБОТА СТУДЫІ «БЕЛАРУСЬФІЛЬМ» — «ХОРОШЫ ХЛОПЕЦ»

НАТУЖНА равучы маторамі, прабіраюцца «дарогамі арлоў» і «вярблюджымі сцежкамі» цяжка нагружаныя аўтамабілі. Ідуць міжнародныя гонкі, пасля якіх тыя машыны, што добра зарэкамендуюць сябе на трасе, будуць закуплены замежнай дзяржавай — арганізатарам спаборніцтваў. За рулём МАЗа — Віктар Логінаў, галоўны герой фільма «Харошы хлопец», новай мастацкай каляровай стужкі студыі «Беларусьфільм». Заходнія фірмы, зацікаўленыя ў перамозе сваіх марак, заліваюць перад ім дарогу вогненнай вадкасцю, страляюць у ветравое шкло незмываемай фарбай, псуюць матор перад стартам, садзяць побач з ім у машыну чароўную перакладчыцу - шпіёнку, падсылаюць наёмных забойцаў...

Так, па нялёгкай дарозе пусцілі свайго героя аўтары — сцэнарыст Г. Няпомняшчы, рэжысёр Ю. Дубровін, апертар В. Нікалаеў. Самі ж яны пайшлі па больш простым, торным шляху...

Але вернемся да нашага героя. Ён не гоншчык, а тэхнічны прадстаўнік Мінскага аўтамабільнага завода. За руль сеў выпадкова, бо раптоўна захварэў гоншчык. Сваю кандыдатуру прапанаваў сам, інакш і быць не магло—ён жа «харошы хлопец»! Па той жа прычыне без ценю страху сустрэў двух узброеных бандытаў і справіўся з імі ледзь не адной левай рукой. Не губляецца ён і тады, калі яму на шыю кідаецца чароўная перакладчыца. Стаіць нерухома і бясстрасна, чакаючы, пакуль яна ўсвядоміць няправільнасць сваіх паводзін. Дарогу, падрыхтаваную аўтарамі, праходзіць без цяжкасцяў і пакідае ззаду ўсіх замежных асаў аўтагонкі.

Але што адбываецца ў душы героя, што дае яму сілы быць такім моцным, удачлівым і непераможным?

Даведацца пра гэта не так проста. Герой увесь час захоўвае на твары непрабівальную маску, праз якую ў яго душу не могуць зазірнуць ні сапернікі, ні гледачы. Яму чужыя страсці, парывы, тым больш ваганні. Нават гонкамі ён не захапляецца, а проста выконвае абавязак, лічачы магчымым раз-пораз спыняцца, каб пацікавіцца самаадчуваннем сваіх сапернікаў без важкіх на тое прычын, быццам падзеі адбываюцца не на горнай трасе, а на загараднай прагулцы.

Хто ж сапернікі Логінава, з якімі людзьмі ён змагаецца? Са слоўных характарыстык і ілюстрацыйных прыкладаў мы даведваемся, што яны высокакваліфікаваныя гоншчыкі-прафесіяналы, якіх жыццё вымагае быць жорсткімі і бесчалавечнымі, бо паражэнне пазбаўляе іх сродкаў да існавання. Відаць, яны розныя людзі, рознае любяць, па-рознаму ставяцца да жыцця, да спорту. У фільме ж кожны з іх, у лепшым выпадку, надзелены адной рысай: італьянец, зразумела, тэмпераментны, заходнегерманскі гоншчык — жорсткі, англічанін — стрыманы і г. д. (за выключэннем спартыўнага суддзі, які на працягу ўсяго фільма сядзіць паміж Логінавым і перакладчыцай і на характар якога аўтары забыліся нават намякнуць). Дапусцім, усё гэта не так важна, а важна, у якіх яны адносінах з Логінавым. Мы маем на ўвазе не афіцыйныя адносіны сапернікаў на гонках, а чалавечыя, якія абавязкова павінны ўзнікнуць. Інакш пра што фільм?

Мабыць, для таго, каб раскрыць чалавека ў такіх незвычайных абставінах, у якіх апынуўся Віктар Логінаў, трэба было добра вывучыць і, зразумеўшы, паказаць на экране якраз гэтыя абставіны — праз людзей пэўных характараў, праз пануючы там «духоўны клімат», зрэшты проста праз бытавую атмасферу. Талы наш чалавек па-сапраўднаму, унутрана, а не па знешніх прыкметах і дзяжурных плакатных супрацьпастаўленнях кантраставаў бы з прадстаўнікамі замежнай маралі—маралі «гоншчыкаў» ад прафесіі, ад палітыкі — а то і знаходзіў бы сяброў. Пакуль што яго толькі паставілі перад абліччам нечага «не нашага», а што яно — зразумець цяжка. Дзеянне адбываецца ў неназванай замежнай краіне — ці то капіталістычнай, ці краіне «трэцяга свету». Даецца нейкі абстрактны, абагулены яе партрэт. Прадстае яна перад намі ў выглядзе высокааўтаматызаванага побыту ў атэлях, прыгожых легкадумных бландзінак, якіх абыякава абдымаюць у рэстаранах бравыя гоншчыкі, наборам экзатычных абарыгенаў няпэўнай нацыянальнасці (але па ўсіх прыкметах — магаметанскага веравызнання). Усё гэта не перажыта аўтарамі, не прапушчана праз сэрцы і розум. Гэта бачыш па тым, як наіўна і спрошчана, па часопісных ілюстрацыях, па замежных стужках уяўляецца сцэнарысту і рэжысёру (а значыцца і аператару) «замежнае жыццё» наогул.

Калі гаварыць пра нашы ўражанні, тых, хто глядзіць фільм у зале, то яно застаецца такое: нам паказалі мантаж вельмі ж «карцінных» кадраў, якія вонкава маглі б служыць выкрыццю заходняга (або празаходняга) вобраза жыцця, але іх «паўторнасць», «цытатнае паходжанне» вымушаюць толькі ўспамінаць: дзе ж такое ўжо было?

(Дарэчы, калі аўтары гавораць пра тое, што добра ведаюць, у іх з'яўляюцца і пэўны настрой, і цікавыя фарбы, як, напрыклад, у паэтычнай прэлюдыі да фільма, дзе зняты аснежаныя беларускія лясы і гучыць лірычная песня).

Аднак, можа, гонкі — гэта толькі фон, на якім адбываецца нейкі іншы канфлікт і рашаюцца нейкія іншыя праблемы? Ёсць жа яшчэ чароўная шпіёнка - перакладчыца, якую, напэўна, нездарма ўвялі ў фільм яго стваральнікі? Дэлія Уэйд — удава гоншчыка, служыць у адной з замежных фірм. Выконваючы заданне гаспадароў, Дэлія спачатку без усякіх пакут сумлення шкодзіць Віктару: псуе машыну, наводзіць на яго бандытаў, бессаромна абрушвае на яго ўсе свае жаночыя чары. Але раптоўнае каханне да Віктара робіць яе зусім іншым чалавекам... Вобраз не даецца ў развіцці, а проста пераломваецца папалам, распадаецца на два вобразы — адмоўны і станоўчы (дарэчы, на гэтыя дзве чорна-белыя фарбы ў фільме дзеліцца ўсё). Учынкі Дэліі, узятыя з дэтэктыўных фільмаў невысокага гатунку, знаёмыя да дробязей: шпіёнка, перароджаная каханнем. Ствараецца ўражанне, што аўтары ўвялі яе ў гэтую мужчынскую кампанію толькі для таго, каб мець магчымасць прадэманстраваць прыгожыя туалеты, якія так да твару артысткі Л. Румянцавай, і задаволіць патрэбу пэўнай часткі публікі ў «любоўнай лініі» .

А можа, узаемаадносіны з такой жанчынай нейкім чынам выяўляюць характар Віктара? Не. І ён трымае сябе як знаёмы нам па тых жа не дужа глыбокіх дэтэктывах «партнёр» спакуслівай агенткі.

Часам кінематаграфісты, якія ствараюць вострасюжэтныя фільмы, скардзяцца, што крытыкі не ўлічваюць асаблівасцей такіх стужак. Так, у прыгодніцкім фільме могуць сустракацца самыя неверагодныя сітуацыі, самыя нечаканыя павароты сюжэта. Але ніякі жанр не можа апраўдаць нівеліроўку і шэрасць персанажаў, падмену сапраўдных сутыкненняў характараў, канфліктаў — прыгодамі, «абкатанымі» незлічонае мноства разоў у такога роду літаратурнай і кінематаграфічнай прадукцыі. Тым больш крыўдна, што ў «Харошым хлопцы» нават сюжэт не выклікае хвалявання: нечаканасцяў няма, кожны эпізод прадвырашаны, абумоўлены загадзя зададзенай перавагай галоўнага героя над астатнімі.

Зыходзілі аўтары з добрых намераў. Яны мелі, відаць, і жыццёвыя прыклады, якія давалі падставы прыблізна так, як гэта зроблена ў фільме, будаваць сюжэт. Ды толькі адсутнасць жывога, багатага ўнутрана, псіхалагічна дакладнага ва ўсіх паводзінах, рашэннях, учынках характару зводзіць, як кажуць, да схемы ўсю гэту гісторыю з МАЗам на гоначных маршрутах. Не выратоўвае і таленавіты, абаяльны, «прызначаны» прыродай на ролю «харошага хлопца» артыст М. Алялін. Яго Віктар Логінаў многае робіць умела, нават кінематаграфічна ўмела: водзіць аўтамабіль, усміхаецца ў аб'ектыў кінакамеры, праходзіць праз выпрабаванні, захоўваючы сябе незаплямленым. Але глядач ні на хвіліну не сумняваецца, што так — рэцэптурна! — і павінен ён выглядаць у перыпетыях прыгодніцкай стужкі...

Яшчэ адзін пасрэдны фільм выпусціла студыя. Яшчэ раз у друку з'яўляюцца то востра крытычныя артыкулы, то амаль фельетонныя, на мяжы пародыі, выказванні. Гэта крыўдна. Крыўдна за студыю «Беларусьфільм», якая і на гэты раз патрэбную тэму і добрыя мастакоўскія намеры дазволіла звесці да «кіношнай» схемы не лепшага гатунку.

Калектыў студыі не мог, канечне, быць падказчыкам у рэжысёра, але спыніць яго ўвагу на выдатках і стратах зусім яўных, на праліках, звязаных з густам, — мог. Ці не для гэтага існуе мастацкі савет? Папрокі за адзін шэры фільм адрасуюцца яго аўтарам, за серыю стужак нізкай мастацкай якасці — калектыву, які мірыцца з патокам такой прадукцыі.

**Святлана КЛІМКОВІЧ.**

# ДЗЕНЬ ДОБРЫ, ГАЛАН!

*ДА 70-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ*

Бацька мой загінуў на вайне, вызваляючы ад фашысцкай погані Украіну. У апошнім сваім пісьме дамоў ён пісаў, што бачыў карэспандэнта ўкраінскай газеты Я. Галана, які падарыў яму кніжку вершаў Шаўчэнкі. «Светлая душа, ясны розум у гэтага ўкраінца» — так адгукнуўся бацька пра Галана.

Праз некалькі дзён бацькі не стала. Загінуў ад варожай кулі ў час атакі. З таго часу вобраз Яраслава Галана зліўся ў маім уяўленні з вобразам бацькі-камуніста.

...На фронце Яраслаў Галан пісаў ваяўнічыя артыкулы, апавяданні, памфлеты.

Адгрымела вайна. Антыфашыст Яраслаў Галан добра ведаў, якой цаной дасталася народам свету і ў першую чаргу савецкім людзям Перамога. Фашысцкія завадатары паўсталі перад судом народа. Як афіцыйны прадстаўнік УССР едзе Галан у Нюрнберг, дзе на судовым працэсе выкрывае фашысцкіх ваенных злачынцаў і самых лютых ворагаў украінскага народа — украінскіх нацыяналістаў.

Гады, гады... Яны, як вехі барацьбы, вызначаюць кіпучае жыццё і дзейнасць Яраслава Галана — пісьменніка, публіцыста, дэпутата Львоўскага гарадскога Савета.

...Львоў. Гвардзейская вуліца. Музей Яраслава Галана. Сюды ідуць і ідуць людзі рознага ўзросту з усіх канцоў нашай неабдымнай краіны, ідуць, каб аддаць даніну павагі палымянаму барацьбіту за народнае шчасце.

Адкрыты позірк, усмешлівыя вочы... Глядзіць Галан з партрэта быццам жывы, уважліва ўзіраючыся ў людскія твары і сэрцы. Вось крэсла, на якім любіў сядзець пісьменнік, вось пісьмовы стол, плашч, касаваротка, якую падарылі «дзядзьку Яраславу» дзеці са школы-інтэрната. Кожная рэч у пакоі — частачка жыцця Галана.

Нельга без хвалявання аглядаць экспанаты. Нельга не захапляцца сілай і страсцю пісьменніка-камуніста. На стэлажах і панелях — газеты, кнігі, часопісы, лістоўкі, і рукапісы — жывое, палымянае слова Галана, звернутае да нашчадкаў.

Сівавалосы гуцул па складах чытае назвы кніг пісьменніка, якія нясуць людзям праўду. А побач з дзесадам — малады рабочы з Урала, настаўніца з Ашхабада.

Галану сёння было б семдзесят гадоў.

...Калі праходзіш па вуліцах Львова, калі ўвечары запальваюцца агні заводскіх карпусоў, калі слухаеш у садах і парках дзіцячы гоман і шчэбет птушак, калі, схіліўшы галаву, стаіш ля манумента Славы і Кургана Славы, узведзеных у гонар загінуўшых у баі нашых бацькоў і братоў, міжволі ўспамінаеш Яраслава Галана, які да апошніх дзён сваіх змагаўся за гэты цудоўны свет.

**А. КОСАЎ.**

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Леаніду Гаўрылкіну з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці бацькі.**

# ВАРТА ПРАВОДЗІЦЬ ШТОГОД

*КОНКУРС НА ЛЕПШУЮ РЭЦЭНЗІЮ СЯРОД ШКОЛЬНІКАЎ МІНСКА*

Тэатральнае мастацтва спрыяе гарманічнаму развіццю чалавека. Гэта агульнавядома. Але працэс уздзеяння яго на падлеткаў, гэта значыць яго пазнавальная, эстэтычная і ідэйна-выхаваўчая роля, на жаль, у нашай рэспубліцы да гэтага часу глыбока не вывучаліся. А між тым пытанне гэтае надзвычай важнае, яно патрабуе не толькі даследавання, але і свядомага кіравання з боку нашых мастацкіх і навукова - педагагічных устаноў.

Пэўным крокам у гэтым напрамку стаў конкурс на лепшую тэатральную рэцэнзію сярод вучняў старшых класаў горада Мінска, прысвечаны 50-годдзю утварэння СССР. Арганізавалі яго секцыя тэатральных крытыкаў і Дом мастацтваў Беларускага тэатральнага аб'яднання сумесна з гарадскім аддзелам народнай асветы і гаркомам ЛКСМБ. Галоўная мэта конкурсу — больш цесная сувязь школы з тэатрам, прапаганда лепшых дасягненняў шматнацыянальнага савецкага тэатра, аналіз лепшых творчых здабыткаў беларускай сцэны, выяўленне здольнасцяў падлеткаў.

Ад вучняў 8—10 класаў патрабавалася выказаць асабістае ўражанне ад прагледжанага спектакля, вызначыць ідэйна-мастацкую вартасць, прааналізаваць работу рэжысёра, мастака, выканаўцаў. Абумоўлівалася, што рэцэнзавацца могуць толькі спектаклі на сучасную тэматыку, што сёння ідуць на сцэнах тэатраў горада.

Конкурс праводзіўся ў два туры на працягу сёлетняй вясны. Спачатку спецыяльныя журы, складзеныя з настаўніцкага актыву, правялі адбор лепшых работ. Дарэчы, у конкурсе прыняло ўдзел 52 школы, рэцэнзіі на спектаклі напісалі звыш сямі тысяч вучняў.

На другі тур, што адбываўся ў Доме мастацтваў у чэрвені месяцы, паступіла 79 лепшых школьных работ, якія разглядзела спецыяльнае журы тэатральных крытыкаў і тэатразнаўцаў, творчых работнікаў мінскіх тэатраў, прадстаўнікоў гарана і гаркома ЛКСМБ.

Пасля абмеркавання журы адабрала для ўзнагароджання два дзесяткі лепшых рэцэнзій. Першае месца ў гэтым своеасаблівым спаборніцтве атрымалі рэцэнзія на спектакль «А зоры тут ціхія...» Б. Васільева, якую напісаў вучань 10 класа 90-й сярэдняй школы Сяргей Аляксандраў, і рэцэнзія на спектакль «Трыбунал» А. Макаёнка вучаніцы 10 класа 15-й сярэдняй школы Марыі Качук. Яны ўзнагароджаны ганаровымі дыпломамі і прэміраваны 7-дзённай творчай паездкай у Маскву, дзе пазнаёмяцца са спектаклямі сталічных тэатраў.

Тэатральныя бібліятэчкі з аўтографамі аўтараў, артыстаў і рэжысёраў атрымалі адзначаныя другой прэміяй вучні старшых класаў Ірына Сафронава (95 школа), Таццяна Лясецкая (84 школа), Марыя Кляўко (60 школа), Вікторыя Бізунова (1 школа) і іншыя.

Адзінаццаць вучняў адзначаны трэцяй прэміяй і каштоўнымі падарункамі, а каля 40 удзельнікаў — заахвочвальнымі граматамі Беларускага тэатральнага аб'яднання і гаркома ЛКСМБ. Некалькі рэцэнзій прапанавана для публікацыі...

Конкурс на лепшую тэатральную рэцэнзію сярод школьнай моладзі адбыўся ў нашай рэспубліцы ўпершыню. Зразумела, што ў яго арганізацыі і правядзенні выявіліся пэўныя недахопы. Па-першае, нельга лічыць правільным, што ў рэцэнзаванні спектакляў удзельнічалі толькі вучні 8—10 класаў. Цікавей гэтыя рамкі пашырыць да 5—10 класаў. Па-другое, беспадстаўна абмяжоўваць конкурс толькі горадам Мінскам. Дзеці знаёмяцца з тэатрам і ў абласных гарадах. Нарэшце, і ў раённых цэнтрах, у буйных калгасах і на будоўлях, на прадпрыемствах аддаленых мясцовасцяў часта бываюць на гастролях тэатральныя калектывы. Нельга забываць і пра народныя тэатры, якіх у нас ужо нямала. Улічваючы гэта, наступны конкурс, мэтазгодна распаўсюдзіць на школы ўсёй рэспублікі.

Думаецца, не зусім правільна, што ў першым туры конкурсу адборам школьных рэцэнзій займаліся выключна педагогі і настаўнікі па выкладанні літаратуры і мовы, ацэнкі якіх часам розняцца з ацэнкай тэатральных крытыкаў. У склад раённых журы неабходна ўключаць прадстаўнікоў тэатральнай грамадскасці, работнікаў культуры, артыстаў, рэжысёраў, педагогаў і студэнтаў тэатральных вучылішчаў, кіраўнікоў гурткоў мастацкай самадзейнасці і г. д.

Звяртае на сябе ўвагу і той факт, што на конкурс не паступіла ніводнай рэцэнзіі, напісанай на беларускай мове.

Восем дзесяткаў школьных рэцэнзій, разгледжаных членамі журы ў другім туры конкурсу, наводзяць на роздум. Перш за ўсё радуе масавасць школьных аматараў сцэнічнага мастацтва — сем з паловай тысяч падлеткаў удзельнічала ў конкурсе... Пэўная частка работ аказалася чамусьці напісанай на літаратурныя творы, оперныя спектаклі і кінафільмы. Прыкра і тое, што не заўсёды прысутнічаў і строгі кантроль з боку педагогаў. Члены журы ў асобных рэцэнзіях заўважылі звычайнае запазычанне думак, пераказ ацэнак прафесійных тэатральных крытыкаў, а то і цалкам спісванне друкаваных рэцэнзій.

Наводзіць на роздум і выбар аб'ектаў рэцэнзій. Па работах другога туру конкурсу можна ў пэўнай ступені меркаваць аб прыхільнасці дзяцей да таго ці іншага калектыву, спектакля. У гэтых адносінах больш пашанцавала Рускаму тэатру БССР імя М. Горкага і асабліва яго спектаклю «А зоры тут ціхія...». Шмат рэцэнзій на «Разгром» і на «Саслужыўцаў». Выклікалі цікавасць спектаклі «Трыбунал», «Амністыя», «Залатая карэта» Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Менш ахвотна адгукнуліся дзеці на спектаклі тэатра юнага гледача. Але характэрна, што больш за ўсё вострых крытычных заўваг выказана менавіта пра спектаклі гэтага тэатра.

Прыемна, што лепшыя рэцэнзіі — гэта не тыповыя школьныя сачыненні і пераказы на зададзеную тэму. У іх робіцца сур'ёзная спроба па-свойму асэнсаваць спектакль, ацаніць работу рэжысёра, выканаўцаў, мастака, кампазітара. Вядома, не заўсёды юным аўтарам удаецца гэта. Часта замест такой ацэнкі выказваюцца толькі ўласныя эмоцыі. Амаль ва ўсіх работах адчуваецца добрая літаратурная падрыхтоўка. Хочацца рэкамендаваць калектывам тэатраў пазнаёміцца з лепшымі з гэтых рэцэнзій на вытворчых сходах.

З разважанняў і прызнанняў школьнікаў, можна бачыць складаны працэс уздзеяння тэатральнага мастацтва на фарміраванне іх характараў, на выхаванне патрыятычных пачуццяў. Увесь гэты матэрыял можа даць шмат карыснага не толькі педагогам, але і даследчыкам тэатральнага мастацтва.

Секцыя тэатральных крытыкаў і Дом мастацтваў Беларускага тэатральнага аб'яднання пачалі цікавую і вельмі патрэбную справу. Магчыма, такія конкурсы варта праводзіць кожны год.

**С. ПЯТРОВІЧ,**
кандыдат мастацтвазнаўства.



У хатнім музеі ветэрана Камуністычнай партыі аршанца Рыгора Лукіча Базылёва звыш чатырох тысяч экспанатаў. Гэта значкі, памятныя медалі, прысвечаныя У. І. Леніну, партыі, камсамолу.

Фота А. ЦЕРЛЮКЕВІЧА, (БЕЛТА).

**У НАШАЙ КРАІНЕ ПАЧАЎСЯ МЕСЯЧНІК ДРУЖБЫ І БРАТНЯЙ САЛІДАРНАСЦІ З ГЕРАІЧНЫМ В'ЕТНАМАМ**

# ДЗЕСЯЦЬ МАРШРУТАЎ ПА В'ЕТНАМЕ

**«На працягу мінулых сямі дзён ЗША, працягваючы свой экстрэмісцкі курс, засыпалі В'етнам бомбамі розных тыпаў — ад маленькіх каварных «шарыкавых» да 900-кілаграмавых «тоўстых альбертаў». Знішчаны дзесяткі бальніц, школ, разбураны дамбы».**

**З газет.**

У БЕЛАРУСКІ дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна на імя загадчыка кафедры фізічнай геаграфіі В. Г. Заўрыева прыйшло пісьмо і пасылка. У пасылцы — кніжка. Першы том «Фізічнай геаграфіі В'етнама», сумесная праца в'етнамскіх і савецкіх вучоных. А таксама пісьмо, у якім в'етнамскія калегі выказваюць надзею, што настане, час, калі Паўднёвы і Паўночны В'етнам уз'ядноюцца, мір на шматпакутнай в'етнамскай зямлі будзе ўстаноўлены, і сумесна пачатую работу можна будзе прадоўжыць.

Вось кароткая перадгісторыя гэтага пісьма. Некалькі год назад прафесар В. Г. Заўрыеў з Мінска і прафесар Э. М. Мурзаеў з Масквы на працягу года працавалі ў якасці кансультантаў па вывучэнні фізіка-геаграфічных умоў і раяніраванні В'етнама. Гэта была, па сутнасці, першая сур'ёзная работа ў такім плане, у выніку яе, былі вызначаны геаграфічныя раёны краіны, складзены геаграфічныя карты, дадзены апісанні фізічных і геаграфічных умоў В'етнама. Плён гэтай работы быў разгледжан Дзяржпланам ДРВ і выкарыстаны пры складанні пяцігадовага плана.

Аб месяцах, праведзеных у В'етнаме, член праўлення Беларускага аддзялення таварыства савецка-в'етнамскай дружбы прафесар В. Заўрыеў расказвае:

— Нашай экспедыцыі, у склад якой, акрамя мяне і майго калегі з Масквы, уваходзілі дзесяткі в'етнамскіх вучоных, была даручана вялікая і складаная работа. У нас амаль не было першакрыніц— французы вывезлі з сабой усё, што існавала, напісанага і сабранага па гэтым пытанні. Мы абхадзілі краіну ўздоўж і ўпоперак, працуючы, што называецца, навобмацак. Дзесяць маршрутаў па дзесяць тысяч кіламетраў кожны — такі пройдзены намі шлях. Мы не дабраліся толькі да самай высокай вяршыні В'етнама Фан Сі Пан, але і яе пасля нас даследавалі нашы вучні.

Вынікі нашай работы былі апублікаваны ў В'етнаме, Злучаных Штатах Амерыкі і савецкім друку.

12 месяцаў, праведзеных у В'етнаме, застануцца ў маёй памяці назаўсёды. Працуючы поплеч з в'етнамскімі калегамі, сустракаючыся з насельніцтвам, назіраючы іх у працы, побыце, у дні ўрачыстасцяў, мы параднiліся з гэтым працавітым, вынослівым, гатовым да ўсякіх пакут у імя сваёй краіны народам. Дзякуючы гэтым якасцям в'етнамцы штодзённа, можна

# НАШ ДРУГ—НАРОДНАЯ ПОЛЬШЧА

**РЭСПУБЛІКАНСКІ КОНКУРС НА ЛЕПШАЕ ВЕДАННЕ ПНР**

*У сувязі з 50-годдзем утварэння Саюза ССР і 28-й гадавінай Польскай Народнай Рэспублікі ўпраўленне па замежнаму турызму пры Савеце Міністраў БССР сумесна з прадстаўніцтвам польскага бюро падарожжаў «Орбіс» у СССР і Саюзам журналістаў БССР праводзяць з 20 ліпеня па 15 кастрычніка 1972 года конкурс на лепшы артыкул, нарыс, тэлерадыёперадачу аб дружбе і супрацоўніцтве Савецкага Саюза і Польскай Народнай Рэспублікі.*

*Конкурс ставіць сваёй мэтай расказаць у артыкулах, нарысах, тэле-радыёперадачах аб дружбе і супрацоўніцтве Савецкага Саюза і Польскай Народнай Рэспублікі, садзейнічаць расшырэнню ведаў працоўных Беларусі аб ПНР, яе поспехах у сацыялістычным будаўніцтве, прыгажосці яе прыроды, аб развіцці турызму.*

*У конкурсе могуць удзельнічаць усе жадаючыя: журналісты, рабочыя, калгаснікі, інжынерна-тэхнічныя работнікі, прадстаўнікі інтэлігенцыі, студэнты, актывісты аддзяленняў Таварыства савецка-польскай дружбы, турысты, якія пабывалі ў ПНР.*

*Артыкулы і нарысы аўтары павінны накіроўваць у рэспубліканскія, абласныя, аб'яднаныя раённыя і шматтыражныя газеты, рэдакцыі тэлебачання і радыёвяшчання з паметкай «На конкурс «СССР—ПНР». Лепшыя з іх будуць апублікаваны і перададзены па радыё і тэлебачанні.*

*Апублікаваныя ў друку, перададзеныя па тэлебачанні і радыё матэрыялы не пазней, як 15 кастрычніка накіроўваць у журы конкурсу па адрасе: Мінск-78. Паркавая магістраль, 19, упраўленне па замежнаму турызму пры Савеце Міністраў БССР.*

*Аўтарам лепшых артыкулаў, нарысаў, тэле-радыёперадач будуць прысуджаны наступныя прэміі: дзве турысцкія пуцёўкі ў ПНР, турысцкі веласіпед, транзістарныя радыёпрыёмнікі, турысцкая палатка, розныя сувеніры і заахвочвальныя прэміі.*

*Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў друку, па тэлебачанні і радыё 15 лістапада 1972 года.*

БЕЛТА.

**КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ ЗА РУБЯЖОМ**

# ДРАЎЛЯНАЕ ДОЙЛІДСТВА ФІНЛЯНДЫІ

Заходняе ўзбярэжжа Фінляндыі, зрэзанае фіёрдамі, доўгі час заселенае шведскімі мараходамі і лесарубамі, да гэтай пары захоўвае сляды шведскай каланізацыі і культуры.

Першыя цэрквы, пабудаваныя шведамі ў Фінляндыі, былі драўляныя. Пазней яны згарэлі і былі заменены гранітнымі будынкамі. Аднак пасля таго, як у 1593 годзе Швецыя і Фінляндыя афіцыйна прымкнулі да «Аўсбургскага веравызнання», гэтыя каменныя цэрквы сталі для пратэстанцкага насельніцтва сімвалам ненавіснай папскай улады. Далей, імкнучыся, з аднаго боку, пазбегнуць раскошы, уласцівай каталіцкім храмам, а, з другога, сэканоміць сродкі, фіны пачалі вяртацца да даўняй традыцыі і зноў будаваць драўляныя цэрквы. Велізарныя прасторы Фінляндыі пакрыты лесам, рабочая сіла пастаўляецца суднабудаўнічымі верфямі. Не дзіўна таму, што большасць цэркваў Фінляндыі XVII і XVIII стст. — драўляныя.

Тэхніка іх будаўніцтва характэрна для дойлідства паўночных краін з іх ка-

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Б. ГЕРСТАН

## ДЗЯКУЙ СЛЕСАРУ!

Здарылася непрыемнасць: зламалася газавая калонка. Пазванілі ў бюро рамонту. Запісалі адрас, сказалі, што слесар прыйдзе заўтра на працягу дня. Папярэдзілі, каб чакалі.

Чакаў цэлы дзень. Слесар не прыйшоў. А я — чытаў. Прачытаў Гашэка, Зошчанку, Ільфа і Пятрова і падшыўку «Вожыка» за мінулы год. Было весела...

Пазваніў у бюро рамонту. Папрасілі прабачэння і сказалі, што слесар быў, але не ў мяне. Пераблытаў адрас. Да мяне прыйдзе заўтра. Чытаў. Званілі з работы, запыталіся, ці не трэба чаго.

Зноў чакаў. Зноў ніхто не прыйшоў. Але — хопіць белетрыстыкі... Прачытаў кнігу па гісторыі старажытнага Усходу, якую прынёс сусед. Вечарам пазваніў у бюро. Адказалі, што слесар прыходзіў, ды мяне не было дома. Прыйдзе заўтра.

Нарэшце! Вечарам завітаў слесар. Пастукаў па калонцы, вывінціў нейкую дэталь і сказаў, што, на жаль, рабочы дзень закончыўся. Рабіць прыйдзе заўтра. Пакуль чакаў яго, прачытаў падручнік «60 урокаў класічнага танца».

Слесар не прыйшоў. Вырашыў паставіць дэталь сам. Паставіў, але, відаць, не так... Стаў чытаць кнігу аб паўночных экспедыцыях Амундсена.

Праз два дні наведаўся слесар і заявіў, што я сапсаваў яму ўсю работу. Наведаецца... заўтра. Кнігі ў суседзяў скончыліся. Выпісаў тое-сёе праз «Кнігу—поштай»...

Прайшло два месяцы. Слесар толькі і зрабіў, што забраў на рамонт нейкую дэталь. Мяне гэта ўжо не хвалюе. Хай сабе корпаецца... Урэшце, я ўдзячны гэтаму сціпламу чалавеку. За час рамонту я падрыхтаваў дысертацыю пра ўплыў старажытнай усходняй культуры на танцы народаў Поўначы. Заўтра абарона. Дзе б знайсці чалавека, каб пасядзеў дома? Раптам прыйдзе слесар!

Алесь БАЖКО

## БАРСУК-АДМІНІСТРАТАР

*З ЗАПІСАК НАТУРАЛІСТА*

Далі пасаду Барсуку,
Хоць ведалі — заваліць.
Ды нехта дурня хваліць,
Бо ўжо сядзіць на карчуку —
Кіруе выпасам. Свой штат,
Сваю кантору мае,
З кніг навылізвае цытат
І ўсім мараль чытае.
«Глядзі, каб воўк цябе не з'еў», —
Крычыць з дупла Вавёрка.
Барсук ашчэрыўся, злуе
Абнёс ламаччам горку.
Воўк не падступіцца...
І Лось —
Начальнік гэтай дзялкі —
На карчуках зганяе злосць.
Барсук, прамоўца палкі,
Яго на Зайца нацкаваў,
Пад нос шпурляе шышкі:
«Вось вам якая тут трава!» —
Ды зноў гартае кніжкі,
Злы на дасведчаных, чума, —
Ніяк іх не абскача,
Хоць Крот цішком на дачы
Трактат яму згарбузаваў.
Пра што! Спрабуйце адгадаць.
Пра інтэр'еры ў норах.
Янот — таксама добры таць —
Ужо збірае кворум...
Барсук яму ў сваёй нары
Адгарадзіў мясцечка.
А сам да спёкі на гары
Падрэмле — і на рэчку,
Баброў выхоўвае. Бяда.
Адзін ссівеў за лета:
«От бог начальнічка нам даў!
Шанцуе прайдзісвету.
Зубры не чулі пра яго.
Мядзведзь на ладан дыша.
Алень рагамі на сасне
Яму рацэпты піша...
А гэты чмут...»
«Маўчы, кумок! —
Скрыпіць Бабру Сарока, —
Барсук дурны, бы той пянёк,
Ды ўжо залез высока...»

Не выйшла! Грымнуў звысака!
Ляснік прыехаў з пушчы,
Прывёз мне барму з Барсука
І дзве біклагі тлушчу.

*З ЗАМЕЖНАГА ГУМАРУ*



Францыя.



ФРГ.



Індыйская абарона.

Куба.

Януш АСЭНКА

## ЯК Я ЛЯЧЫЎ СВАЕ НЕРВЫ

МАЯ НЕРВОВАЯ сістэма пачала нагадваць пашарпанае павуцінне.

— А ты паспрабуй рыбку, — параіў мне адзін мой знаёмы. — На хворыя нервы лепшага лякарства няма.

Я папрасіў знаёмага расказаць пра гэтае лякарства больш падрабязна і даведаўся, што справа не ў тым, каб паласавацца рыбкай у рэстаране, дзе, як вядома, прычын для раздражнення іншы раз хоць адбаўляй, а каб яе злавіць. Улонне прыроды, духмянае паветра, суцяшальны ўплыў вады павінны былі стаць гаючым бальзамам на мае нервы.

Я вырашыў прыслухацца да парад знаёмага.

Па чутках мне вядомы былі два спосабы лоўлі рыбы: сеткай і на вуду. Сеткі давялося нават бачыць на пляжы ля мора. Вялізныя... Але ж мне патрэбна лячыць нервовую сістэму, а не турбавацца аб тым, дзе збыць тоны злоўленай рыбы. І я спыніўся на вудзе.

У магазіне з рыбацкімі снасцямі ўся сцяна — адны вуды. Вялікія і малыя, тоўстыя і кароткія, нават каляровыя, памаляваныя.

— Калі ласка, вам якую — на стронгу, ліня, шчупака, плотку ці карася? — сыпаў пытаннямі прадавец.

Мне гэтыя назвы гаварылі няшмат. Я, праўда, люблю фаршыраванага шчупака, ліня ў смятане і з кропам, скумбрыю ў тамаце. Але ж тут на першым плане лячэнне маіх нерваў, а не смак рыбы.

— Дайце мне гэтую, вунь тую і тую, — выбіраў я, паказваючы пальцам. — Трох вудачак мне пакуль што хопіць...

— Колькі метраў лёскі? — спытаўся прадавец.

— Ну, прыкладна на пяць кілаграмаў, — паважна адказаў я. — Навошта валачы лішняе?..

— Паплаўкі даць? — не супакойваўся работнік прылаўка.

— Тры паплаўкі не пашкодзіць, — заявіў я дыпламатычна.

— А якую колькасць грузілаў?

Ад грузілаў я адмовіўся. І так давядзецца згінацца пад цяжарам рыбы, дык навошта яшчэ нейкі груз?

— Можа, хацелі б кантэйнер для чарвякоў? — запрапанаваў прадавец.

— Я маю намер пайсці на рыбу, а не на чарвякі, — растлумачыў я.

— Разумею, — запэўніваў ён з усмешкай. — Але каб рыбу злавіць, прынада патрэбна.

— Дзеля чаго?

— Чарвяка чапляеце на кручок, закідваеце вуду ў ваду, а рыба гэта глытае, — даводзіў прадавец.

Мяне аж скаланула. Якая агіда!

— Чарвяка надзяваць на кручок? — спрабаваў я не губляць вытрымкі. — Паскудства!

— Але ж трэба! — настойваў прадавец.

Угаварыў. Я набыў той кантэйнер і розныя кручкі. А на наступны дзень, купіўшы чарвякоў (адрас мне далі знаёмыя), рушыў на рыбалку.

Усеўся на беразе. Нішто сабе беражок — і пясок, і трава, і хмызняк побач. Ціха плёскалі хвалі, сонейка павісла над лесам, птушкі спявалі. Роўнядзь ракі злёгку моршчылася ад павеву лагоднага ветрыку. Зачараваны хараством краявіду, я глыбока ўздыхнуў і выняў з кішэні пальчаткі: як інаячай браць у рукі чарвяка? З клубка чарвякоў, што пачварна вілíся ў пасудзіне, я выбраў аднаго. Пакалоў усе пальцы, а чарвяка на кручок так і не начапіў. Ці то пальчаткі былі дрэнныя, ці можа таму, што ўсю аперацыю выконваў з заплюшчанымі вачыма? Не мог глядзець на брыдоту.

У такой сітуацыі я зрабіў вывад: рыбы, прызвычаеныя да кручкоў з чарвякамі, напэўна, не паверäць, што можа існаваць кручок без чарвяка, пачнуць цікавіцца гэтым кручком і — схопяць яго. Павесіў я некалькі кручкоў на вуду, далучыў да іх скрутак лёскі, некалькі каляровых корачкаў, аб прызначэнні якіх ніяк не мог здагадацца, і ўсё гэта апусціў у ваду.

Потым заняўся другой вудай, пры якой было колца з малою ручкай і бліскучай бляшкай накшталт рыбы. Паводле інструкцыі прадаўца, гэтую бляшку належала кідаць у раку.

Я пачаў кідаць. Але як ні кіну — кручок з бляшкай замест таго, каб плюхнуцца ў ваду, чапляецца за хмызнякі. Злосць мяне апанавала — так і ашалець можна! Урэшце бляшка паляцела наперад, упала ў ваду і амаль адразу учапілася за штосьці. Ага, гэта ўжо рыба!

Узрадаваны, я пачаў цягнуць да сябе лёску, накручваючы яе на колца. Рыба скіравалася да берагу, як раптам канец пагружанай у ваду лёскі знік за купінай хмызняку. А я ўсё цягнуў. І выцягнуў з-за гэтай самай купіны... бадзёрага старога з вудай у руцэ і ў падкасаных портках. Выявілася, што кручок маёй вуды зачапіўся за кручок яго вуды.

— Праклятыя рыбы! Ніяк не бяруцца! — крычаў я, разблытваючы лёску. — Колькі часу вось так пакутую, а ніводная нат кручка не лізне, каб на іх...

Стары загадаў мне маўчаць і шэптам пачаў даводзіць, што ў час лоўлі патрэбна захоўваць цішыню, бо рыба — істота надта баязлівая.

У той час, калі я ў клубку лёсак і іншых рэчаў, прычэпленых да вуды, шукаў рыбу (ну хаця б адну!), на беразе з'явіўся нейкі чалавек. Без вуды, мусіць, купальшчык. Ён зняў з сябе адзенне, увайшоў у ваду, зрабіў некалькі рухаў і адразу пачаў тапіцца. Мала таго, што ён тануў, дык яшчэ і крычаў на ўвесь голас:

— Ратуйце! Ратуйце!

Як тут не калаціцца, не злавацца!! Такі лямант надта блага ўплываў на лоўлю рыбы.

— Цішэй! — крыкнуў я. — Вы рыбу палохаеце.

Не зважаючы на мае перасцярогі, тапелец усё крычаў. Я скочыў у ваду і выцягнуў яго на бераг. Потым ужо і гутаркі не было аб лоўлі рыбы. Ды і лавіць не было чым: пакуль я ратаваў тапельца, нехта ўкраў усе снасці, пакінуўшы мне кантэйнер з чарвякамі і некаторыя часткі маёй вопраткі. Праўда, і пальчаткі пакінуў. Я скарыстаў іх яшчэ раз, каб шпурнуць кантэйнер у хмызняк.

На наступны дзень я наведаў сваіх знаёмых. Першым іх пытаннем было: «Ну, як?» І я адказваў:

— Ці злавіў? Вядома! Та-а-кую рыбіну! У вашым пакоі і паказаць цяжка. Колькі ў вас квадратных метраў? Ну, тады хадзем на падворак, там пакажу.

Пераклала з польскай
А. ШЫЛАВА.


По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Індэкс 63856 АТ 01891